


# БЕЛАРУСКІ СЯЛЯНСКІ КАЛЕНДАР

# Ня трымайце у сябе грошаў!

Даведваемся часта, як гэты і той згубіў грошы, трымаючы іх пад печай, за абразом, у сяньніку або носячы пры сабе. Грошы зьнішчыў агонь, часам мышы забралі ў гняздо, а найчасьцей украў іх злодзей. Блага таксама пазычаць без працэнту, або за працэнт — неашчаднаму суседу або местачкаваму гандляру. Пазычыць лёгка, але сыскаць трудна. Дзеля гэтага разважнейшыя і асьвечаныя людзі грошы свае трымаюць у банках і ашчадніцкіх касах. Маюць яны ня толькі тую карысьць, што грошы тады паважна схаваныя і ў патрэбе на жаданьне могуць быць зьвернены, але йшчэ даюць даход у форме працэнтаў. Найбольшую карысьць дае ўклад запасных грошаў у касах коопэратыўных, якія называюцца Касамі Стэфчыка. Гэтыя касы плацяць найвышэйшыя законам прадбачаныя працэнты, даюць поўнае забясьпечаньне звароту, бо запасы на зварот укладаў зьбіраюць і трымаюць у паважнай фінансавай інстытуцыі, якой ёсьць Цэнтральная Каса Земляробскіх Супалкаў (**Centralna Kasa Spółek Rolniczych**). Найлепшай азнакай гэтых Касаў ёсьць тое, што яны сабраных грошаў нікуды ня вывозяць, а даюць з іх пазычкі мясцоваму насельніцтву. Той, хто складае ашчаднасьці, у першай чарзе можа лічыць на атрыманьне пазычкі. Касы Стэфчыка вядуць мясцовыя людзі, добра ўсім знаныя і выбіраныя самымі сябрамі коопэратывы, каторым можа быць так-жа кожны ўкладчык.

# Беларускі Сялянскі
# КАЛЕНДАР
# на 1939 год



**3-ці год выданьня**

*Цана 50 грошаў.*

**В І Л Ь Н Я**

**Выданьне Беларускай Кнігарні „ПАГОНЯ“.**

# *Ад выдавецтва*

*«БЕЛАРУСКІ СЯЛЯНСКІ КАЛЕНДАР» на 1939 год, як і папярэднія календары нашага выданьня, галоўным чынам зьмяшчае многа практычных парад з розных галін гаспадарскага жыцьця.*

*Былі-б мы здаволеныя, каб гэтыя парады наш селянін прыняў шчыра да сэрца і намагчымасьці карыстаў з іх у сваей гаспадарскай практыцы; былі-б мы рады, каб гэткім чынам наш календар хоць у маленькай часткі прычыніўся да стварэньня дабрабыту нашым сялянам беларусам.*

*Маем глыбокае перакананьне і надзею, што гэты наш календар, як і папярэднія, знайдзе шырокі водгалас у беларускіх сялянскіх гушчах.*

*ВЫДАВЕЦТВА „БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА КАЛЕНДАРА“*
*Беларуская Кнігарня „ПАГОНЯ“*
*Вільня, Завальная 1—2.*

Беларуская Друкарня і- Фр. Скарыны— Вільня, Завальная 1-




## 1939 год у іншых годалічэньнях

Хрысьціяне нашага краю, праваслаўныя, каталікі і інш., лічаць гады паводле хрысьціянскай эры, г. зн. ад Нараджэньня Хрыста. Аднак у гэтым годалічэньні яны паслугоўваюцца рознымі календарамі: праваслаўныя — Юльянскім ці Старым Стылем, а каталікі — Рыгар'янскім ці Новым Стылем, каторы ў некаторых аколіцах беларусы трапна называюць Нябесным Календаром.

Але ў нашым Краю ёсьць людзі, што лічаць гады паводле іншых эраў. І так: Стараверы ў сваім царкоўным жыцьці лічаць гады ад стварэньня сьвету паводле бізантыйскай эры, г. зн. ад 5508 г. перад Нар. Хрыста. Паводле гэтага лічэньня сёлетні 1939 г. хрысьціянскай эры будзе 7447-7448 годам эры бізантыйскай і год пачынаецца 1 верасьня а поўначы (па Новаму Стылю 14 верасьня).

Жыды лічаць гады паводле жыдоўскай эры і так-жа ад стварэньня сьвету, якое па вылічэньню рабіна Гільлера было ў 3761 г. да Нар. Хрыста, у панядзелак, 7 кастрычніка. У сёлетнім годзе яны пачынаюць свой 5699—5700 год. (Год пачынаецца пры Захадзе Сонца наступнага дня па першым васеньнім сходзе (настацьці) месяца).

Магамэтане (татары) лічаць гады паводле магамэтанскай эры, г. зн. ад часу падарожы Магамэта з Мэккі ў Мэдыну ў 622 г. па Нар. Хрыста, 15 ліпня. Наш 1939 г. у іх будзе 1357—1358 годам, і пачынаецца ў другой палавіне лютага.

Пачатак году магамэтанскай эры у кожным наступным годзе прыпадае на 11 дзён раней, чым у папярэднім годзе нашай эры. На сёлетнюю дату (другая палавіна лютага) ён прыпадзе толькі цераз 33 гады, у працягу каторых перасунецца цераз усе нашыя месяцы.

Трэба зазначыць, што гады магамэтанскай эры карацейшыя ад нашых гадоў на 11 дзён, і ў 33 гадох Рыгар'янскіх зьмяшчаюцца 34 гады магамэтанскія. Ад гэтага паходзяць і тыя лішнія 41 год у магамэтанскім годалічэньні, якія набраліся ад 622 году (паводле нашага годалічэньня ў іх быў-бы 1317 год).

## Характарыстыка 1939 году

Год 1939 ёсьць годам звычайным, мае 365 дзён, або 52 тыдні й 1 дзень.

Па 5 нядзеляў маюць наступныя месяцы: студзень, Красавік, ліпень, кастрычнік і сьнежань, прычым у студні й кастрычніку нядзелі прыпадуць на 1-ю дату адпаведнага месяца.

У месяцы ліпні здарыцца 2 разы поўня.

## Поры году

У 1939 г. пачатак астранамічных пораў году прыпадае: вясны — 21 сакавіка а 13 г., лета — 22 чэрвеня а 8 г., восені — 23 верасьня а 23 г., зімы — 23 сьнежня а 19 г.

Даўжыня пораў году на паўночнай паўкулі зямлі такая: вясны — 92 дні і 19 г., лета — 93 дні і 15 г., восені — 89 дзён і 20 г., зімы — 88 дзён і 18 г.

Мэтэоролёгічныя ці йначай кліматычныя поры году дакладна не супадаюць з астранамічнымі. Залежаць яны ня гэтулькі ад падняцьця сонца над гарызонтам, колькі ад супаданьня мэтэоролёгічных умоваў, як ціск паветра й тэмпэратура яго, хмарнасьць неба, паветраныя вопадзі, напрамак вятроў і інш.

Звычайна-ж — вясну лічаць ад 1 сакавіка, лета — ад 1 чэрвеня, восень — ад 1 верасьня, а зіму—ад 1 сьнежня.

## Зацьменьні месяца і сонца ў 1939 г.

У 1939 г. будуць 2 зацьменьні месяца — абодва няпоўныя — і 2 зацьменьні сонца, адно поўнае й адно няпоўнае.

З зацьменьняў месяца найцікавейшае — поўнае, але да 3 сакавіка 1942 г. яго мы ня ўбачым.

Поўнае зацьменьне сонца 12 кастрычніка будзе відаць на Антарктыдзе, г. ёсьць каля паўдзённага полюсу зямной кулі.

Бачыць у дадзенай мясцовасьці поўнае зацьменьне сонца — зьявішча вельмі рэдкае, сярэдне трапляецца раз на 360 гадоў. Апошні раз поўнае зацьменьне сонца ў нашым Краю было відаць 21 жніўня 1914 г., наступны раз убачым 30 чэрвея 1954 г., а пасьля яго ня ўбачым болей за 200 гадоў.

## Даўжыня дня й ночы ў 1939 г.

Даўжыня дня й ночы залежыць ад палажэньня сонца на экліптыцы, ці на тым вялікім крузе неба, па каторым ідзе відочны гадавы рух сонца. Калі яно знойдзецца ў верхняй частцы экліптыкі, што бывае летам, то ўсходзіць рана і заходзіць позна—тады дні доўгія, ночы кароткія. Калі-ж сонца трапіць у ніжнюю частку экліптыкі, што бывае ўзімку, то ўсходзіць позна а заходзіць рана — дні кароткія, ночы доўгія.

Самага верхняга пункту экліптыкі сонца дасягае ў дні летняга сонцастаяньня — сёлета 22 чэрвеня, і маем найдаўжэйшы дзень і найкарацейшую ноч (для Вільні адпаведна 17 г. 19 м. і 6 г. 41 м.). Найніжэйшага-ж пункту экліптыкі сёлета сонца дасягае 23 сьнежня — маем найкарацейшы дзень і найдаўжэйшую ноч (для Вільні адпаведна 16 г. 46 м. і 7 г. 14 мінутаў).

Дзень пачынаецца з таго мамэнту, калі на ўсходнім гарызонце пакажыцца верхні край сонца, а канчаецца тады, калі на заходнім гарызонце схаваецца апошняя палоска ці край заходзячага сонца. Аднак-жа гэтымі мамэнтамі не абмяжоўваецца дзень, ён яшчэ прадоўжваецца г. зв. змрокам (вячэрнім і ранішнім). Практычна змрокам лічыцца той кавалак часу па захадзе сонца ці перад усходам яго, калі на месцы ўсюды адкрытым цяжка чытаць нармальнай вялічыні друк. Гэткі грамадзянскі змрок, вячэрні й ранішні разам, у нашым Краю трывае найдаўжэй летам (больш-менш ад 25 мая да 20 ліпня—каля 1 гадзіны). Найкарацейшы змрок, бо каля 45 мінутаў, маем у верасьні і ў кастрычніку.

---

## Прадсказаньні на 1939 год

*паводле астралёгіі й стагоднага календара*

### Прадсказаньні агульныя

Пануючай плянэтай у 1939 годзе ёсьць Марс — плянэта гарачая й гвалтоўная, людзям няспрыяйная.

Паводле астралёгіі — гады Марса прыносяць няшчасьці й розныя забурэньні паміж людзей, асабліва ў тых краёх, каторымі плянэта Марс апякуецца.

Гады, над каторымі пануе плянэта Марс, бываюць болей сухімі, чым вогкімі, і спрыяйныя ўраджаю стручковых расьлін. У гадох Марса бываюць шкодныя вятры, паводкі, навальніцы з градам. На гады Марса астралёгія прадсказывае панаваньне хваробаў, пераважна з гарачкамі.

Хто родзіцца пад плянэтаю Марса — будзе мець благі характар, брахун і злодзей. Дажывае да глыбокай старасьці.

### Прадсказаньні частковыя

Вясна — наагул сухая, вострая й сьцюдзёная, з частымі халоднымі вятрамі й шаронамі. Пратрывае гэта амаль да чэрвеня месяца. У зімовых месяцах перад вясною трэба

спадзяваца адлігаў з паўдзённа-заходнімі вятрамі. Халодныя й вострыя вятры вясною значна пашкодзяць падрастаючай маладой збажыне.

Лета — вельмі гарачае, асабліва ў сваім часе, калі не перашкодзяць іншыя ўплывы. Ночы вельмі цёплыя й парныя. Спачатку лета і ў канцы ліпня — частыя навальніцы з пярунамі й градам.

Восень — болей сухая, чым вогкая. Сьнег выпадзе позна, позна пачнуцца маразы й стануць рэкі. Хоць у кастрычніку й здарацца маразы, але лістапад будзе цёплым і недакучлівым.

Зіма — позная, мерная, досыць сьцюдзёная, то ветраная, то вогкая, але болей сухая. Зіма — вельмі нясталая, з малою надзеяй на добрую санную дарогу.

## Ураджаі ў годзе Марса

У годзе Марса наагул — ураджай мерны, а мясцамі нават і слабы. Ярына, асабліва далікатная, на роўнядзі можа здарыцца й добраю; ячменю й пшаніцы дакучаць вятры. Азіміна будзе лепшаю, жыта — зярністае. Стручковыя — на клустых палёх удадуцца добра. Лён і каноплі хоць малыя і дробныя, але багатыя прадзівам. Гародніны будзе ўдастачу; садовіны — мала, болей будзе йгрушаў, чым яблыкаў. Сена — ўдастатку.

З прычыны гарачага лета — вельмі шмат чарвякоў і хрушчоў; шмат і вужоў, але затое мала жабаў і мышэй.

## Плянэта Марс у стагоднім календары

З панаваньня плянэты Марса над 1939 годам стагодні календар прадсказывае: першы ў годзе вялікі мароз— 1 студня; першы веснавы дождж — 18 красавіка; першыя грымоты — 3 мая; апошні веснавы прымаразак — 1 мая; першая навальніца — 9 жніўня; першы сьнег увосень — 25 кастрычніка; апошні ў годзе дождж — 6 сьнежня; першы мароз па восені — 17 сьнежня.

## Астраномія аб плянэце Марсу

Марс — плянэта, астраномамі найболей вывучаная. Далечыня Марса ад сонца ў паўтара разы большая за такую-ж далечыню зямлі і налічае 225 мільёнаў км. Акружвае сонца ў працягу 687 земскіх дзён, бягучы па сваей дарозе па 24 кілямэтры ў сэкунду.

Папярэчнік Марса — 6500 км., паверхня — у 4 разы меншая ад паверхні зямлі, абыймо — у $6^1/_2$ разоў, а маса— ў 9 разоў меншая ад абыйма й масы зямлі. Гушчыня масы крыху меншая ад сярэдняй гушчыні масы зямлі. З гэтага вынікае, што Марс — плянэта ацьвярдзелая, як і зямля.



Марс робіць поўны абарот navakol сваей восі ў працягу 24 г. і 37 мінутаў, дык „дзень" на Марсе крыху даўжэйшы ад земскага дня. Плошча экватара (роўніка) Марса нахілена да плошчы ягонай дарогі навакол сонца пад кутом 24°, вельмі блізкага да нахіленьня земскай экліптыкі. З гэтага вынікае, што на Марсе адбываюцца зьмены пораў году гэткім спосабам, як на зямлі, але марсавыя „поры году" амаль у 2 разы даўжэйшыя ад земскіх.

На паверхні Марса выступаюць творы, вельмі розныя па сваім колеры, форме й велічыні. Асабліва адрожніваюцца трывалкія месцы ясьнейшага колеру, названыя сушаю, і такія-ж трывалкія месцы цямнейшыя, названыя морамі, вазёрамі, затокамі, залежна ад іх велічыні.

Аднак-жа найцікавейшым зьявішчам на Марсе ёсьць канавы, каторыя бягуць па паверхні сушы і лучаць сабою два моры, ці з морамі вазёры. Прабягаюць яны ў кірунку мэрыдыянаў і ўсе разам сплятаюцца ў асаблівую сетку амаль геомэтрычнай рэгулярнасьці. Гэтая рэгулярнасьць наводзіла на думку, што канавы — справа разумных істотаў. Цікава й тое, што канавы маюць сувязь з „порамі году" на Марсе, а іменна з велічынёю г. зв. палярных плямаў.

Палярныя плямы — гэта белыя плямы, што пакрываюць аколіцы абодвых полюсаў. Калі на паўночнай паўкулі Марса ёсьць лета — паўночная пляма зьмяншаецца, а пабольшваецца пляма паўдзённая, і наадварот. А бывае, што пляма зусім прападае на той паўкулі, каторая мае лета. Гэтыя зьмены наводзяць на думку, што плямы ёсьць згушчэньнем нейкае цечы, каторая тае ад сонечнай цяплiні, на падабенства палярнага сьнегу й лёду на зямлі.

Калі паўдзённая пляма амаль прападае, канавы на паўночнай паўкулі выступаюць у значнай большасьці, пры гэтым яны робяцца шырэйшымі й выразьнейшымі. Калі ўзрастае паўдзённая пляма — пачынаюць прападаць найболей паўночныя канавы, потым болей паўдзённыя і ўрэшце на нейкі час прападаюць усе. Атрымліваецца ўражаньне, што гэтымі канавамі сьцякае цеча, якая стварылася ад таяньня палярных плямаў і пры помачы іх расходзіцца па ўсёй паверхні Марса.

Калі ўжо на Марсе адбываецца апісаная вышэй цыркуляцыя, дык няма ніякага сумніву, што на ім існуе й атмосфэра, падобная да земскай, але вельмі празрыстая. Згушчэньні, падобныя да нашых хмараў ці імглы, вельмі рэдка заўважаюцца ў атмосфэры Марса.

Марс мае 2 месяцы — целы вельмі маленькія й блізкія да самой плянэты. Найдалейшы месяц знаходзіцца ў 23 тыс. км. ад яе сярэдзіны. Адзін месяц, Фобос, акружвае плянэту ў працягу 7 г. 40 мін. — у часе куды карацейшым ад

часу абароту яе навакол сваей восі. Гэта адзіны ведамы прыпадак у цэлай плянэтнай сыстэме. Глядзельніку на Марсе здавалася-б, што Фобос мае рух, праціўны дзеннаму руху неба.

Бачаны з зямлі голым вокам Марс прадстаўляецца ясною чырвонаю зоркаю, каторая зьмяняецца ад 1 да 2 велічыні, залежна ад аддаленьня плянэты ад зямлі.

---

## Календарныя азначэньні 1939 г.

| Гадавыя пэрыяды | Нов. ст. | Стар. ст. |
|---|---|---|
| Залатая лічба | 2 | 2 |
| Круг сонца | 16 | 16 |
| Літара нядзелі | A | B |
| Эпакта | X | XXII |

Залатая лічба паказвае месца дадзенага году ў 19-цігоднім месячным цыклю, па сканчэньні каторага зьмены месяца ўзноў прыходзяцца на тыя самыя даты паасобных календарных месяцаў.

Круг сонца паказвае месца дадзенага году ў 28-годнім пэрыядзе, па ўплыве каторага дні тыдня ў дадзеным годзе ўзноў прыпадуць на тыя самыя даты месяца.

Нядзельная літара азначае, на каторы дзень студня прыпадае першая ягоная нядзеля.

Эпакта азначае, колькі прайшло дзён ад апошняга настаньця (сходу) месяца да 1 студня дадзенага году.

На гэтых галоўных азначэньнях гадавых пэрыядаў апіраецца вылічэньне даты хрысьціянскага Вялікадня.

---

## Праваслаўныя пераходныя сьяткі ў 1939 г.

Нядзеля аб мытару й фарызэю — 16 студня (29 студня н. ст.). Нядзеля сырапусная або Загавіны на Вялікі Пост — 6 лютага (19 лютага н. ст.). Вербніца — 20 сакавіка (2 красавіка н. ст.). Вялікдзень—27 сакавіка (9 красавіка н.ст). Прэпалавеньне Сёмухі — 20 красавіка (3 мая н. ст.). Ушэсьце Гасподне — 5 мая (18 мая н. ст.). Дзень сьв. Тройцы і дзень сьв. Духа — 15 і 16 мая (28 і 29 мая н. ст.). Нядзеля Ўсіх Сьвятых і Загавіны на Пятроўку — 22 мая (4 чэрвеня н. ст.).



## Праваслаўныя пасты, мясаедныя і ўсяедныя ў 1939 г.

Калядніца (працяг усяеднай) — ад 1 да 4 студня (ад 14 да 17 студня н. ст.). Куцьця перад Вадохрышчам — 5 студня (18 студня н. ст.). Усяедная перад Вялікім Постам — ад 16 да 22 студня (ад 29 студня да 4 лютага н. ст.). Масьленіца — ад 30 студня да 5 лютага (ад 12 да 18 лютага н. ст.). Загавіны на Вял. Пост — 6 лютага (19 лютага н.ст.). Вялікодная ўсяедная — ад 27 сакавіка да 2 красавіка (ад 9 да 15 красавіка н. ст.). Троіцкая ўсяедная — ад 15 да 21 мая (ад 28 мая да 3 чэрвеня н. ст.). Загавіны на Пятроўку — 22 мая (4 чэрвеня н. ст.). Пачатак Спасаўкі — 1 жніўня (14 жніўня н. ст.). Сьцяцьце галавы Івана Хрысьціцеля—29 жніўня (11 верасьня н. ст.). Узьвіжаньне Крыжа — 14 верасьня (27 верасьня н. ст.). Пачатак Піліпаўкі — 15 лістапада (28 лістапада н. ст.). Куцьця перад Калядамі — 24 сьнежня (6 студня н. ст.). Пачатак Калядніцы (ўсяеднай) — 25 сьнежня (7 студня н. ст.).

Пасты абавязваюць у серады й Пятніцы цэлага году, апрача г. зв. усяедных тыдняў (аднак на Масьленіцу ў сераду й пятніцу можна спажываць толькі малочную яду). У Праваслаўнай Царкве звальненьня ад посту няма.

## Памінальныя дні ў праваслаўных у 1939 г.

Бацькаўская субота перад Вялікім Постам — 29 студня (11 лютага н. ст.). І-ая памінальная субота Вялікага Посту — 19 лютага (4 сакавіка н. ст.). ІІ-ая памін. субота Вял. Посту — 26 лютага (11 сакавіка н. ст.). ІІІ-ая памін. субота Вялік. Посту — 5 сакавіка (18 сакавіка н. ст.). Радаўніца— 4 красавіка (17 красавіка н. ст.). Троіцкая бацьк. субота — 14 мая (27 мая н. ст.). Зьмітраўская бацьк. субота — 22 кастрычніка (4 лістапада н. ст.).

## Дні, калі Праваслаўная Царква не дае шлюбоў

У працягу ўсяго году — наконадні (на пярэдадні) серадаў і пятніцаў, а так-жа наконадні нядзеляў і сьвятаў. У працягу Вялікага Посту й Вялікага тыдня. У часе Пятроўкі й Спасаўкі. Наконадні і ў дні сьцяцьця галавы Івана Хрысьціцеля і Ўзьвіжаньня. У часе Піліпаўкі.

---

## Pierachodnyja katalickija śviatki ŭ 1939 h.

Niadziela Starazapusnaja — 5 lutaha. Niadziela Zapusnaja — 19 lutaha. Papielec — 22 lutaha. Vierbnica — 2 krasavika. Vialikdzień — 9 krasavika. Ušeście — 18 maja. Siomucha — 28 maja. Božaje Cieła — 8 červienia. Najśv. Serca Jezusa — 16 červienia. Chrystusa Vaładara — 29 kastryčnika. 1 Niadziela Adventu — 3 śniežnia.

Miasajed tryvaje ad Troch Karaloŭ až da Papielca j sioleta ličyć 47 dzion.

Nastupny Vialikdzień z sioletniaj dataj prypadzie ŭ 1944 hodzie. Poŭny cykl dataŭ Vialikadnia paŭtarajecca cieraz 532 hady.

## Zabaronieny čas

Viasielli i jhryščy zabaronieny: ad 1-aj niadzieli Adventu až da Kalad uklučna i ad Papialcovaj sierady až da Vialikadnia ŭklučna.

## Pasty ŭ katalikoŭ

Na Papialec, u piatnicy i suboty Vialikaha Postu, u suchija dni i vialei abaviazyvaje ścisły post i ŭstrymańnie ad miasnoje jady (u Vialikuju Subotu ad 12 h. dnia niama ŭžo postu). Uva ŭsie inšyja dni Vialikaha Postu, aprača niadzielaŭ, abaviazvaje tolki ścisły post — u hetyja dni možna jeści raz na dzień usialakuju miasnuju jadu. A tyja, što volnyja, abo zvolnienyja ad ścisłaha postu, mohuć pasilacca miasnoju jadoju bolš adnaho razu na dzień.

Uva ŭsie piatnicy ŭsiaho hodu, aprača vyšmienavanych, abaviazvaje tolki ŭstrymańnie ad miasnoje jady.

Za miasnuju jadu ŭvažajecca tolki miasa i miasnyja vyraby, prykładam kaŭbasa, a tak-ža miasny navar (rasoł). Usiakija prypravy (zataŭki, zakrasy) da jady, choć-by jany pachodzili ad źviaryny, i nia tolki małako, masła, jajki, ale j sała, sałanina, łoj, zdor i inš., mohuć užyvacca ŭva ŭsie posnyja dni ŭsiaho hodu.

U vialikija śviatki pa-za Vialikim Postam, h. zn. u takija, u katoryja jość pavinnaść pad ciažkim hrachom być na Imšy, niama postu i ŭstrymańnia ad miasnoj jady.

Vialei volnyja ad postu, kali prypadajuć na niadzieju abo na inšaje jakoje śviata z abaviazkam słuchańnia Imšy. Postu hetkaha nie pieranosiać ani na subotu, ani na inšy dzień pierad śviatam — u takija vialei postu zusim niama.

Aprača hetych ahulnych pravilaŭ u paasobnych dyjacezijach treba jšče kiravacca rasparadžeńniami biskupaŭ, katoryja abviaščajucca što hodu ŭ pačatku vialikaha Postu.



# *Новаму Году*

*Я хваліць цябе буду у песьні,*
*пакланяцца ўсей мудрасьцю слоў,*
*толькі будзь ты жаданай прадвесьняй*
*тых надходзячых новых часоў.*

*Нашы душы засьмяглі ў чаканьні*
*новай праўды на нашай зямлі.*
*Прынясі ты нам промень сьвітаньня,*
*брацкай згоды — вялікай сям'і.*

*У нашым сьвеце цяпер невясёла,*
*поўна крыўды і бед нарасло;*
*прынясі нам Вялікае Слова,*
*што з пачатку у Бога было.*

*Мы шукаем ў пацёмках дарогу,*
*зьнемагаем ў няроўным баю.*
*Прынясі ты над злом перамогу*
*і магутны спакой на зямлю.*

*М. МАШАРА*

**Январь** **СТУДЗЕНЬ—STUDZIEŃ** **Styczeń**
**1939 г.** **31 dzień** **1939 h.**

| Дні | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| Н | 19 | **Баніхвата** | 1 | **Novy Hod** |
| П | 20 | Ігната Баганошы | 2 | Makaraha ар. |
| А | 21 | Вуляны. Пётры | 3 | Henavefy p. **Daniela m.** |
| С | 22 | Настасі | 4 | Tyta b. m. Ryhaberta b.v. |
| Ч | 23 | 10-х муч. Крыцкіх | 5 | Talesfara pap. m. |
| П | 24 | *Куцьця.* Аўгені | 6 | **Try Karali. (Vadochr.)** |
| С | 25 | **Нараджж. Г. Ісуса Хр.** | 7 | Łucyjana m. i Juljana |
| Н | 26 | **Сабор Пр. Багародз.** | 8 | **Św. Siamji. Severyna op.** |
| П | 27 | Сьцяпана Першамучан. | 9 | Marcyjany p. m. |
| А | 28 | 20.000 муч. у Нікамэдыі | 10 | Jana Dobraha |
| С | 29 | 14000 муч. нялетак | 11 | Hygina pap. m. **Hanaraty** |
| Ч | 30 | Анісі. Зотыка | 12 | Arkadzia m. **Ernesta op.** |
| П | 31 | Малані Рымлянкі | 13 | 40 žaŭnieraŭ m. |
| | | СТУДЗЕНЬ 1939 г. | | |
| С | 1 | **Новы Год. Абраз. Гасп.** | 14 | Hilaraha b. d. K. |
| Н | 2 | **Сыльвэстры пап. Рым.** | 15 | **Paŭły, I-ha Pustyńnika** |
| П | 3 | Малахіі М. Гардзея | 16 | Marcelaha pap. m. |
| А | 4 | Сабор 70-х апосталаў | 17 | Antoniaha op. |
| С | 5 | *Посная Куцьця.* Феапем. | 18 | *Katedry św. Piotry й Rym.* |
| Ч | 6 | **Сьв. Богазьяўленьне** | 19 | Henryka b. Marjuša m. |
| П | 7 | *Сабор сьв. Івана Хр.* | 20 | Fabijana p. m. |
| С | 8 | Юр'я Хоззвіта | 21 | Jaŭniešy p. m. |
| Н | 9 | **Муч. Поліеўкта** | 22 | **Vincentaha m.** |
| П | 10 | Юр'я, яп. Ніскага | 23 | ***Zaručyny N. D. Maryi*** |
| А | 11 | Хвядоса Вялікага | 24 | Cimachvieja **b. v.** |
| С | 12 | Тацяны. Саўвы | 25 | *Navarot šv.* ***Paŭly Apost.*** |
| Ч | 13 | Ярмілы й Стратоніка | 26 | Palikarpy b. m. |
| П | 14 | Айцоў у Сынаю й Раіфе | 27 | Jana Załatavusnaha b. |
| С | 15 | Паўлы фів. | 28 | Flaŭjana m. Valera b. |
| Н | 16 | **Аб Мытару й Фарыз.** | 29 | **Pranciša Saleza b.** |
| П | 17 | Антона Вялікага | 30 | **Martyny p. m.** |
| А | 18 | Апанаса Вял. й Кірылы | 31 | **Piotry z Nolaska** |

| *Сонца* | | | *Зьмены месяца* | |
|---|---|---|---|---|
| Дні | Усход | Заход | Дні | Фазы |
| 5 | 7—44 | 15—05 | 5 | Поўня — у г. 23 |
| 13 | 7—38 | 15—16 | 13 | Вятох — у г. 11 |
| 20 | 7—32 | 15—28 | 20 | Сход — у г. 12 |
| 27 | 7—22 | 15—43 | 27 | Маладзік — у г. 21 |

За студзень дня прыбыло 1 г. 22 м.





## Князь Рагвалод

Беларускія плямёны Крывічы, Дрыгавічы, Радзімічы, Вяцічы і Северане, як паказвае нам гісторыя, займалі аграмадныя абшары, былі зарганізаваныя, тварылі асобныя княствы, з асобнымі князямі.

Першым ведамым з летапісу па іменьню беларускім князем быў Рагвалод. Княжыў ён у другой палавіне дзесятага стагодзьдзя, у Полацку, у сталіцы і галоўным горадзе наймагутнейшага княства гэтага самага назову, утворанага найвялікшым беларускім племем Крывічамі. Можна мяркаваць, што Рагвалод быў патомкам тых мясцовых полацкіх князёў, якія раней былі ў Полацку, але імёнаў якіх мы ня ведаем.

Рагвалод быў князем добрым, рупным і дбайным аб дабрабыт і пашырэньне свайго княства. Ён значна пашырыў Полаччыну, дадаўшы да яе адно з беларускіх, Тураўскае княства, якое было раней у залежнасьці ад Кіева.

Кіеўскі князь Уладзімер сватаўся да дачкі Рагвалода, маладой князёўны Рагнеды, але не атрымаўшы ад яе згоды выйсьці замуж, пайшоў у 980 г. паходам на Полацк, разьбіў полацкае войска, зруйнаваў горад, забіў Рагвалода і яго двух сыноў, а Рагнеду забраў сілком сабе за жонку.

---

## Народныя прыкметы аб пагодзе ў м-цы студні

Калі ў студні дажджы — дабра ня жджы.

Студзень імглісты — мокры год, студзень халодны — позная вясна й даждлівае лета. Студзень мяце — ліпень зальле.

На Новы Год сьнег падае зоркамі — лета пагоднае, калі на Новы Год сьнег падае з раніцы — уся зіма будзе сьнежная.

На Вадохрышча вельмі сьцюдзена — у жніво будзе вельмі горача.

---

### Зьмены надвор'я ў м-цы студні

(*паводле 100-годняга календара*)

1—люты мароз, маразы й далей аж да 16; 16—17—галаледзіца. 20 — зьменнае надвор'е. Ад 21 да 27 — вецер і мароз, пад канец сьнег.

Февраль 1939 г. | **ЛЮТЫ—LUTY** 28 dzion | Luty 1939 h.

| Дні | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| С | 19 | Макара Эгіпецкага | 1 | Ihnata b. m. Bryhidy |
| Ч | 20 | Яўхіма Вялікага | 2 | **M. B. Hramničnaj** |
| П | 21 | Максіма Спавядніка | 3 | Błažeja b. m. Feliksa |
| С | 22 | Ап. Цімахвея | 4 | Andreja Kors. b. |
| Н | 23 | **Аб Блудным сыну** | 5 | **N. Starazapusnaja.** Ahaty |
| П | 24 | Ксені. Вавілы | 6 | Tyta b. Daroty p. m. |
| А | 25 | *Рыгора Багаслова* | 7 | Ramualda. Ryšarda |
| С | 26 | Ксенахонта й Марыі | 8 | Jana z Maty. |
| Ч | 27 | Пераняс. мошчаў Ів. Зал. | 9 | Kiryły b. d. K. |
| П | 28 | Ахрэма Сырына | 10 | Scholastyki p. |
| С | 29 | *Бацьк. субота.* | 11 | *M. B. z Lurdu* |
| Н | 30 | **Мясапусная.** *Трох сьв.* | 12 | **N. Miasapusnaja. 7 z Ser.** |
| П | 31 | Кіра й Івана Бясрэбнікаў | 13 | Ryhora II pap. |
| | | ЛЮТЫ | | |
| А | 1 | Трыхана | 14 | Valentaha. Zenana |
| С | 2 | **Срэценьне Гасподне** | 15 | Faŭstyna j Jovity |
| Ч | 3 | Сымона й Ганны прар. | 16 | Juljany j Juljana |
| П | 4 | Сідара Пэлузіёта | 17 | Danata m. |
| С | 5 | М. Агапы | 18 | Symona b. m. |
| Н | 6 | **Сырапус.Загав.на В.П.** | 19 | **N. Zapusnaja.** Kanrada v. |
| П | 7 | Пархвена й Лукі | 20 | Lavona b. v. |
| А | 8 | Тодара Страцілата | 21 | Feliksa. Fartunata |
| С | 9 | Мікіпара. Маркела | 22 | *Papielec. Kat. šv. Piotry* |
| Ч | 10 | Харлампа і ўсіх зь ім. | 23 | Piotry Damiana |
| П | 11 | Уласа. Зьмітры | 24 | Macieja ap. |
| С | 12 | Мялеція. Аляксея. | 25 | Cezaraha i Zygfryda b. |
| Н | 13 | **І-ая В. Посту.** Мартын. | 26 | **N. Ustupnaja.** Viktara m. |
| П | 14 | Кірылы, славен. ап. | 27 | Alaksandra m. |
| А | 15 | *Віл. Абразу Б. Мацеры* | 28 | Tachvila m. Ramana op. |

*Сонца*

| Дні | | Усход | Заход |
|---|---|---|---|
| 4 | — | 7—07 | 15—59 |
| 11 | — | 6—54 | 16—13 |
| 19 | — | 6—35 | 16—31 |
| 26 | — | 6—21 | 16 45 |

*Зьмены месяца*

| Дні | Фазы | | |
|---|---|---|---|
| 4 | Поўня | — | у г. 11 |
| 11 | Вятох | — | у г. 20 |
| 19 | Сход | — | у г. 1 |
| 26 | Маладзік | — | у г. 10 |

За люты дня прыбыло 1 г. 51 м





## Рагнеда

Беларусы могуць пахваліцца тым, што маюць у сваей гісторыі слаўных жанчын. Першай такой гістарычнай жанчынай была гордая палачанка, дачка полацкага князя Рагвалода, слаўная князёўна Рагнеда. Жыла ў канцы дзесятага стагодзьдзя, была добрай Беларускай, любіла свой край і народ. Мабыць князёўна была вельмі харошай жанчынай, калі да яе сваталіся аж два Кіеўскія князі Яраполк і Уладзімер. Не жадаючы выйсьці замуж дабравольна за Уладзімера, гэтым князем была прымушана быць жонкай. Мела з ім чатырох сыноў і дзьве дачкі. Старшы сын Ізяслаў княжыў у Полацку.

Рагнеда раней ад мужа была хрысьціянкай (Уладзімер прыняў хрысьціянства ў 988 годзе) і пад канец свайго жыцьця, пераехаўшы з Кіева на Бацькаўшчыну, сярод Беларусаў шырыла хрысьціянства. На Бацькаўшчыне жыла ў мястэчку Ізяслаўе (цяперашняе Заслаўе пад Менскам). Гісторык Карамзін кажа, што Рагнеда памёрла манашкай у Ізяслаўскім манастыры, маючы хрысьціянскае імя Анастасіі.

## Народныя прыкметы аб пагодзе ў м-цы лютым

Калі ў лютым трываюць сталыя маразы—лета гарачае.
Люты халодны й сухі — жнівень гарачы.
Які дзень 1-га лютага, такія й апошнія.
У лютым востры мароз — кароткая зіма.
Калі на Грамніцы мароз – будзе хутка вясна, а калі не — будзе яшчэ сьнег і мароз.
Якая пагода на Грамніцы, такая й вясна.
На Мацея адліга — хутка будзе мароз.

### Зьмены надвор'я ў м-цы лютым

(*паводле 100-годняга календара*)

Да 7 — зьменна й дажджліва. 8—14 — прыгожая пагода. 15 - 18 — сьнягі. Ад 19 да канца месяца — дажджы, крупы й сьнег.

Март 1939 г. | **САКАВІК—SAKAVIK** 31 dzień | Marzec 1939 h.

| Дні | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| С | 16 | Памфіла і ўсіх з ім | 1 | *Suchi dz.* Albina |
| Ч | 17 | Тодара Тырона | 2 | Alony űd. Paŭły m. |
| П | 18 | Лева Вялікага | 3 | *Suchi dz.* Kunehundy |
| С | 19 | *І-ая бацькаўская субот.* | 4 | *Suchi dz. Kazimiera kar.* |
| Н | 20 | **ІІ-ая В. Посту. Агаф.** | 5 | **N. Suchaja. Jana ad K.** |
| П | 21 | Цімахвея. Аўстаха | 6 | Perpetui i Felicyty |
| А | 22 | Знах. мошч. сьв. у Еўгені | 7 | Tamaša z Akvinu |
| С | 23 | Палікарпы | 8 | Jana Božaha |
| Ч | 24 | І і ІІ зн. гал. Ів. Хрысьц | 9 | Prancišy Rymlanki |
| П | 25 | Тараса | 10 | 40 mučanikaŭ |
| С | 26 | *ІІ-ая бацьк. субота* | 11 | Kanstancina i Pałahiei |
| Н | 27 | **Крыжапакл. Пракопа** | 12 | **N. Hłuchaja. Ryhora V.** |
| П | 28 | Васіля Спавядніка | 13 | Krystyny. Nikifara |
| | | САКАВІК | | |
| А | 1 | Аўдоці. Антаніны | 14 | Matyldy karal. űd. |
| С | 2 | Хвядота. Арсеня | 15 | Klemensa Hofbaŭera |
| Ч | 3 | Яўтропа й дружыны | 16 | Cyryjaka m. |
| П | 4 | Гарасіма Ерданскага | 17 | Patrycyja b. i Hiertrudy |
| С | 5 | *ІІІ-ая бацьк. субота* | 18 | Cyryla Jeruzalimskaha |
| Н | 6 | **V-ая В. Посту. 42 м.** | 19 | **N. Siarodposn. Jazepa** |
| П | 7 | Базыля і ўсіх з ім | 20 | Jaŭchimi m. |
| А | 8 | Феафілакта | 21 | Benedyka op. |
| С | 9 | 40 муч. з Сэбасьці | 22 | Kaciaryny i Bazyla m. |
| Ч | 10 | Кандрата й дружыны яго | 23 | Feliksa m. |
| П | 11 | Сапрона. Яўхіма | 24 | Habryjela Arch. |
| С | 12 | Феахвана. Рыгора п. Р. | 25 | *Źviastavańnie N.D.M.* |
| Н | 13 | **IV-ая В. П. Аляксанд.** | 26 | **N. Čornaja. Emanuela** |
| П | 14 | Банэдыка | 27 | Jana Damascen. |
| А | 15 | Агапа й з ім 6 муч. | 28 | Jana Kapistrana |
| С | 16 | Савіна. Аляксандра | 29 | Eŭstaza op. |
| Ч | 17 | Аляксея, чал. Божага | 30 | Jana Klimaka m. |
| П | 18 | Кірылы. Трахіма | 31 | Balbiny p. i Karneli |

*Сонца*

| Дні | Усход | Заход |
|---|---|---|
| 5 | 6—00 | 17—01 |
| 13 | 5—43 | 17—16 |
| 20 | 5—26 | 17—28 |
| 27 | 5—08 | 17—43 |

*Зьмены месяца*

| Дні | Фазы |
|---|---|
| 5 | ● Поўня — у г. 23 |
| 13 | ☾ Вятох — у г. 8 |
| 20 | ◎ Сход — у г. 13 |
| 27 | ☽ Маладзік — у г. 22 |

За сакавік дня прыбыло 2 г. 14 м.



*Слаўныя людзі нашай старасьвеччыны*

## Ізяслаў

Як ведама, кіеўскі князь Уладзімер у паходзе на Полацк забіў полацкага князя Рагвалода а ягоную дачку Рагнеду (звалі яе так-жа Гарыславай) ўзяў сабе прымусова за жонку. Меў ад яе чатырох сыноў і дзьве дачкі. Найстаршы сын Ізяслаў быў пазьней на княжацкім пасадзе ў Полацку. Будучы хрысьціянінам князь гэты любіў чытаць сьвятое пісаньне, у сваей Полаччыне пашыраў хрысьціянскую веру і культуру. Адзін з летапісаў кажа аб князю Ізяславе, што быў ён рахманы, ласкавы і міласэрны.

Па гэтым беларускім князю яшчэ й цяпер у Беларусі ёсьць памятка. Недалёка ад Менска, у бок м. Ракава, над ракой Сьвіслачай, знаходзіцца малое мястэчка Заслаўе, якое збудаваў у 986 годзе бацька Ізяслава і назваў яго імям сваего сына. Назоў мястэчка, праўда, цяпер крыху зьменены. Было гэта мястэчка пазьней сталіцаю абшырнага вудзельнага княства.

Патомкі полацкіх беларускіх князёў завуцца ў гісторыі ізяславічамі, а поруч з гэтым часта летапіс называе Рагвалодавымі ўнукамі.

---

## Народныя прыкметы аб пагодзе ў м-цы сакавіку

У сакавіку туман, дык у жніва дождждык пан.

Калі ў другой палавіне сакавіка сьцюдзена — зіма пра-стаіць доўга.

Якая другая палавіна сакавіка — такая першая палавіна красавіка й лета.

Калі перад Дабравешчаньнем выляціць пчала — будзе мокрая вясна.

Дабравешчаньне бяз ластавак — халодная вясна.

На Дабравешчаньне ціха й цёпла — такое-ж і лета.

---

## Зьмены надвор'я ў м-цы сакавіку

(*паводле 100-годняга календара*)

1—6 — хмарна й холадна. 10 — туман і мароз. 20 — харошая пагода, потым маразы. У канцы месяца — харошая пагода й прымаразкі.

| Дні | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| С | 19 | Хрызанта й Дар'і | 1 | Hugona b. i Tadory m. |
| Н | 20 | **Вербніца.** Сьв. Айцоў | 2 | **Vierbnica.** Pranciša z P. |
| П | 21 | Якуба Спаведніка | 3 | Ryšarda b. |
| А | 22 | Васіля Анцырскага | 4 | Zydara b. d. k. |
| С | 23 | Нікана й 200 вучняў яго | 5 | Vincentaha Fer. |
| Ч | 24 | *Вялікі Чацьвер.* Захара | 6 | *Vial. Čaćvier.* Celestyna |
| П | 25 | *Вял, Пятніца.* Дабрав. | 7 | *Vial. Piatnica. M. B. Bal.* |
| С | 26 | *Вял. Субота.* Саб. арх. Г. | 8 | *Vial. Subota.* Dzianiza |
| Н | 27 | **Вялікдзень.** Усяедн. т. | 9 | Vialikdzień. Maryi Kleof |
| П | 28 | **2-гі дз. Вялікадня** | 10 | **2-hi dzień Vialikadnia** |
| А | 29 | Маркі й Кірылы | 11 | Lavona Vial. p. d. k. |
| С | 30 | Івана Лесьвічыка | 12 | Juljuša op. |
| Ч | 31 | Іпата Чудатворцы | 13 | Hermenihilda kar. |
| | | КРАСАВІК | | |
| П | 1 | Марыі Эгіпецкай | 14 | Justyna i Valera m. |
| С | 2 | Ціта. Палікарпы | 15 | Bazyla j Nastasi |
| Н | 3 | **Хаміна.** Мікіты | 16 | **N. Pravodnaja.** Bened. |
| П | 4 | *Радаўніца.* Язэпа | 17 | Aniceta pap. Roberta |
| А | 5 | Феадула | 18 | Apalona j Bahumiła |
| С | 6 | Мяфода, вуч. славянск. | 19 | Hermahiena |
| Ч | 7 | Юр'я Ямеліцінскага | 20 | Todara v. i Jahniešy |
| П | 8 | Ап. Радзівона | 21 | Anzelma b. d. k. |
| С | 9 | Еўпсіха | 22 | Sotera j Kaja pap. m. |
| Н | 10 | **Міраносіца.** Цярэнця. | 23 | Vajciecha j Juraha |
| П | 11 | Анціпы | 24 | Fidelisa kapuc. |
| А | 12 | Васіля | 25 | Marki Evanhielista |
| С | 13 | Арцімона | 26 | *Apieki šv. Jazepa* |
| Ч | 14 | *Сьв. муч. Віленскіх* | 27 | Piotry Kantaha |
| П | 15 | Ап. Арыстарха | 28 | Paŭły ad kryža |
| С | 16 | Агапы, Арыны й Хіоні. | 29 | Piotry z Verony |
| Н | 17 | **Аб Расслабленым.** Сям. | 30 | **Kaciaryny Seneńskaj** |

*Сонца*

| Дні | | Усход | Захад |
|---|---|---|---|
| 4 | — | 4—49 | 17—57 |
| 11 | — | 4 31 | 18—10 |
| 19 | — | 4 11 | 18—27 |
| 26 | — | 3 55 | 18—39 |

*Зьмены месяцы*

| Дні | Фазы |
|---|---|
| 4 | Поўня — у г. 11 |
| 11 | Вятох — у г. 20 |
| 19 | Сход — у г. 2 |
| 26 | Маладзік — у г. 11 |

За красавік дня прыбыло 2 г. 6 м.





## Князь Брачыслаў

Наступнікам князя Ізяслава на полацкім княжацкім пасадзе быў ягоны сын Брачыслаў. За часоў яго княжэньня ў першай палавіне адзінаццатага стагодзьдзя — прыпадаюць бязупынныя сваркі Полаччыны з Кіеўшчынай за гарады Ноўгарад, Віцебск і Усьвят, якія былі важнымі гандлёвымі і культурнымі цэнтрамі, і ўладаньне якімі давала ключ да ўплываў у ўсходне-славянскім сьвеце. Князь Брачыслаў нават заўладаў на кароткі час Ноўгарадам (у 1021 г.).

Справа гарадоў Віцебска і Усьвят была вырашана дагаворам: кіеўскі князь (Яраслаў) зрокся да іх прэтэнсіі, а за Ноўгарад далей разгарэлася змаганьне за часоў сына Брачыславага — полацкага князя Усяслава.

Дык слаўны князь Брачыслаў быў тым, што добра змагаўся за незалежнасьць гаспадарчую і палітычную роднай Полаччыны, гэтага аднаго з аснаўных палітычных, эканамічных і культурных цэнтраў старой Беларусі.

Князю Брачыславу прыпісваюць заснаваньне мястэчка Браслаўя (цяпер паветавае, на Віленшчыне, раней было Ковенскай губ.).

## Народныя прыкметы аб пагодзе ў м. красавіку

У красавіку не лятуць пчолы — спадзявайся халадоў і слаты.

Красавік сухі — такі-ж і чэрвень, але ліпень дажджлівы.

У красавіку грымот — цёплы будзе год.

Калі на Вялікдзень цячэ, то да Сёмухі болей дажджоў чымся пагоды.

Калі 30-га сонца ўзыйдзе ясна — сухое лета, а калі праз хмары — дажджлівае.

Калі ноч пад 1 траўня зорная й цёплы паўдзённы вецер — лета будзе з бурамі, але цёплае і ўраджайнае.

### Зьмена надвор'я ў м-цы красавіку
(*паводле 100-годняга календара*)

1—4 — холадна й вецер. 8—14 халодныя вятры. 18 — дождж. 19 — мароз. Ад 23 — начамі раса й цёплая пагода.

**Май**
**1939 г.**

## МАЙ—MAJ
**31 dzień**

**Maj**
**1931 h.**

| Дні | Ст. Ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki Kalendar |
|---|---|---|---|---|
| П | 18 | П. Івана | 1 | Pilipa i Jakuba ap. |
| А | 19 | Івана Верхапячорніка | 2 | Atanaza b. d. K. |
| С | 20 | *Пер. Сёмухі. Гаўрылы* | 3 | **Znach. św. Kryža** |
| Ч | 21 | Януара й Тодара | 4 | Moniki ŭd. |
| П | 22 | Хведара Сыкеота | 5 | Piusa V pap. |
| С | 23 | **Юр‘я. Язэпа Праведн.** | 6 | Jana ŭ Aleju |
| Н | 24 | **Аб Самар. Саўвы** | 7 | **Flarjana j Damiceli** |
| П | 25 | Маркі Эвангеліста | 8 | Stanisłava b. |
| А | 26 | Васіля. Сьцяпана | 9 | Ryhora z Naz. b. **d. K.** |
| С | 27 | Сымона Гасподняга | 10 | Izydora Arataha |
| Ч | 28 | *Кірылы Тураўскага* | 11 | Prancіša v. |
| П | 29 | 9-х муч. з Кізыкі | 12 | Pankraca m. |
| С | 30 | Якуба. Мікіты | 13 | Sarvaza b. |
| | | МАЙ | | |
| Н | 1 | **Аб сьляпым. Макара** | 14 | **N. Kryžovaja. Banifaca** |
| П | 2 | Апанаса Вялікага | 15 | *Kryž. d.* Jana z Sal. |
| А | 3 | Цімахвея й Маўры | 16 | *Kryž. d.* Jana Niep. |
| С | 4 | Палагеі Дзевы | 17 | *Kryž. d.* Veroniki |
| Ч | 5 | **Ушэсьце Гасподне** | 18 | **Ušeście. Venantaha** |
| П | 6 | Ёвы Многапакутнага | 19 | Piotry Celestyna |
| С | 7 | Зьяўл. Крыжа ў Ерузал. | 20 | Bernardyna z Seny |
| Н | 8 | **Сьв. Айцоў I Ус. Саб.** | 21 | **Cimachvieja j Tavar. m.** |
| П | 9 | **Пер. мошч. сьв. Мік.** | 22 | Julji p. |
| А | 10 | Сымона Зілата | 23 | Dazydara |
| С | 11 | Мяфода й Кірылы | 24 | *N.D.M. Uspamoђi viern.* |
| Ч | 12 | Апіхвата | 25 | Ryhora VII pap. |
| П | 13 | Глікерыі Дзевы | 26 | Pilipa Nerjuša |
| С | 14 | *Траецкая субота.* Сідара | 27 | *Vialeja.* Bedy v. d. K. |
| Н | 15 | **Дзень сьв. Тройцы** | 28 | **Zasł. Ducha św. (Siom.)** |
| П | 16 | **Дзень сьв. Дух. Ус. т.** | 29 | **2-hi dzień Siomuchi** |
| А | 17 | Ап. Андроніка | 30 | Chveliksa pap. m. |
| С | 18 | Хвядота Анцырскага | 31 | *Suchi dz.* Anieli |

*Сонца*

| Дні | Усход | Заход |
|---|---|---|
| 4 | 3—37 | 18—54 |
| 11 | 3—24 | 19—07 |
| 18 | 3—11 | 19—18 |
| 25 | 3—01 | 19—30 |

*Зьмены месяца*

| Дні | Фазы |
|---|---|
| 4 | ● Поўня — у г. 1 |
| 11 | ☾ Вятох — у г. 10 |
| 18 | ⊛ Сход — у г. 14 |
| 25 | ☽ Маладзік — у г. 23 |

За май дня прыбыло 1 г. 52 м.





## Усяслаў Чарадзей

Найслаўнейшым беларускім князем быў полацкі князь Усяслаў, прапраўнук Рагвалода, сын Брачыслава. Княжыў 57 гадоў, ад 1044 да 1101. Усяслаў у гісторыі Беларусі займае пачэснае месца. Ён патрапіў значна расшырыць Полаччыну, далучаючы да яе большасьць беларускіх княстваў — Менскае, Вітэбскае і інш., а так-жа часьць Лівоніі. І хоць пры Усяславе Полаччына два разы была заваявана кіеўскім князем, усёжтакі ён патрапіў абараніць яе ад паняволеньня і ўтрымаць на вышыні самастойнасьці і славы. Гдзе ня мог Усяслаў узяць сілай, там браў розумам і хітрасьцяй. Народ празваў яго чарадзеям. Аб ім складаў розныя казкі, легенды, песьні. У паэтыцкім творы з канца дванаццатага стагодзьдзя, напісаным няведамым Беларусам, у слаўным на ўвесь сьвет „Слове аб палку Ігаравым,“ апісываецца слаўная дзейнасьць і характар гэтага беларускага князя.

Усяслаў меў сем сыноў: Рагвалода, Рамана, Барыса, Глеба, Давіда, Расьціслава і Юр‘я-Сьвятаслава (бацька ведамай полацкай княжны сьв. Афрасіньні).

Па сьмерці Ўсяслава Полацкае Княства значна аслабла, а гэта сталася дзеля таго, што было падзелена паміж патомкамі Ўсяслава, якія хоць часта змагаліся між сабой, аднак-жа дастойна баранілі незалежнасьці Полаччыны а разам з гэтым і Беларусі ад усякіх ворагаў.

---

## Народныя прыкметы аб пагодзе ў м-цы маі

У маі сьнег — лета сухое.

Калі вясною першы раз загрыміць, а ўжо нідзе няма сьнегу — то будзе цёплае лета й добры ураджай.

Калі вясною першы раз загрыміць на поўначы, то лета будзе халоднае, а як на паўдні — то цёплае й пагоднае.

Веснавы Мікола пагоду становіць.

11-га мокра — усё лета мокрае, а суха — ўсё лета сухое.

---

### Зьмены надвор‘я ў м-цы маі

(*паводле 100-годняга календара*)

1—прымаразак. 3—грымоты й віхура. 3—8 — холадна й хмарна. 9—11 — лагодна. 12 — сьцюдзена. 18 -20—бура. 28 — дождж.

Іюнь
1939 г.

# ЧЭРВЕНЬ—ČERVIEŃ

30 dzion

Czerwiec
1939 h.

| Дні | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| Ч | 19 | Патрыкея | 1 | Jakuba b. Fortunata |
| П | 20 | Зн. мошч. **сьв.** Аляксея | 2 | *Suchi dz.* Sadoka |
| С | 21 | Канстанціна й Алены | 3 | *Suchi dz.* Klatyldy |
| Н | 22 | **Усіх Сьв. Заг. на Пятр.** | 4 | **Šv. Trojcy. Pranciša** |
| П | 23 | *Афрасіньні Асьв. Бел.* | 5 | Banifaca. Valery |
| А | 24 | Сымона Слупніка | 6 | Norberta j Klaŭdyi |
| С | 25 | III ці зн. гал. сьв. Ів. Хр. | 7 | Roberta op. |
| Ч | 26 | Карпы. Юр'я Новага | 8 | **Božaje Cieła.** Medarda |
| П | 27 | Ферапонта | 9 | Pryma j Felicyjana |
| С | 28 | Мікіты. Ігната | 10 | Maŭharety karal. |
| Н | 29 | **Хвядосі Дзевы** | 11 | **Barnaby op.** |
| П | 30 | Ісака Далмацкага | 12 | Jana z Fakundo |
| А | 31 | Ерма. Аўстаха | 13 | Antoniaha z Padui |
| | | ЧЭРВЕНЬ | | |
| С | 1 | Юстына. Харытона | 14 | Bazyla b. d. K. |
| Ч | 2 | Мікіпара | 15 | Jolenty ŭd. |
| П | 3 | Лукіляна | 16 | *Najšv. Serca Jez.* **Jana** |
| С | 4 | Мітрахвана | 17 | Adolfy b. |
| Н | 5 | **Дарахвея** | 18 | **Achrema Dziakana** |
| П | 6 | Вісарыёна | 19 | Hervazaha i Pratazaha |
| А | 7 | Хвядота Анцыр. | 20 | Sylvera pap. |
| С | 8 | Хведара Страцілата | 21 | Alojza Honzagi |
| Ч | 9 | Кірылы | 22 | Paŭlina b. |
| П | 10 | Цімахвея | 23 | Zenana m. |
| С | 11 | Баўтрамея й Барнабы | 24 | *Naradž. Jana Chryšcic.* |
| Н | 12 | **Анупрэя Вялікага** | 25 | **Vilhelma op.** |
| П | 13 | Ганны і Івана | 26 | Jana i Paŭly muč. |
| А | 14 | Прар. Алісея | 27 | Uładysłava kar. |
| С | 15 | Прар. Амоса | 28 | Izynieja b. |
| Ч | 16 | Ціхана | 29 | **Piotry i Paŭly Apost.** |
| П | 17 | Мануіла і Ўзмаіла | 30 | *Uspaminy šv. Paŭły ap.* |

*Сонца*

| Дні | Усход | Заход |
|---|---|---|
| 2 | 2—51 | 19—42 |
| 9 | 2—45 | 19—49 |
| 17 | 2—43 | 19—55 |
| 24 | 2—44 | 19—57 |

*Зьмены месяца*

| Дні | Фазы |
|---|---|
| 2 | ◉ Поўня — у г. 13 |
| 9 | ☾ Вятох — у г. 22 |
| 17 | ● Сход — у г. 3 |
| 24 | ☽ Маладзік — у г. 12 |

За чэрвень дня прыбыло 26 мінутаў.





## Глеб і Барыс Усяславічы

Із сыноў слаўнага полацкага князя Усяслава Чарадзея, старшы, Глеб, быў менскім князем (1118), а Барыс — полацкім (1128).

Князь Глеб, як і ягоны бацька, добра бараніў сваю бацькаўшчыну ад варожых нападаў. Асабліва доўга і ўпорна змагаўся ён з чарнігаўскім князем Алегам Сьвятаславічам за Оршу і Копысь, а з кіеўскім Уладзімерам Манамахам за Слуцк, Пінск і Тураў. Памагалі яму ў гэтым змаганьні Літвіны.

У 1119 г. князь Глеб папаў у палон кіеўскага князя і вывезены ў Кіеў хутка там памёр.

Полацкі князь Барыс ведамы між іншым з таго, што ўзмацняў на беларускіх землях хрысьціянства, засновываў сьвятыні і манастыры (у Полацку катэдральны сабор сьв. Зофіі, на Задзьвіньні Барысаглебскі манастыр, над рэчкай Бельчыцы — Пятніцкую царкву). У 1105 г. — за часоў панаваньня гэтага князя — была ў Полацку заснавана біскупія і назначаны першы полацкі біскуп Міна, ад якога пачынаецца цэлая чарада полацкіх біскупаў.

З памятак, якія асталіся да нашага часу, прыпісываюць полацкаму князю Барысу некалькі каменьняў; на кожным з іх высечаны напіс з імем Барыса і крыж.

## Народныя прыкметы аб пагодзе ў м-цы чэрвені

На Тодара раса—лета сухое і ўраджайнае (8-га ст. ст).
На Самсона дождж — сем тыдняў то-ж (27-га ст. ст.).
Калі Пётра з Паўлам плачуць — людзі праз тыдзень сонца ня ўбачаць. На Пятра дождж — сенакос мокры. Калі зязюлька будзе куваць да Пятра — восень харошая, а калі па Пятры — лета доўгае й харошае, сьнег ня скора выпадзе.

### Зьмена надвор'я ў м-цы чэрвені

(*паводле 100-годняга календара*)

1—5 цёплая пагода. 6—сыра. 15—зьменнае надвор'е і так да канца месяца.

| Дні | Ст. Ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| С | 18 | Лявонця й Феадула | 1 | *N. Kryvi P. Jezusa* |
| Н | 19 | **Юды, брата Господн.** | 2 | **Navied. N. D. Maryi** |
| П | 20 | Мяфода, яп. Патарскага | 3 | Lavona II pap. |
| А | 21 | Юльяна Тарс. | 4 | Todara b. |
| С | 22 | Аўсея | 5 | Maryi Zacharjašavaj |
| Ч | 23 | Агрыпіны | 6 | Izaja praroka |
| П | 24 | **Нараджж. сьв.Івана Хр.** | 7 | Cyryla j Miafoda |
| С | 25 | Хаўроні | 8 | Alžbiety kar. |
| Н | 26 | **Давіда Салун.** | 9 | **Veroniki p.** |
| П | 27 | Самсона | 10 | 7-ch bratoŭ mučanikaŭ |
| А | 28 | Пераняс. мошч. сьв. Кіра | 11 | Piusa I pap. |
| С | 29 | **Сьв. ап. Пётры й Паўл.** | 12 | Jana Hvalberta |
| Ч | 30 | Сабор 12-х апосталаў<br>ЛІПЕНЬ | 13 | Anakleta pap. m. |
| П | 1 | Кузьмы й Дзямяна | 14 | Bonaventury b. d. K. |
| С | 2 | Палаж. рызы Багародз | 15 | Razasł. šv. Apostałaŭ |
| Н | 3 | **Якінфа** | 16 | **M. B. Škaplernaj** |
| П | 4 | Андрэя Крыцкага | 17 | Alaksieja v. |
| А | 5 | Апанаса Афонскага | 18 | Symona b. |
| С | 6 | Хамы й Акакія | 19 | Vincentaha z Paŭli |
| Ч | 7 | Сісоя Вялікага | 20 | Časlava i Haronima |
| П | 8 | Пракопа | 21 | Praksedy p. |
| С | 9 | Панкрата | 22 | Maryi Mahdaleny |
| Н | 10 | **45 муч. у Армэніі** | 23 | **Apalinara b. m.** |
| П | 11 | Яўхімы | 24 | Krystyny p. m. |
| А | 12 | Прокла й Гілярага | 25 | Jakuba ap. |
| С | 13 | Сабор арх. Гаўрыіла | 26 | Hanny, maci N. D. M. |
| Ч | 14 | Акілы. Анісіма | 27 | Natali m. |
| П | 15 | Кірыка й Юліты | 28 | Viktara I pap. |
| С | 16 | Афіногена | 29 | Marty j Feliksa |
| Н | 17 | **Марыны** | 30 | **Rufina j Abdona** |
| П | 18 | Аміляна й Івана | 31 | Ihnata z Lojoli |

*Сонца*

| Дні | Усход | Заход |
|---|---|---|
| 2 | 2—49 | 19—55 |
| 9 | 2—55 | 19—52 |
| 16 | 3-03 | 19—45 |
| 23 | 3—14 | 19—35 |
| 31 | 3—27 | 19—23 |

*Зьмены месяца*

| Дні | Фазы |
|---|---|
| 2 | ● Поўня — у г. 3 |
| 9 | ☾ Вятох — у г. 12 |
| 16 | ◯ Сход — у г. 11 |
| 23 | ☽ Маладзік — у г. 11 |
| 31 | ● Поўня — у г. 15 |

**За ліпень дня убыло 1 г. 13 м.**





## Усяслаў Васількавіч

Больш-менш у гадох 1132—1180 княжыў у Полацку праўнук Усяслава Чарадзея і сын Васілька Рагвалодавіча— князь Усяслаў Васількавіч. Летапіс кажа, што гэтага князя любіў народ а так-жа любілі і паважалі яго князі полацкае зямлі — за яго розум, справядлівасьць і дабрату. Называлі яго нават вялікім. Гэты-ж летапіс кажа, што пасьля сьмерці Усяслава Васількавіча, народнае веча ў Полацку ня выбрала ніякага князя (у той час князі выбіраліся вечам, народным сходам), а гэта дзеля таго, каб не зьняважыць нябожчыка, — замест князя, веча ўвяло ў Полацку рэспубліканскі лад, які трываў ад 1180—1190 г. Рэспублікай кіравалі 30 старшын, выбраных народным вечам.

## Народныя прыкметы аб пагодзе ў м-цы ліпні

Сем братоў варожаць, колькі тыдняў пагоды.

Калі на Макрыну дождж, то ўся восень даждлівая, а калі суха — то восень сухая (19 ст. ст.).

Сьв. Ганна раніцы халодзіць. Калі на Ганну раніца халодная — то зіма будзе раньняя й халодная. (25-га ст. ст.).

Які Якуб да паўдня, такая да сьнежня зіма (25-га).

### Зьмены надвор'я ў м-цы ліпні

**(*паводле 100-годняга календара*)**

**1—7** — дажджы. **8**—харошая пагода. **11—13** панура й сьцюдзена. 16—зьменна. 20—харошая пагода. **23**—дождж, у канцы месяца — харошая пагода.

## Август 1939 г. — ЖНІВЕНЬ—ŽNIVIEŃ 31 dzień — Sierpień 1939 h.

| Дні | Ст. Ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| А | 19 | Макрыны | 1 | Piotry ŭ Akovach |
| С | 20 | *Прар. Ільлі. Апанаса Б.* | 2 | *M. B. Anielskaj* |
| Ч | 21 | Сымона й Івана | 3 | Znach. cieła św. Ściapana |
| П | 22 | Марыі Магдалены | 4 | Daminiki |
| С | 23 | Трахіма й Тахвіля | 5 | *N. D. M. Śnieżnaj* |
| Н | 24 | **Крыстыны. Барыса** | 6 | **Pieramianieńnie Jezusa** |
| П | 25 | Усьпеньне сьв. Ганны | 7 | Kajetana. Danata |
| А | 26 | Ермалая. Параскі | 8 | Cyryjaka j Amiljana |
| С | 27 | Панцелеймона | 9 | Jana Vianneja |
| Ч | 28 | Прахора | 10 | Łaŭryna |
| П | 29 | Калініка. Сарафіны | 11 | Zuzanny p. m. |
| С | 30 | Сілы й Сілуана | 12 | Klary p. Hilary m. |
| Н | 31 | **Аўдакіма. Заг.на У. П.** | 13 | **Hipalita j Kaśjana m.** |
| | | ЖНІВЕНЬ | | |
| П | 1 | Муч. Макавеяў | 14 | *Vialeja.* Eŭzeba |
| А | 2 | Перан.мошчаў сьв.Сьцяп | 15 | **Uniebaŭziaćcie N.D. M.** |
| С | 3 | Ісака Далмацкага | 16 | Jachima j Rocha |
| Ч | 4 | 7-х маладзёнаў Эфэскіх | 17 | Jacki. Stratona |
| П | 5 | Аўсьцігнея | 18 | Aleny ces. Ahapita |
| С | 6 | **Пераабраж. Гасподне.** | 19 | Ludvika j Juljuša |
| Н | 7 | **Дамэцiя. Пімана** | 20 | **Bernarda ap.** |
| П | 8 | Аміляна Спавядніка | 21 | Joanny Fremio |
| А | 9 | *Ап. Мацея* | 22 | Cimachvieja m. |
| С | 10 | Лаўрэнція | 23 | Pilipa j Zachieja |
| Ч | 11 | Еўпла | 24 | Baŭtramieja ap. |
| П | 12 | Фоцiя й Анікіты | 25 | Ludvika kar. |
| С | 13 | *Максіма Спавяд.* | 26 | *M. B. Jasnahorskaj* |
| Н | 14 | **Прар. Міхея** | 27 | **Jazepa** |
| П | 15 | **Усьп. Прач. Багародз.** | 28 | Aŭhustyna b. d. K. |
| А | 16 | *Нерукатворнага Абраза* | 29 | *Ściaćcie św. Jana Chryśc.* |
| С | 17 | Мірона | 30 | Rožy Limanskaj |
| Ч | 18 | Хлора й Лаўры | 31 | Rajmunda v. |

*Сонца*

| Дні | Усход | Заход |
|---|---|---|
| 7 | 3—39 | 19—09 |
| 15 | 3—54 | 18—52 |
| 22 | 4—07 | 18 36 |
| 29 | 4—19 | 18—19 |

*Зьмены месяца*

| Дні | Фазы |
|---|---|
| 7 | Вятох -- у г. 12 |
| 15 | Сход — у г. 1 |
| 22 | Маладзік — у г. 10 |
| 29 | Поўня — у г. 3 |

За жнівень дня убыло 2 г. 3 м.





## Князь Расьціслаў Смаленскі

Сярод беларускіх княстваў, Смаленскае і Полацкае былі найбольшымі паводле займанай тэрыторыі і ліку насельніцтва, і найважнейшымі паводле сваей палітычнай, культурнай і эканамічнай ролі. Гэта былі княствы найбольшага беларускага племені Крывічоў.

Сярод многіх князёў, якіх мела Смаленскае княства, найслаўнейшым быў князь Расьціслаў. Княжыў ён у дванаццатым стагодзьдзі.

Адыгрываў вялікую ролю ў жыцьці рэлігійна-культурным тагачасных Беларусаў.

Сярод пісьменных памятак, якія асталіся па гэтым князю, ведамая ёсьць устаўная грамата, якую выдаў у 1150 годзе і ў якой сказана, што ён з волі бацькі свайго Мсьціслава ўстанавіў у Смаленску біскупства і назначыў у ім першага біскупа Мануіла. З гэтага вынікае, якое значэньне меў гэты князь для хрысьціянства і якія правы ў царкоўных справах.

## Народныя прыкметы аб пагодзе ў м-цы жніўні

**Ад першага Спаса — халодныя росы (1-га ст. ст.).**

**Першы й другі Спас — бяры рукавіцы ўзапас (6-га ст. ст.).**

**Калі на Усьпеньне няма ні ветру ні дажджу — восень будзе сухая й ціхая (15 ст. ст.).**

**Баўтрамей і Лаўрын паказваюць, якая прыйдзе восень (24 і 10-га).**

### Зьмены надвор'я ў м-цы жніўні

(*паводле 100-годняга календара*)

1—6 — зьменна. 7 — холад. 9 — навальніца. 19—вецер і маланкі. 20 і 26—склоннасьць да грымотаў.

## Сентябрь 1939 г. ВЕРАСЕНЬ—VIERASIEŃ 30 dzion Wrzesień 1939 h.

| Дні | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| П | 19 | Андрэя Страцілата | 1 | Idziaha ор. |
| С | 20 | Прар. Самуіла | 2 | Ściapana kar. |
| Н | 21 | **Хвадзея. Васы** | 3 | **Branisłavy j Symona** |
| П | 22 | Агапоніка і ўсіх з ім | 4 | Razali j Ružy. |
| А | 23 | Калініка. Лупа | 5 | Łaŭryna |
| С | 24 | Аўціха | 6 | Zachara prar. |
| Ч | 25 | Баўтрамея й Ціта | 7 | Melchijora j Rehiny |
| П | 26 | Адрыяна й Наталі | 8 | *Naradž. N. Dz Maryi* |
| С | 27 | Пімана Вялікага | 9 | Piotry Klavera |
| Н | 28 | **Майсея Мурына** | 10 | **Mikałaja z Talentynu** |
| П | 29 | **Сьцяцьце гал. Ів. Хр.** | 11 | Prota j Jacki |
| А | 30 | Канстанціна | 12 | *Imiani N. D. Maryi* |
| С | 31 | Палаж. Паясу Багародз. | 13 | Pilipa j Aŭhieni |
| | | ВЕРАСЕНЬ | | |
| Ч | 1 | Сымона Стоўпніка | 14 | *Uźvižańnie śv. Kryža* |
| П | 2 | Івана Посьніка | 15 | *M. B. Balesnaj* |
| С | 3 | Анфіма. Феакціставга | 16 | Karnila j Cypryjana |
| Н | 4 | **Вавілы. Прар. Майсея** | 17 | **Ranaŭ śv. Prancišа** |
| П | 5 | Прар. Захара | 18 | Jazepa z Kupertynu |
| А | 6 | Чуда арх. Міхала | 19 | Januara j Tavaryšoŭ |
| С | 7 | Сазонта. Лукаша | 20 | *Suchi dz.* Aŭstacha |
| Ч | 8 | **Нарадж. Пр. Багародз.** | 21 | Macieja Apostała |
| П | 9 | *Яўхіма й Ганны* | 22 | *Suchi dz.* Tamaša |
| С | 10 | Мінадоры й Мітрадоры | 23 | *Suchi dz.* Lina |
| Н | 11 | **Хвядосы. Алякс.** | 24 | **N.D.M. ad vykupu z niav.** |
| П | 12 | Аўтанома й Карнута | 25 | Uładysłava, kar. česk. |
| А | 13 | Карніла Сотніка | 26 | Cypryjana j Justyny |
| С | 14 | **Узьв. Жыватв. Крыжа** | 27 | Kuźmy i Dziamiana |
| Ч | 15 | Мікіты. Філахвея | 28 | Vacłava kar. m. |
| П | 16 | Аўхімы. Людмілы | 29 | *Michała Archanieła* |
| С | 17 | Зофіі, Веры, Над.й Люб. | 30 | Hieronima d. K. |

*Сонца*

| Дні | | Усход | Заход |
|---|---|---|---|
| 6 | — | 4—34 | 17—59 |
| 13 | — | 4—48 | 17—45 |
| 20 | — | 5—01 | 17—25 |
| 28 | — | 5—15 | 17—04 |

*Зьмены месяца*

| Дні | Фазы | | |
|---|---|---|---|
| 6 | ☾ Вятох | — | у г. 12 |
| 13 | Сход | — | уг. 13 |
| 20 | ☽ Маладзік | — | у г. 20 |
| 28 | Поўня | — | у г. 16 |

За верасень дня ўбыло 2 г. 7 м.





## Сьв. Афрасіньня Полацкая

У разьвіцьці і пашырэньні культуры і пісьменства ў родным краю, сярод многіх Беларусаў нашай старасьвеччыны займае пачэснае месца полацкая князёўна Прадслава, хрысьціянскае імя каторай Афрасіньня, пазьней прызнаная за сьвятую. Радзілася яна ў пачатку 12 стагодзьдзя. Даводзілася ўнучкаю слаўнаму беларускаму князю Усяславу Чарадзею. У Полацка-Віцебскім княстве была яна, побач з Рагнедай, перадавой культурнай сілай. На дванаццатым годзе жыцьця Прадслава ўцякла ў манастыр. Тут яна перапісвала кнігі і прадавала, іх а грошы аддавала бедным. Мала таго, яна ў двары Сяльцо, блізка Полацку, залажыла жаночы манастыр, куды брала граматных манашак (між іншых сваю родную сястру Гарыславу=Гардзіславу, у манашцы Эўдокія, і зродную Зьвяніславу, у манашцы Эўпраксія), адчыніла там школы і прытулкі; манашкі займаліся ў манастыры перапіскай кніг (друкарняў тады яшчэ ня было) і вучэньнем дзяцей.

Гэтая заслужаная і працавітая князёўна пад канец жыцьця паехала ў Ерусалім, гдзе нейкі час пажыўшы і памёрла—23.V.1173, маючы веку 50 год. Цела ейнае, перавезенае ў Кіеўскія лаўры праляжала $7^1/_2$ вякоў і толькі ў 1910 годзе прывязьлі яго ў родны Полацк. Афрасіньню пасьля сьмерці кананізавалі і залічылі ў сьвятыя праваслаўнай царквы.

## Народныя прыкметы аб пагодзе ў м-цы верасьні

Як настаў верасень, дык туман кажны дзень.

Калі ў верасьні ліст на дзеравах трымаецца моцна — зіма ня скора прыйдзе.

Буслы на зіму адлятаюць высока — прастаіць доўгая пагода.

Жоравы й гусі лятуць нізка — зіма блізка, а калі высока — зіма далёка.

Калі ў копах мышы жывуць у нізох—сухая восень.

Шмат жалудоў на дубох — цёплая зіма.

На Міхала ясная ноч — будзе трывалкая зіма (29-га).

### Зьмены надвор'я ў м-цы верасьні
(*паводле 100-годняга календара*)

**1—3** — вельмі прыгожае надвор'е, потым аж да 12— хмарна й сьцюдзена. 13 — сільны вецер. 16—холад і вецер. Перад 27 — некалькі дзён прыгожай пагоды. Канец месяца — даждлівы й пануры.

## Октябрь КАСТРЫЧНІК-KASTRYČNIK Październik

**1939 г.** **31 dzień** **1939 h.**

| Дні | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| Н | 18 | **Яўмена** | 1 | **M. B. Ražancovaj** |
| П | 19 | Трахіма і Саўвацея | 2 | *Aniołaŭ Vartaŭnikoŭ* |
| А | 20 | Аўстаха. Плакіды | 3 | Taresy ad Dziciaci Jez. |
| С | 21 | Кандрата. Зьмітры | 4 | Pranciša Seraficksaha |
| Ч | 22 | Фокі. Ёны | 5 | Placyda i Tavar. m. |
| П | 23 | Андрэя і Івана | 6 | Brunona op. |
| С | 24 | Першамуч. Тэклі | 7 | Marki. Justyny |
| Н | 25 | Афрасіні Аляксандр. | 8 | **Bryhidy ŭdavy** |
| П | 26 | Івана Багаслова | 9 | Dzianisa. Ludvika |
| А | 27 | Калістрата і друж. яго | 10 | Pranciša Borgijaša |
| С | 28 | Харытона Спавядніка | 11 | *Maciarynstva N.D.M.* |
| Ч | 29 | Кірыяка. Кіпрыяна | 12 | Maksymiljana b. |
| П | 30 | Рыгора | 13 | Advardaha kar. |
| | | КАСТРЫЧНІК | | |
| С | 1 | Пакровы Пр. Багар. | 14 | Kaliksta p. m. |
| Н | 2 | **Кіпрыяна. Юстыны** | 15 | **Taresy i Jadvihi** |
| П | 3 | Дзяніса Арэопагіта | 16 | Herarda Majeli |
| А | 4 | Ерахвея | 17 | Maŭharety Alakok |
| С | 5 | Пётры і Піліпа | 18 | Łukaša Evanhielistaha |
| Ч | 6 | Апостала Хамы | 19 | Piotry z Alkantary |
| П | 7 | Сяргея і Вакха | 20 | Jana Kantaha |
| С | 8 | Палагеі і Таісі | 21 | Aršuli i Tavar. m. |
| Н | 9 | **Ап. Якуба Алфеевага** | 22 | **Karduli i Pilipa m.** |
| П | 10 | Яўлампа і Яўлампы | 23 | Severyna i Ramana |
| А | 11 | Ап. Піліпа | 24 | Rafała Archanieła |
| С | 12 | Кузьмы Маюмскага | 25 | Kryspina m. |
| Ч | 13 | Карпы і Панілы | 26 | Evarystaha pap. m. |
| П | 14 | Гарваза і Пратаза | 27 | Sabiny i Florenca |
| С | 15 | Яўхіма Новага | 28 | Symona i Tadeuša ap. |
| Н | 16 | **Лёнгіна Сотніка** | 29 | **Śviata Chrystusa Vaład** |
| П | 17 | Прар. Асіі | 30 | Alfonsa Rodrygec |
| А | 18 | Ап. і Эв. Лукі | 31 | *Vialeja.* Antonina b. |

*Сонца*

| Дні | Усход | Заход |
|---|---|---|
| 5 | 5—29 | 16—45 |
| 12 | 5—42 | 16—28 |
| 20 | 5—59 | 16—11 |
| 27 | 6—14 | 15—54 |

*Зьмены месяца*

| Дні | Фазы |
|---|---|
| 5 | ☾ Вятох — у г. 16 |
| 12 | ● Сход — у г. 4 |
| 20 | ☽ Маладзік — у г. 13 |
| 27 | ● Поўня — у г. 4 |

За кастрычнік дня ўбыло 2 г. 10 м.





## Клімант Смаляціч

Смаленскія беларусы, як і Полацкія мелі так-жа ў дванаццатым стагодзьдзі сваіх выдатных культурнікаў. Такім быў Клімент Смаляціч (Клім Смаленец), манах, ад 1147 да 1154 году кіеўскі мітрапаліт. Сьведчаць летапісы, што ён быў вельмі асьвечаны чалавек і філёзаф — „быў філёзафам, якога ня мела Русь". Пісаў многа, але з ягонай творчасьці да нашага часу дайшоў толькі адзін ліст—„Пасланьне", напісананае да свайго прыяцеля прэзьбітара Тома. Іменна гэтае „Пасланьне" Клімента Смаляціча зьяўляецца для нас дарагой і рэдкай памяткай культуры і высокай адукацыі Беларусаў XII стагодзьдзя.

Клімент Смаляціч быў Кіеўскім Мітрапалітам, выбраным саборам мясцовых біскупаў. Аднак беларускі смаленскі князь Расьціслаў ня прызнаў яго мітрапалітам, уважаючы, што выбары былі няпраўныя, бо адбыліся міма згоды канстантынопальскага патрыярха.

Памёр Клімент Смаляціч у 1164 годзе.

---

## Народныя прыкметы аб пагодзе ў м-цы кастрычніку

Калі ліст з дубіны й бярэзіны ападзе чыста — будзе лёгкі год, нячыста — цяжкая зіма.

Калі лісьцё з дзераваў не ападае будзе вострая зіма.

Калі на Пакровы вее вецер з поўначы — то будзе цяжкая зіма, а калі з паўдня — то зіма лёгкая.

Не пакрылі Пакровы зямлі сьнегам, не пакрыюць і Каляды.

Што Казанская пакажа, тое й зіма скажа (22-га ст. ст.).

Калі Зьмітра на сьнезе, то й Каляды на сьнезе — вясна позная.

---

## Зьмены надвор'я ў м-цы кастрычніку

(*паводле 100-годняга календара*).

1 і 2 — зьменна. Да 9 — пагода бурлівая. 10—17 — шарон. 18 — прыгожы летні дзень. 20 — холад, пасьля йзноў харошая пагода. 25—26 — сьнег і дождж. Ад 26 да канца месяца — паветра вострае й халоднае.

**Ноябрь 1939 г.** **ЛІСТАПАД—LISTOPAD** 30 dzion **Listopad 1939 h.**

| Дні | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N. styl. | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| С | 19 | Івана Рыльскага | 1 | **Usich Światych** |
| Ч | 20 | Арцёма Эгіпецкага | 2 | *Zadušny* Dzień |
| П | 21 | Гілярыёна Вялікага | 3 | Huberta j Sylvii |
| С | 22 | *Абраза Казанскай Б.М.* | 4 | Karala Baromeuša |
| Н | 23 | **Якуба, брата Гасподн.** | 5 | **Zachara j Alžbiety** |
| П | 24 | Арэфы й Апанаса | 6 | Feliksa j Leonarda |
| А | 25 | Маркіяна й Мартыра | 7 | Florenca b. |
| С | 26 | Зьмітры Салунскага | 8 | Hotfryda j Maŭra |
| Ч | 27 | Нестара | 9 | Todara j Ursyna |
| П | 28 | *Параскі Пятніцай* | 10 | Andreja z Avelinu |
| С | 29 | Абрагама. Настасі | 11 | Marcina b. |
| Н | 30 | **Зяноўя й Зяноўі** | 12 | **Marcina pap.** |
| П | 31 | Стахея й Амілея | 13 | Stanisłava Kostki |
| | | ЛІСТАПАД | | |
| А | 1 | Кузьмы й Дзямяна | 14 | Jozafata j Jukunda |
| С | 2 | Акіндзіна | 15 | Leapolda j Hiertrudy |
| Ч | 3 | Акепсімы. Язэпа | 16 | *M. B. Vostrabramskaj* |
| П | 4 | Ёанікія Вялікага | 17 | Salamei j Ryhora |
| С | 5 | Галакціёна | 18 | Anieli j Ramana |
| Н | 6 | **Паўлы Спавядніка** | 19 | **Alžbiety kar. ud.** |
| П | 7 | 33-х муч. Мэліцінскіх | 20 | Feliksa Valeza |
| А | 8 | *Сабор арх. Міхаіла* | 21 | *Achviaravańnie* N.D.*M.* |
| С | 9 | Анісіфара | 22 | Cecyli j Filimona |
| Ч | 10 | Алімпа й Радзівона | 23 | Klemensa I, pap. |
| П | 11 | Міны й Віктара | 24 | Jana ad kryža |
| С | 12 | Івана Міласьцівага | 25 | Kaciaryny p. |
| Н | 13 | **Івана Залатавуснага** | 26 | **Leonarda z Portu** |
| П | 14 | *Ап. Піліпа.* Рыгора | 27 | Valerjana |
| А | 15 | *Пачатак Піліпаўкі.* | 28 | Mansveta |
| С | 16 | Ап. і Эв. Мацьвея | 29 | Saturnina j Filimona |
| Ч | 17 | Рыгора. Нікана | 30 | Andreja Apostała |

*Сонца*

| Дні | | Усход | | Заход |
|---|---|---|---|---|
| 4 | — | 6—28 | — | 15—38 |
| 11 | — | 6—41 | — | 15—24 |
| 19 | — | 7—00 | — | 15—11 |
| 26 | — | 7—12 | — | 15—01 |

*Зьмены месяцa*

| Дні | Фазы |
|---|---|
| 4 | ☾ Вятох — у г. 13 |
| 11 | ● Сход — у г. 16 |
| 19 | ☽ Маладзік у г. 1 |
| 26 | ● Поўня — у г. 8 |

За лістапад дня ўбыло 1 г. 41 м.



## Кірыла Тураўскі.

Беларуская Тураўшчына, гэтае — побач із Полацкім і Смаленскім — найгалаўнейшае з беларускіх княстваў, з вялікіх культурнікаў і асьветнікаў дванаццатага стагодзьдзя праславілася імям Кірылы Тураўскага. Будучы сынам багатых бацькоў, Кірыла Тураўскі атрымаў добрае ўзгадаваньне і высокую адукацыю. Асьвету атрымаў ён быццам ад грэкаў, якія былі ў Тураве пры двары Тураўскае князягіні.

З малых год апынуўся ў манастыры; пазьней Кірыла Тураўскі дзякуючы свайму суроваму жыцьцю, а так-жа вялікай адукацыі быў выбраны біскупам.

Кірыла Тураўскі — вельмі таленавіты і плодны пісьменьнік, а так-жа выдатны красамоўца. Літаратурная спадчына па Кірыле Тураўскім, якая захавалася да нашага часу, ня гледзячы на тое, што большасьць з ягоных пісаньняў загінула, усё-ж багатая і вельмі цэнная.

Першым чынам, заслыў Кірыла Тураўскі, як выдатны царкоўны прамоўца, і ня толькі ў Полаччыне і Тураўшчыне, але ўва ўсей Беларусі і ўсходняй славяншчыне. Сучасьнікі называлі яго Золатавусным, а мы і сяньня можам назваць яго такім.

Паводле думкі прафэсара Галубінскага, выдатнага вучонага, „казаньні Кірылы Тураўскага, ня маючы нічога агульнага з другімі сучаснымі яму казаньнямі і навучэньнямі, уяўляюць сабою зусім самыя аратарскія творы, як казаньні сучасных нам вучоных — царкоўных і прамоўцаў. Калі-б перакласьці іх на сучасную літаратурную мову і сказаць, што яны належаць якому-небудзь сучаснаму прамоўцу, то, можа, толькі добры знаўца справы зацеміць гэты абман“.

---

## Народныя прыкметы аб пагодзе ў м. лістападзе

Калі ў лістападзе туман — узімку адлігі; цяпло позна — позная вясна, а раньні холад—цяпло ня ў часе.

Калі на Івана Міласьцівага дождж або сьнег — аж да Грамніц будуць адлігі (12-га ст. ст.).

На Піліпаўку пагода хмарная, або сьнежная — травень будзе мокры (14-га ст. ст.).

---

### Зьмены надвор'я ў м-цы лістападзе
(*паводле 100-годняга календара*).

1—5 — дажджы і холад. 12 — сьнег і дождж. 16 — вецер. Ад 26 — зьменная пагода.

Декабрь 1939 г. **СЬНЕЖАНЬ—ŚNIEŽAŃ** Grudzień 1939 h.

31 dzień

| Дні | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| П | 18 | Платона й Рамана | 1 | Eliha. Natali |
| С | 19 | Аўдзея. Варлама | 2 | Bibjany. Hipalita |
| Н | 20 | **Рыгора Дэкапаліта** | 3 | **N. I Adv. Prancіša** |
| П | 21 | **Уводз. ў Хр. Пр. Багар.** | 4 | Barbary |
| А | 22 | Ап. Філімона | 5 | Nastasi. Sabby op. |
| С | 23 | Амфілоха | 6 | Mikałaja b. |
| Ч | 24 | Кацярыны | 7 | Ambrožaha b. d. K. |
| П | 25 | Клімента, папы Рым. | 8 | **Biazhrešnaje Pač. NDM.** |
| С | 26 | Аліпея й Якуба | 9 | Leokadzi j Valery |
| Н | 27 | **Якуба Пэрскага** | 10 | **N. II Adv.** *N.D M. Loretan.* |
| П | 28 | Сьцяпана Новага | 11 | Damaza I, pap. |
| А | 29 | Парамона й Філумэна | 12 | Alaksandra m. |
| С | 30 | *Андрэя Першазванага* | 13 | Łucyi. Otyli. |
| | | СЬНЕЖАНЬ | | |
| Ч | 1 | Навума. Філарэта | 14 | Dyjaskora j Śpirydona |
| П | 2 | Прар. Абакума | 15 | Valeryjana |
| С | 3 | Сахона. Саўвы | 16 | Łazara. Alimpy |
| Н | 4 | **Барбары. Івана** | 17 | **N. III Adventu. Eŭzeba** |
| П | 5 | Саўвы Асьвячонага | 18 | *Čakańnie N.D.M.* |
| А | 6 | **Сьв. Чудатворца Мік.** | 19 | Urbana V pap. |
| С | 7 | Амроса. Антона | 20 | *Suchi dz.* Tachvila |
| Ч | 8 | Патапа | 21 | Tamaša Ap. |
| П | 9 | Прар. Ганны | 22 | *Suchi dz.* Zenana |
| С | 10 | Міны. Ермагена | 23 | *Suchi dz.* Viktoryi |
| Н | 11 | **Данілы Стоўпніка** | 24 | *Kućcia.* Adama j Evy |
| П | 12 | Сьпірыдона | 25 | **Naradž. Jezusa. Kalady** |
| А | 13 | Яўстрата й Аксенця | 26 | **2-hi dz. Kalad. Śсiapana** |
| С | 14 | Фірса й Хілімона | 27 | Jana Apostała |
| Ч | 15 | Элеўфэрыя | 28 | Dzietak mučanikaŭ |
| П | 16 | Прар. Агея | 29 | Tamaša b. m. |
| С | 17 | Данілы й 3 маладзёнаў | 30 | Aŭhienia b. v. |
| Н | 18 | **Савасьцяна й друж. яго** | 31 | **Sylvestry I, pap. Rym.** |

| *Сонца* | | | *Зьмены месяца* | |
|---|---|---|---|---|
| Дні | Усход | Заход | Дні | Фазы |
| 3 | 7—24 | 14—54 | 3 | ☾ Вятох — у г. 17 |
| 11 | 7—34 | 14—49 | 11 | Сход — у г. 6 |
| 18 | 7—40 | 14—50 | 18 | ☽ Маладзік — у г. 15 |
| 25 | 7—43 | 14—52 | 25 | Поўня — у г. 20 |

Да 22 сьнежня дня ўбыло 30 мінут.





## Аўрам Смаленскі

Падалі мы ўжо аднаго з выдатных культурнікаў сярод смаленскіх беларусаў — Клімэнта Смаляціча. Але Смаленшчына, якая ў першыя вякі беларускае гісторыі адыграла ня меншую ад Полаччыны ролю ў жыцьці культурным і палітычным беларускага народу і ў усходнім славянстве, выдала ня менш слаўнага ад Клімэнта Смаляціча, аднаго з найвыдатнейшых культурных дзеячоў, — Аўрама Смаленскага, гэтую славу беларускага і ўсходнеславянскага сярэднявечча.

Аўрам Смаленскі быў сынам багатых бацькоў. Узгадаваны у пабожнасьці, праняты духам навукі Хрыста, па сьмерці бацькоў ён раздаў усю іхнюю маемасьць цэрквам, манастырам і ўбогім, а сам адзеўшыся ў зрэб'я хадзіў, як убогі, і прасьвячаў народ, пакуль не паступіў у манастыр, гдзе пазьней прыняў сьвятарства і займаўся прасьветнай дзейнасьцю.

Аўрам Смаленскі быў чалавекам глыбокай і шырокай царкоўнай веды, быў выдатным красамоўцам, а так-жа меў мастацка-малярскія здольнасьці. Народ любіў і паважаў Аўрама за ягонае сьвятое жыцьцё, веду, навукі і тыя дабрадзействы, якія ад яго атрымліваў. Для тагачаснай культуры і прасьветы, для ўмацаваньня хвысьціянства ў беларускіх землях, для пісьменства тагачаснай Беларусі Аўрам Смаленскі вельмі заслужаны чалавек.

Аўрам Смаленскі жыў у канцы дванаццатага і пачатку трынаццатага стагодзьдзя.

## Народныя прыкметы аб пагодзе ў м-цы сьнежні

У сьнежні адкрытае вуха — улетку горача і суха.

Сухі сьнежань — сухая вясна, сухое лета.

Сьнежань цёплы і сыры — чакай бяды: вясною халады, зіма зацягнецца і вясна будзе позная.

Калі сьнег мокры й цяжкі — мокрае лета, а калі сухі, лёгкі — лета сухое.

Калі 1-га сьнежня пагодна — пагодная і раньняя вясна.

Які дзень 2-га — такая пагода ў сенакос.

Які дзень 3-га — такое жніво.

Калі па Калядах ясна — ясна і па Пятры.

### Зьмена надвор'я ў м-цы сьнежні
(*паводле 100-годняга календара*)

1—склонна да сьнегу. 2—харошая пагода. 6 — дождж. 10—адліга. 17 — мароз. 20 — хмарна. 28 — харошая пагода, а потым сьнег і вятры.

# Беларускі гістарычны календар

839 г. Пад гэтым годам у Бэртынскім летапісу знаходзіцца 1-я гістарычная вестка аб варагах—Русах. Памятка аб „Русах“ і дагэтуль жыве ў назове нашага краю й народу — Бела-русь, Бела-рус.
862 г. Вынаход славянскае азбукі.
980 г. Рагвалод—першы гістарычна ведамы, беларускі самастойны князь Полацкі.
1000 г. Заснаваньне Полацкае праваслаўнае епархіі.
1101 г. Сьмерць кн. Усяслава Полацкага, які найбалей прычыніўся для ўзвышэньня Полацкага княства.
1105 г. Назначэньне ў Полацку біскупа Міны, ад якога пачынаецца чарада полацкіх біскупаў.
1114 г. Заснаваньне ў Тураве біскупіі.
1130 г. Каля гэтага году—паход роду князёў рурыкавічаў — кіеўскіх і чарнігаўскіх — супроць беларускіх і высылка часткі беларускіх князёў — Давіда, Расьціслава і Сьвятаслава Усяславічаў — у Царгорад.
1150 г. Устаўная грамата беларускага смаленскага князя Расьціслава Мсьціславіча, якой ёнаднавіў у Смаленску біскупію і назначыў у ёй біскупа Мануіла.
1157 г. Утварэньне беларускага Турава-Пінскага княства із сваім родам князёў; самастойнасьць сваю захавала гэтае княства да ўтварэньня вялікага княства Літоўска-Беларускага, якога сталася складовай часткай.
1159 г. Першае гістарычна ведамае брацтва ў Полацку.
1173 г. † Сьмерць княжны Афрасіньні Полацкае, якая шмат зрабіла для ўпадняцьця духоўнае асьветы ў Полаччыне.
1180—1190 г. г. Рэспубліка ў Полацкай дзяржаве.
1239 г. Паход на Беларусь кіеўскага князя Яраслава й заваяваньне ім Смаленску.
1307 г. Заняпад Полацку, які адыйшоў пад уладу Літвы.
1316—1341 г. Гэдымін
1341—1377 г. Альгерд
1392—1430 г. Вітаўт
вялікія князі Літоўскія, якія аб'ядналі Літву і Беларусь і ўтварылі магутную дзяржаву.
1362 г. † Раман — першы аўтакефальны праваслаўны мітрапаліт на Літве і Беларусі.
1386 г. 1-ая ўнія Літвы-Беларусі з Польшчаю.
1387 г. Грамата караля Ягайлы, выданая ў Лідзе, якой ён касуе паганства ў Літве і Беларусі.
1410 г. Грунвальдзкая бітва палякоў і літвіноў з немцамі; перавагу над немцамі далі палякам беларускія смаленскія палкі.
1411 г. Праваслаўны сабор у Наваградку; абраньне мітрапаліта Грыгора Цамблака.



1413 г. Гарадэльская вунія, якая надала літоўскай-беларускай каталіцкай шляхце палітычныя правы.
1457 г. Грамата ў беларускай мове „Земскія прывілеі Казімера,“ якой між іншым забараняецца ў Літоўска-Беларускім Гаспадарстве людзям чужых народнасьцяў займаць урацовыя пасады і купляць зямлю.
1468 г. Статут (судзебнік) Казімера Ягайлавіча — першы агульны кодэкс для судатварэньня ўва ўсім Літоўска-Беларускім гаспадарстве.
1483 г. У Кракаве пачала працаваць друкарня, з якой вышла першая друкаваная беларуская кніжка.
1439 г. Флёрэнтыйскі сабор — пачатак вуніі ўсходняе і заходняе царквы.
1503 г. „Першы“ падзел Беларусі — адход да Масквы ўсходніх краін Беларусі.
1509 г. Віленскі прав. сабор.
1517 г. Першая беларуская біблія Фр. Скарыны ў Празе.
1525 г. Пачатак друкарства ў Беларусі: закладзіны першае друкарні ў Вільні Фр. Скарыною.
1529 г. 30 лістапада выданьне Соймам „Літоўскага Статуту“ рукапіснага (у беларускай мове).
1569 г. Люблінская вунія (палітычная).
1578 г. Заснаваньне Віленскага Унівэрсытэту каралём Сьцяпанам Баторым.
1588 г. 3-ці Літоўскі Статут у беларускай мове, надрукаваны. Падобна другому Літоўскаму статуту з 1566 г. (рукапіснае выданьне), гэты статут забавязываў ужываць беларускую мову ўва ўсіх земскіх урадах Вял. Княства Літоўска-Беларускага.
1596 г. Берасьцейская царкоўная вунія.
1600 г. Евангельле беларускае, выданае братамі Мамонічамі ў Вільні.
1649 г. Паўстаньне на Беларусі.
1697 г. Скасаваньне беларускае мовы, як урадавае мовы ў Вял. Кн. Літоўскім.
1720 г. Замойскі вуніяцкі сабор, з якога легальна пайшла лацінізацыя вуніі.
1772 г. Прылучэньне ўсходняе часьці Беларусі да Расеі.
1791 г. 15 траўня — Пінская гэнэральная кангрэгацыя, якая ўтварыла аўтакефальную беларускую царкву на падставе праўдзівае саборнасьці кіраваньня і выбарнасьці духавенства.
1793 г. Прылучэньне заходняе часьці Беларусі да Расеі.
1803 г. Адчыненьне Унівэрсытэту ў Вільні.
1807 г. Прылучэньне Беласточчыны да Расеі.
1812 г. Паход Наполеона на Маскву праз Беларусь.
1835 г. Першы беларускі каталіцкі катахізіс у Вільні (лацінкаю).

1839 г. Скасаваньне вуніі на Беларусі.
1839 г. Забарона казаньняў у беларускай мове.
1861 г. 19 лютага — скасаваньне прыгону.
1863 г. Другое паўстаньне ў Польшчы і Беларусі. Кастусь Каліноўскі выдае падпольную „Мужыцкую Праўду" пабеларуску.
1864 г. 10 га сакавіка г. г. у Вільні павешаны Кастусь Каліноўскі, змагар за незалежнасьць Беларусі. 28.XI. памёр у Вільні Тодар Нарбут, гісторык Літвы і Беларусі
1865 г. Забарона беларускага друку.
1889 г. I раз надрукавана беларуская паэма „Тарас на Парнасе," (у газэце „Мінскі Лісток" № 37).
1903 г. Заснаваньне першае беларускае палітычнае партыі: „Беларуская Рэвалюцыйная Грамада."
1905 г. Першая расейская рэвалюцыя.
1906 г. 1 верасьня выхад першае легальнае газэты беларускае „Наша Доля."
1906 г. 10 лістапада выхад „Нашае Нівы," якая найбалей прычынілася да адраджэньня беларускага народу.
1906 г. Першая беларуская выдавецкая супалка: „Загляне сонца і ў наша ваконца" у Пецярбурзе.
1912 г. 12 лютага — першае беларускае тэатральнае прадстаўленьне ў Вільні.
1913 г. Заснаваньне Беларускага Выдавецкага Таварыства.
1914 г. 14 ліпня — пачатак сусьветнае вайны.
1915 г. (18) верасьня — заняцьце немцамі заходняе часьці Беларусі.
1915 г. Пачатак будаваньня беларускіх народных школ у Заходняй часьці Беларусі.
1917 г. Вялікая расейская рэвалюцыя.
1917 г. 4 верасьня — адчыненьне першае сярэдняе беларускае школы ў Слуцку.
1917 г. 18 - 31 сьнежня. Усебеларускі З'езд у Менску.
1918 г. 25 студня — адчыненьне Беларускага Навуковага Таварыства.
1918 г. 25 сакавіка — абвешчаньне незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.
1919 г. 1 студня — абвешчаньне Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі.
1919 г 1 студня — заснаваньне I Віленскае Беларускае Гімназіі.
1919 г. Заснаваньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту.
1919 г. 20 жніўня — сьмерць Івана Луцкевіча — піонера беларускага адраджэнскага руху.
1920 г. Польска-бальшавіцкая вайна. Паход у Заходнюю часьць Беларусі савецкіх войск. Літвіны ў Вільні. Заняцьце Вільні гэн. Жэлігоўскім 9 кастрычніка 1920 году. Абвешчаньне „Сярэдняе Літвы"



1921 г. 18 сакавіка — Рыскі дагавор між Польшчаю і С. С. Р. Р.
1921 г. Заснаваньне Таварыства Беларускае Школы ў Вільні.
1921 г. 30 кастрычніка — заснаваньне ў Менску Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.
1922 г. Прылучэньне Віленшчыны да Польшчы.
1922 г 30 студня. Выданьне „Часовых правіл аб адносінах Ураду да аўтаномнае прав. царквы ў Польшчы."
1922 г. Арганізаваньне беларускага школьніцтва ў Латвіі.
1922 г. Заснаваньне Радашкаўскае беларускае гімназіі ім. Фр. Скарыны. Заснаваньне ў Менску „Інстытуту Беларускае Культуры."
1922 г. 14 - 15 чэрвеня. — Абвешчаньне аўтакефаліі праваслаўнае царквы ў Польшчы.
1922 г. 5 лістапада — першае выступленьне беларусаў на выбарах у польскі Сойм.
1924 г. 31 ліпня. Выйшла Устава аб арганізацыі школьніцтва, паводле якое можна закладаць т. зв. „двуязыковыя" беларускія школы.
1925 г. 7 лістапада адкрыцьце Беларускага Каапэратыўнага Банку ў Вільні.
1926 г. Стварэньне „Беларускае Сялянска - Работніцкае Грамады."
1927 г. 14—15 студня — зачыненьне „Грамады."
1928 г. 4—11 сакавіка—другія выбары ў польскі Сойм і Сэнат і прадстаўніцтва ад беларусаў.
1928 г. 22 траўня — прысуд над „Грамадой."
1928 г. 4 кастрычніка — заснаваньне ў Менску Беларускае Акадэміі Навук.



Ад. Станкевіч

# 950-годзьдзе Хрысьціянства ў Беларусі

*(988-9—1938-9)*

Гісторыя кажа, што Хрысьціянства на землях цяперашняй Беларусі пачало паяўляцца яшчэ ў першых вякох свайго існаваньня, яшчэ тады, калі ня было беларускага народу і калі на яго цяперашніх землях жылі розныя іншыя чужыя плямёны. Але тады хрысьціянства пранікала толькі да нямногіх адзінак, масы яшчэ ня знаді сьвятла Хрыстовай Праўды. Масавыя вызнавальнікі хрысьціянства на беларускіх землях і ўжо сярод беларускага народу, ці вярней — сярод тых славянскіх плямён, з якіх беларускі народ стварыўся, паявіліся ў X стагодзьдзі, калі хрысьціянскай навукай зацікавіўся і заняўся кіеўскі князь Уладзімер Вялікі, які прывёў да хрысьціянскай веры ня толькі плямёны украінскія, якіх ён быў князем, але які пасылаў адначасна прапаведнікаў хрысьціянства і да плямён беларускіх, сярод якіх часта княжылі князі—ягоныя сваякі, а так-жа і да тых славянскіх плямён, з якіх пазьней стварыўся народ расейскі. Гэтае масавае хрышчэньне ўсходніх славян: украінцаў, беларусаў і расейцаў прыпадае на канец X ст. Галоўным пунктам гэтага масавага ў нас хрысьціянскага руху гісторыя азначае 15.VII.988 г.

Сёлета такім чынам мінае 950 гадоў ад таго часу, як беларускі народ стаўся хрысьціянскім. Хрысьціянства гэта йшло на Беларусь у абрадзе ўсходнім, славянскім, які стварылі вялікія апосталы славян сьвятыя браты Кірыла і Мяфод. Лацінскі абрад, да якога сяньня належа больш мільёна беларусаў каталікоў, паявіўся ў шырокіх народных гушчах ў Беларусі аж на некалькі вякоў пазьней.

* * *

З гэтай нагоды заглянем у нашу сівую мінуўшчыну і прыглядзімся да тых дараў, якія нам прынесла хрысьціянства. Вось-жа прынесла яно нам асьвету, поступ, навуку і ўлучыла нас у сям'ю культурных хрысьціянскіх народаў.



Абдарыла хрысьціянства Беларускі народ найбагацейшай, найглыбейшай і найідэальнейшай на сьвеце рэлігіяй і этыкай. Пад іх подыхам ажывілася і ўзбагацілася беларуская народная душа. Паўсталі хрысьціянскія сьвятыні, манастыры, школы, установы хрысьціянскай міласэрнасьці. Аднэй з многіх красак, вырасшых на ніве хрысьціянскай рэлігіі і этыкі, зьяўляецца сьвятая беларуская князёўна Афрасіньня Полацкая.

Хрысьціянская навука навучыла так-жа Беларускі народ глыбей і ідэальней разумець сацыяльную справядлівасьць, вучачы неабходнасьці самаадрачэньня, барацьбы з сваім самалюбствам. Зьмякчэньне абычаяў у народзе, спыненьне самаволі князёў, баярства і рыцарства, яўнае рашаньне важных дзяржаўных спраў на вечы і збратаньне на ім-жа ў вадну сям'ю вышэйшых слаёў грамадзянства з народам — гэта ўсё сацыяльныя плады сьв. Эванэліі. І не дагадваюцца пэўне тыя Беларусы, якія сяньня вольна ці нявольна пакланяюцца Марксу, што гэта іх „вера", гэта толькі далёкі-далёкі адгалосак, толькі жалосная карыкатура тых сацыяльных ідэалаў, якія прынесла Беларускаму народу хрысьціянства.

Не абмінула хрысьціянства і пачуцьця эстэтычнага ў Беларускім народзе. І яго разьвіло, выгадавала, абдарыла сваімі вялікімі, прыгожымі дарамі. Архітэктура, малярства, плястыка, музыка, песьня, — як-жа магутна разьвіліся і разрасьліся ў Беларусі, дзякуючы цёпламу, творчаму павеву хрысьціянскага эстэтызму, як складовай часткі хрысьціянства. Як-жа абяднела-б культура Беларускага народу, калі-б ад яго адняць усё гэта культурнае багацьце з галіны красы, якое стварыла хрысьціянскае пачуцьцё! Як-жа абяднеў-бы Беларускі Музэй у Вільні, калі-б з яго павыкідаць усё тое, што так ці інакш ёсьць творчасьцяй хрысьціянства!

Вялікую ўрэшце роль адыйграла хрысьціянства ў працэсе тварэньня беларускай нацыянальнасьці. Шмат ёсьць дзейнікаў, якія прычыняюцца да паўстаньня кожнай нацыянальнасьці. Адным з іх — ёсьць рэлігія.

Рэлігія паганская ў Беларусаў была рознаякая, раздробленая, з многімі прымітыўнымі і наіўнымі абрадамі і багамі. Гэта рэлігія служыла не паўстаньню і ўзросту беларускай нацыянальнасьці, але наадварот — яе раздрабленьню і расьцярушаньню. Сусім што іншае хрысьціянства. Яно праз сваё адзінства, праз свой высокі ідэалізм, праз сталасьць і аднаякасьць і сваей навукі і абраду, праз прасьветную сваю дзейнасьць было на зары беларускай гісторыі магутным сацыяльным дзейнікам, злучаючым беларускія плямёны, беларускія княствы, беларускія, нацыянальна яшчэ не аформленыя, масы, у адзін суцэльны народ.

Гэткую-ж роль адносна беларускай нацыянальнасьці хрысьціянства іграла і пазьней. За часаў у беларускай дзяржаве **літоўскай дынастыі,** калі ў нас ужо панавала праваслаўе, Беларускі народ, баронячыся ад наступу на Беларусь лацінізму і полёнізму, бараніў ня толькі сваю рэлігію, але так-жа і нацыянальнасьць, ажыўляючы і паглыбляючы ў масах яе супольнасьць і адзінства.

Узноў-жа за часаў унії, калі культурныя і багатыя клясы пакінулі народ, пераходзячы ў лацінізм і польскасьць, і калі гэтыя апошнія штораз больш насядалі на народ, ён, баронячы сваю уніяцкую веру, свой усходні абрад, бараніў і цэмантаваў далей і беларускую сваю нацыянальнасьць.

Калі-ж уся Беларусь на пач. XIX ст. знайшлася пад **царскай Расеяй,** калі царская палітыка унію перавяла ў праваслаўе і зрабіла з яго палітычнае аружжа, зьвернутае проціў Беларусаў, калі настаў для нашага народу найгразьнейшы час, — і тады хрысьціянства аказалася апорай беларускай нацыянальнасьці. Лацінскае каталіцтва тады ў Беларусі падтрымлівала і зьберагала да лепшых часаў беларускую нацыянальную ідэю.

Факт, што хрысьціянства зьяўляецца ў нашай гісторыі творывам і апорай беларускай нацыянальнасьці, тлумачыцца прадусім тым, што яно ўводзіць дужа блізкі і глыбокі духовы кантакт у народных гушчах, які, часта нясьведама, падтрымлівае і твора нацыянальнае пачуцьцё і якога зьнішчыць ня могуць ніякія палітычныя махінацыі, бо да яго не дасягаюць. Гэтым іменна тлумачыцца і тое, што і за панаваньня над Беларускім народам расейскіх цароў, праваслаўная царква, ня гледзячы на навязаньне ей ролі вынарадаўляньня Беларусаў, цалком іх не зрусыфікавала і яны далей асталіся Беларусамі.

* * *

Словам, хрысьціянства — гэта дарагая пэрла, якой маем даражыць і трымацца. І не павінен нас адвярнуць ад яго і той факт, што яно ў нас ужо сяньня не адзінае, як было 950 гадоў таму, а падзеленае. Бо-ж і цяпер часьці яго, — гэта так-жа пэрлы і цаны сваей яно ня страціла і падзел гэны — гэта маленькая толькі шчэрбінка. І сяньня як-жа мала хрысьціянства нас дзеліць, а як многа луча!

Вось-жа, рахуючыся з гэтай сапраўднасьцяй, Беларусы каталікі лаціннікі, Беларусы праваслаўныя і Беларусы грэка-каталікі ці уніяты ў узаемных да сябе адносінах павінны трымацца **толеранцыйна.** Мы павінны помніць, што ўсе мы дзеці аднаго Айца нябеснага, браты Сына Божага дзеля яго ўчалавечаньня, дзеці аднаго Беларускага народу.

Далей, мы ў нашых узаемных адносінах павінны больш зварочваць увагі **на тое, што нас луча ў хрысьціянстве,**



**чым на тое, што нас дзеліць.** Мо' гэта індыфэрэнтызм. Не. Гэта шчырае хрысьціянскае імкненьне не разыходзіцца і не дзяліцца далей, гэта сардэчнае жаданьне ў любові Хрыстовай зближацца да сябе, пазнавацца і гэтым аслабляць, выжываць і нішчыць існуючыя падзелы.

Урэшце, у жыцьці нашым хрысьціянскім павінны мы ўсе **выжываць чужы і хрысьціянству і народу элемэнт палітычны,** стараючыся карыстацца сваей беларускай мовай. Мо' гэта шовінізм, фашызм, тоталізм? Не. Гэта расчышчаньне дарогі хрысьціянству ў душу Беларускага народу, гэта скіроўваньне Беларускага народу на яго прыродныя пункты апоры, каб ён захаваў роўнавагу і марна ня зьгінуў. Шуканьне і тварэньне беларускай нацыянальнай і рэлігійнай **сынтэзы** — гэта заданьне, узложанае на нас самой гісторыяй, самым Богам.

---



# З беларускай культурнай мінуўшчыны і сучаснасьці

Гісторыя Беларусі, яе палітычнае, эканамічнае і культурнае жыцьцё ў мінуўшчыне належна не распрацавана. Беларускае адраджэньне, якое пачалося некалькі дзесяткаў год таму назад, хоць ахапіла ўсе дзялянкі беларускае творчае думкі, хоць яно можа пахваліцца значнымі рэзультатамі ў распрацаваньні гісторыі свайго народу, то аднак-жа яшчэ шмат, вельмі шмат трэба папрацаваць, каб выкрыць усю праўду жыцьця Беларусаў у мінуўшчыне.

Але і тое, што ўжо зроблена на гэтай ніве, што надрукавана з гістарычнай веды аб Беларусах, не пранікла ў шырокія гушчы беларускага народу. Шырокія народныя масы ня ведаюць часта элемэнтарных ведамасьцяў аб сабе, як аб Беларусах, аб палітычных падзеях краю ў мінушчыне, аб культуры і т. д. — І ня ведаючы гэтага, трудна ад іх вымагаць рачовай гутаркі на тэму сваей нацыянальнай сьведамасьці, абароны і дамаганьня нацыянальных правоў.

Беларуская адраджэнская думка, пранікаючы ў шырокія масы народу, мае за заданьне даказаць гэтаму народу, у імя шчасьлівае яго будучыні, што ён, як і многія іншыя народы, наўперад славянскія, быў тварцом і ўчасьнікам у палітычным і культурным жыцьці так сваім, як і народаў суседуючых; што гэты беларускі народ на арэну гістарычнага жыцьця выступіў із сваімі творчымі дзяржаўнымі здольнасьцямі, тварыў дзяржаўныя арганізмы — княствы, меў сваіх слаўных князёў і іншыя органы ўлады, дэмакратычны вечавы лад; тварыў культуру, меў сваіх слаўных культурных і рэлігійных дзеячоў; што беларускі народ у сваей мінуўшчыне вёў шырокія палітычныя, культурныя і гандлёвыя зносіны з рознымі суседнімі і нясуседнімі краямі і народамі; адным словам беларуская адраджэнская думка мае прадставіць свайму вялікаму, многаміліённаму народу пасьведчаньне, легітымацыю аб тым, што тыя творчыя духовыя вартасьці, якія ён меў у сваей гісторыі на грунце палітычнага, гандлёвага і культурнага жыцьця, даказываюць, што беларускі народ ёсьць старым, здольным і творчым народам; таксама беларускае адраджэньне мае за заданьне паклікаць усе творчыя сілы народу да найбольш поўнага выяўленьня, да працы над стварэньнем культурнага сонечнага заўтра.

Калі-б наш народ усьвядоміў гэта, сваю гістарычную ролю, свае творчыя здольнасьці — стаўся-б народам сьведамым сваіх нацыянальных правоў, свайго нацыянальнага „я“ і з большым размахам, з ведаю ў лепшую будучыню выкоўваў-бы сабе шчасьце і дабрабыт сяньняшняга і заўтрашняга дня. —

У гэтым кароткім артыкуле хачу падаць нікаторыя, найбольш важныя ведамасьці з мінуўшчыны беларускага народу. Адносяцца яны да грамадзка-культурнага жыцьця яго.

* * *

Сярод славянскіх народаў, Беларусы, Расейцы і Украінцы, твораць групу ўсходняславянскую. — Беларускі народ ўтварыўся з такіх пляменьняў: Крывічоў, Радзімічаў, Дрэгавічоў, Вяцічаў і Северан. Найбольш культурным і вялікім беларускім племям былі Крывічы. Жылі яны ў верхнім цячэньні рэк: Заходняй Дзьвіны і Дняпра.

Назоў „Крывічы“ ўтвораны ад слова „кроў“, што азначала ў старасьвеччыне блізкую, сваяцкую па крыві, „крэўную“ сувязь прадстаўнікоў дадзенага племяні. У навуцы беларускай праводзіцца думка, каб Беларусы сябе называлі не Беларусамі, а Крывічамі, бяручы гэты назоў ад найбольшага свайго племяні. Магчыма, што да гэтага дойдзе, бо-ж назоў „Беларусы“ пашырыўся ў народзе нядаўна: пачалі яго шырока ўжываць у дзевятнаццатым стагодзьдзі; быў ён накінуты расейскімі ўладамі.

Другое беларускае племя Дрэгавічы пасялілася ў вадазборніку ракі Прыпяці, у лясістай і балотнай мясцовасьці. Дапушчаецца, што назоў гэтае племя ўзяло ад слова „дрыгва“, што азначае заросшае, пакрытае дрыжачым слоем зямлі балота. Трэцяе племя —маленькае— Радзімічы пасялілася ўздоўж цячэньня ракі Сож (прыток Дняпра). Назвалася гэтак, паводле пачаткавага летапісу, ад прабацькі гэтага племяні Радзіма. Вяцічы, якія назваліся паводле таго-ж летапісу ад Вятка, брата Радзіма, пасяліліся над ракой Акой і яе прытокамі. Северане — займалі прастор ля ракі Дзясны (левы прыток Дняпра) і яе прытокаў.

Аб беларускіх пляменьня знаходзім глухія ўспаміны яшчэ ў рымскіх гісторыкаў — Пталамэя, Плінія, Тацыта.

Калі пасяліліся беларускія пляменьні на займанай імі тэрыторыі яшчэ дасюлешняя навука не дае акрэсьленага ад-

казу. Адны навукоўцы дапушчаюць, што гэтыя пляменьні пасяліліся ў першыя стагодзьдзі хрысьціянскай эры, іншыя — што значна раней, некалькі вякоў перад Хрыстом.

Яшчэ да паяўленьня на Беларусі хрысьціянства (дзесятае стагодзьдзе) культура беларускіх пляменьняў, калі пграўняць яе з культурай іншых усходніх пляменьняў, была даволі высокая. А гэта сталася таму, што праз беларускія землі праходзіў вялікі гандлёвы водны шлях — „вялікі водны шлях із Вараг у Грэкі“, які вёў праз раку Волхаў, возера Ільмень, раку Ловаць, Заходнюю Дзьвіну і Дняпро і злучаў Балтыцкае і Чорнае моры. Меў гэты шлях аграмаднае культурнае і гандлёвае значэньне. Па ім ішоў ажыўлены гандаль Візантыі і ўсходніх краёў із скандынаўска-германскім і славянскім сьветам; гэтым шляхам пранікалі ў беларускае асяродзьдзе дасягненьні тагачаснай тэхнікі, навукі і мастацтва. Тады-ж пабудаваліся і першыя гандлёвыя гарады на Беларусі, пазьнейшыя калыскі беларускае культуры і дзяржаўнасьці: Полацак і Віцебск на рацэ Дзьвіне, Смаленск — на р. Дняпры.

Ад дзесятага стагодзьдзя, калі пачалося ў Беларусі пашырацца хрысьціянства, настала для яе новая пара. Хрысьцянства прынясло на Беларусь пісьменства, новую, хрысьціянскую, культуру.

Беларускія князі—полацкія, смаленскія, менскія,туравапінскія і інш., п рыняўшы хрысьціянства стараюцца ўмацаваць яго.Закладаюць сьвятыні, манастыры. На прасторы часу ад дзесятага да трынаццатага стагодзьдзя Беларусь выдала многа слаўных палітычных і культурных дзеячоў. Нікаторых мы падалі пры календорыюм, на асобных бачынах. З гэтага-ж часу асталося да нашых дзён многа памятак, якія пацьвярджаюць незалежнае існаваньне беларускіх княстваў, барацьбу за гэтую незалежнасьць, разьвіцьцё пісьменства і культуры. Беларусы ў гэтым часе бяспрэчна побач з Украінцамі ў сваім палітычным і культурным разьвіцьці стаялі вышэй за тагачасных Расейцаў.

У канцы трынаццатага стагодзьдзя беларускія княствы пачалі злучацца з Літвой і такім чынам ўтворана вялікая супольная беларуска-літоўская дзяржава, ведамая ў гісторыі пад назовам Вялікага Княства Літоўскага.

Культура ў гэтай дзяржаве панавала беларуская. Беларускі язык быў дзяржаўным. Пабеларуску гаварылі князі, магнаты, урадоўцы, усе асьвечаныя слаі грамадзянства; пісаліся ў беларускім языку розныя дзяржаўныя акты, дагаворы, законы; беларускі язык ужываўся ў судзе, адміністрацыйных органах, у школьніцтве, у пісьменстве. І так было да канца 17 стагодзьдзя (да 1697 г.), калі пачаўся ўпадак беларускай культуры і дзяржаўнасьці, калі беларускі язык перастаў быць дзяржаўным языком.



Шаснаццатае стагодзьдзе найбольш багатае беларускімі культурнымі актамі, дзеячамі і дзеля гэтага правільна называецца залатой парой у разьвіцьці беларускага пісьменства і культуры.

У гэтым стагодзьдзі праявілі шырокую дзейнасьць многа слаўных беларускіх культурнікаў, вучоных і грамадзкіх дзеячоў. Успомнім тут хоць бы такія імёны, як д-ра Францішка Скарыну з Полацку, першага беларускага друкара, перакладчыка на беларускую мову сьв. Бібліі, Васіля Цяпінскага, — чалавека вялікага розуму і гарачага патрыёту, які казаў, што „з убогае свае маетнасьці народу майму услугую“, „з зычлівасьці ку маей атчызьне“, які хацеў, каб людзі „трымаліся языка свайго прыражонага“ і які заклікаў беларускіх тагачасных паноў і людзей багатых, каб закладалі школы для народу „зацнага, слаўнага, войстрага і даўсьціпнага“, але „неумеетнага і утрапленага“, Сямёна Буднага, вучонага і вельмі здольнага чалавека, ведамага із сваей літаратурнай, выдавецкай і друкарскай дзейнасьці, знайцу некалькі моваў; Філона Кміту, добрага знаўцу палітычнага палажэньня ў краі і заграніцай, і заслужанага для Бацькаўшчыны палітычнага дзеяча; Тодара Еўлашэўскага, які шляхам перадусім самаасьветы стаўся адукаваным чалавекам і заслужаным для краю беларускім патрыётам; Лявона Сапегу, канцлера Вялікага Княства Літоўскага, палітычнага дзеяча, слаўнага праўніка, рэдактара і выдаўца беларускага зборніка законаў — Літоўскага Статуту з 1588 г., — гэтай найцаражэйшай нашай памяткі, якая найлепей сьведчыць аб славе і магутнасьці нашай мовы, успомнім тут так-жа некаторыя імёны дзеячоў на ніве беларускага друкарства, як друкароў-мэцэнатаў Багдана Онькова, Якуба Бабіча, ведамых культурных дзеячоў—братоў Кузьму і Лукаша Мамонічаў, Пётру Мсьціслаўца, беларускага дзеяча-мэцэната гэтмана Грыгора Хадкевіча.

Але наступіўшыя палітычныя падзеі, доўгатрывалая барацьба Беларуска-Літоўскага Княства з Маскоўшчынай, палітычныя сувязі гэтага княства з Польшчай, давялі да таго, што беларуская культура, якая так разьвілася і закрасавала ў шаснаццатым стагодзьдзі, у сямнаццатым стагодзьдзі пачала паволі занепадаць і ўрэшце зусім заняпала ў восемнаццатым стагодзьдзі. На прасторы гэтых вякоў спасьцерагаем у Беларусі пашырэньне польскай культуры.

І хоць беларус Ян Казімір Пашкевіч у сваім вершы, напісаным у 1621 г. гаворa, што Літва (значыць Беларуска-Літоўскае Княства) цьвіце беларушчынай, а Польшча лацінаю, што ў Літве без беларушчыны „блазнам будзеш“, а ў Польшчы без лаціны „не прабудзеш“, і што слава Беларусі „па ўсім сьвеце юж дайзрала“ — то гэтыя думкі першым чынам адносяцца да папярэдняй пары беларускага

культурнага і палітычнага жыцьця, а не да 17 і 18 стагодзьдзяў.

Беларускі палітычны і культурны заняпад давёў да таго, што ўжо ў другой палавіне сямнаццатага стагодзьдзя наша мова пачала траціць месца ў навуцы, законах, судох, адміністрацыйных установах і інш., на карысьць лацінскай і польскай мовы. Беларускі народ страціў у гэтую пару заняпаду свае вышэйшыя станы — духавенства, магнатаў, шляхту, сваю інтэлігенцыю. Асталася вернай яму толькі сялянская, цёмная, запрыгоненая маса, якая жыла сваім жыцьцём, практыкавала свае адвечныя звычаі і абрады, тварыла песьню і сваю культуру, — і перахавала да нашага часу родную мову.

Праўда, і ў гэтым цяжкім часе Беларусы ў сваім духовым творстве асягнулі тое, чаго ня мела напрыклад тады Масква.

Расейскі вучоны П. Безсонаў сьцьвярджае, што беларускія тэатральныя прадстаўленьні, г. зв. бэтлейкі, надта пашыраныя ў Беларусі, адыйгралі не пасьледнюю ролю ў стварэньні рускага тэатру.

„Карысныя — кажа гэты вучоны — былі для нас (расейцаў) гэтыя прадстаўленьні, каторыя дзякуючы прыбышом з Полацка і іншым, паявіліся ў двары цара Аляксея, Зофіі і Пятра: адыйгрываныя там беларускія з паходжаньня ведамыя містэрыі запачаткавалі наш (расейскі) публічны тэатр, і хутка дзякуючы ўплывам двара спалучанае з гэтым супрацоўніцтва з чужынцамі паступова стварыла з гэтых пачынаньняў тэатр мастацкі“.

Другі вучоны, расейскі гісторык Бацюшкаў, у сваей кнізе „Бѣлоруссія и Литва“ (СПБ. 1890 г.), кажа, што пасьля вайны Аляксея Міхайлавіча з Беларуска-Літоўскім Княствам і Польшчай, якая трывала ад 1654 да 1667 г. — „Апроч зямельных заўладаньняў, Расея ў гэтай вайне атрымала для свайго адраджэньня духовыя і ўмысловыя сілы, прыгарнуўшы да сябе лепшых заходне-рускіх (чытай беларускіх) дзеячоў і літаратурнымі перайманьнямі ў беларусаў і палякоў. У 1664 прыбыў у Маскву із Полацка ераманах Полацкага Богаяўленскага манастыра, Сымон Сітняновіч, тут ён запачаткаваў трывалка школьную асьвету і пакінуў па сабе многа навуковых і літаратурных працаў. Ад таго часу ўзмацняюцца пераклады з беларускага і польскага языка на рускі язык розных зборнікаў, расказаў, асобных повесьцяў, духоўных і сьвецкіх, баяк, казак, сьмяхотных апавяданьняў і т. п., даючы гэтым пачатак рускай літаратуры, перакладнай і насьледавальнай“.

Пэўне-ж, гэтае беларускае багацьце, з якога карыстала Масква, ня было вылучна вытварам беларускага творчага духу ў пару заняпаду беларускай культуры, было яно так-жа вытварам папярэдняе пары, а перадусім залатой.



Настаўшыя ў канцы 18 стагодзьдзя палітычныя падзеі не зьмянілі беларускай культурнай справы на лепшае.

Беларусь у канцы 18-га і самым пачатку 19-га стагодзьдзя цалком падпала пад уладу Расеі і, будучы падняволенай, ня мела магчымасьці праз многія дзесяткі гадоў разгарнуць свае культурнае справы. Праўда, у першых дзесятках 19-га стагодзьдзя пачынае сёе-тое рабіцца на беларускай літаратурнае ніве. Беларуская спольшчаная інтэлігенцыя шляхоцкага паходжаньня пачынае пісаць пабеларуску творы (Баршчэўскі, Рыпінскі, Чачот). Палепшылася справа беларускага прыгожага пісьменства ў другой палавіне, асабліва ў канцы гэтага стагодзьдзя з выступленьнем беларускіх пісьменьнікаў Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Яна Гурыновіча, Яна Няслухоўскага, Ядвігіна Ш. і інш.

На ніве навуковай таксама ёсьць некаторыя асягненьні. Расейская навука імкнучыся даказаць, што падняволеная Беларусь, тады называная „Западно-Русскім Краем,“— зьяўляецца краем „истинно-русскім“, дасьледавала яе і многа чаго ўкосна зрабіла добрага для беларускай гісторыі, этнографіі і мовы.

Тое самае, маючы адваротныя мяркаваньні ў адносінах да Беларусі, зрабіла для яе і польская навука.

Беларускі культурны рух у 19-ым стагодзьдзі амаль вылучна агранічаўся да літаратуры прыгожай і публіцыстычнай (падпольныя адозвы, газэты) і даў пачатак беларускаму адраджэньню, якое трывае да нашага часу.

Па рэвалюцыі 1905 г. беларускае культурнае жыцьцё значна разьвілося. У гэтым заслуга вялікая беларускае газэты „Нашая Ніва“ (выходзіла ад 1906 г. да 1915 г.). Пераважна яна ўзгадавала цэлае пакаленьне беларускіх пісьменьнікаў, культурных і грамадзкіх дзеячоў, з якіх многія яшчэ і сяньня жывуць; яна пранікаючы ў шырокія масы народу будзіла ў іх нацыянальнае пачуцьцё і сацыяльную сьведамасьць.

Пазьней паўсталі іншыя беларускія выданьні (газэта „Biełarus“), якія рабілі тое самае. І ў гэтым часе, хоць і беларуская грамадзка-палітычная думка разьвівалася, то аднак-жа беларускі адраджэнскі рух меў характар прадусім культурнага руху. У асобнасьці ў гэтым часе разьвілася беларуская літаратура. Праявіліся многія таленты, ужо сыны працоўнага сялянства, на чале з такімі волатамі беларускага мастацкага слова, якімі зьяўляюцца Янка Купала, Якуб Колас і іншыя.

Па Сусьветнай вайне і рэвалюцыі беларуская культурная справа значна ўзрастае. Новыя палітычныя абставіны

праз некаторы час пазваляюць беларускім культурным сілам разгарнуць работу. Гдзе-б гэтыя сілы не прабывалі, ці ў Беларусі Усходняй — пад Саветамі, ці ў Польшчы, ці ў Латвіі, ці на эміграцыі — усюды захапіўшыся ідэямі беларускага адраджэньня працуюць рупна. На асаблівую ўвагу заслугоўвае беларускі культурны і навуковы рух, які вытварыўся ў Савецкай Беларусі, да 1929—30 году, — да часу, калі бальшавікі спужаўшыся гэтага руху пачалі з ім рашучую барацьбу. Там у гэтым часе спасьцерагаем — арганізацыю шырокай сеткі беларускага школьніцтва, ніжэйшага, сярэдняга і вышэйшага, стварэньне цэлай чарады навуковых і культурных установ, з Інстытутам Беларускай Культуры на чале,ператворанага пазьней у Беларускую Акадэмію Навук; там адбываецца арганізацыя беларускага прафэсыянальнага тэатру, кіна, літаратурна-мастацкіх і навуковых выдавецтваў, музэяў і т. п. Выявіліся там цэлыя дзесяткі і сотні новых маладых, часта вельмі здольных беларускіх пісьменьнікаў, навукоўцаў, артыстаў, мастакоў. Нажаль, гэты беларускі культурны і навуковы рух ад 1929—30 г. бальшавіцкія ўлады ў імя інтарэсаў Масквы пачалі моцна прасьледаваць і зьністажаць; гэтае прасьледаваньне трывае там да нашага часу.

У сувязі з прасьледам беларускага нацыянальна-культурнага жыцьця ў Савецкай Беларусі, вялікадзяржаўніцкай Масквой расстрэлены ці вывезены з Бацькаўшчыны ў глыб Расеі дзесяткі і сотні беларускіх культурнікаў, навукоўцаў.

Каб мець паняцьце аб разгроме культурнага жыцьця ў Савецкай Беларусі, трэба ўспомніць аб тым, што ў адным толькі 1936 г. падчас ачысткі Беларускай Акадэміі Навук выкінута з гэтай установы каля 600 асоб.

Трагедыяй беларускага народу ёсьць факт, што з прычыны русыфікатарскай палітыкі Масквы ў Беларусі — лепшыя сыны і дочкі гэтай Беларусі, творчыя сілы, беларуская інтэлігенцыя, культурныя і навуковыя дзеячы, ня могуць працаваць для свайго народу, для яго культуры і ў сваім краю.

Але, міма няспрыяючых палітычных абставінаў, усё-ж рэзультаты беларускага культурна-нацыянальнага руху ў Савецкай Беларусі, асабліва ў першым дзесяцігодзьдзі існаваньня Сав. Беларусі, усё-ж значныя. Надрукаваныя там Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі і іншымі выдавецтвамі дзесяткі кніжак навуковай, падручнай, публіцыстычнай і прыгожай літаратуры, творы беларускіх вучоных, пісьменьнікаў і культурнікаў — зьяўляюцца значным духовым скарбам беларускага народу.

Ведама, у якіх цяжкіх варунках адбываецца культурная дзейнасьць Беларусаў у Польшчы. Але й тут Беларусы маюць нікаторыя дасягненьні. Выданыя Беларускім Аддзелам Выдавецтва Клецкіна, Беларускім Выдавецкім Т-вам, Беларускім Каталіцкім Выдавецтвам і інш., а так-жа існаваўшымі беларускімі культурна-асьветнымі арганізацыямі, газэтамі і прыватнымі асобамі — кніжкі з розных галін беларусазнаўства, творы беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, апошнімі гадамі творчасьць паэтаў Міхася Машары, Максіма Танка, рэзультары працы на ніве беларускай песьні і музыкі — гарманізацыі бел. народнай песьні, у апошніх гадох канцэрты салісты Міхала Забэйды-Суміцкага і Хору гр. Р. Шырмы, творчасьць беларускіх мастакоў — Сергеевіча, Драздовіча і інш., працы кс. Адама Станкевіча, д-ра Я. Станкевіча, Антона Навіны і іншых беларускіх навукоўцаў і культурнікаў, масавая работа на вёсцы і ў цэнтры Т-ва Беларускае Школы, Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і інш. беларускіх арганізацыяў і ўстаноў — вось рэзультаты беларускага культурнага руху ў Польшчы.

Беларусы ў Латвіі, Літве, а так-жа на эміграцыі таксама сёе-тое зрабілі для беларускае культурнае справы за апошніх пару дзесяткоў гадоў.

Пэўне-ж, рэзультаты працы Беларусаў на ніве культурнай у паваенную пару беларускага адраджэньня ня могуць раўняцца і вельмі, вельмі ўступаюць культурным асягненьням у гэтым часе такіх суседніх народаў, як Літоўцы і Латышы, якія ў мінулым годзе сьвяткавалі 20-лецьце свайго незалежнага гаспадарсьцьвеннага існаваньня.

У гэтым артыкуле пабежна кінулі мы вокам на нашую культурную мінуўшчыну і на будаўніцтва беларускае культуры ў новым часе, аж да сучаснасьці ўлучна. Пададзеныя ў ім весткі сьведчаць аб творчых здольнасьцях беларускага народу ў гістарычным ягоным разьвіцьці.

Расейскі гісторык, прафэсар М. О. Кояловіч, у сваей „Истории Русскаго самосознания" (С. Петербург, 1901 г.) пісаў, што ў Беларусі „даволі многа зроблена вялікіх спраў і ня мала было вялікіх людзей, каб народная памяць не зьвярталася да гэтых спраў і да гэтых людзей".

Беларускае культурна-нацыянальнае адраджэньне, апёршыся моцна аб слаўную культурную мінуўшчыну беларускага народу, міма няспрыяючых палітычных вонкавых абставінаў, за адносна кароткі час свайго існаваньня ўжо шмат чаго даканала і верым моцна — даканае.

*Янка Курган.*





## Польная гаспадарка

# Пустазельле і барацьба з ім

*(Агульныя ўвагі).*

Пустазельлем называюцца ўсе дзікія расьціны, што самі сабою паяўляюцца на полі, якое вырабляецца земляробам.

Гэтае пустазельле — ці раней расло на дадзеным полі і пры вырабе яго ня было аканчальна зьнішчожана, ці яно прыпадкам пасеялася разам з насеньнем культурных расьцін, ці занесена сюды ветрам або птушкамі, ці папала на поле разам з гноем ці якім-небудзь іншым спосабам. У кожным выпадку пустазельле на полі вельмі непажадана, бо яно ня толькі перашкаджае росту культурных расьцін, але і значна абніжае ўраджай. Земляробу трэба як мага старацца бароцца з гэтымі паразытамі, калі ён хоча атрымаць той даход, каторы можа і мусіць мець.

### Шкоднасьць пустазельля

Чым-жа пустазельле шкодзіць? А вось чым. Пустазельле адбірае месца ў культурных расьцін і сваім разрастаньнем „глушыць“ пасевы. Пажыраючы вельмі шмат спажыўных сучастак глебы пустазельле як-бы крадзе спожыў у культурных расьцін і гэтым аслабляе іх рост і ўраджай; мала гэтага — пустазельле адбірае з глебы значную частку вогкасьці, гэтак патрэбнай для спорнага росту пасеву. Дзеля таго, што выдаткі (праца, насеньне) на выраб поля пры большым і меншым ураджаю амаль аднолькавы, дык пустазельле як-бы ўздарожвае ўсю прадукцыю, а іншы раз пагоршвае якасьць самых прадуктаў. Ураджай зярнят будзе мець меншую вартасьць для пасева, калі яно засьмечана насеньнем пустазельля; корм (салома) зьмешаны з пустазельлем менш спажыўны для жывёлы і г. д.



### Гатункі пустазельля

Залежна ад таго, як размнажаецца і пашыраецца пустазельле, яно дзеліцца на карнявое і насеннае. Гэткі падзел вынікае йшчэ з тых спосабаў, якія трэба стасаваць для барацьбы з пустазельлем, бо іначай трэба бароцца з пустазельлем насенным, а іначай — з карнявым.

### Карнявое пустазельле

Гэтае пустазельле размнажаецца або карэньнямі, каторыя глыбака сядзяць у глебе, або паўзучымі карнявішчамі. Тыя падземныя часьці пустазельля гэтак жывучыя, што нават адарваныя ад іх невялікія кусочкі даюць пачатак новым расьцінам. Дзеля таго, што яны бязупынна растуць і пашыраюцца ў глебе, карнявое пустазельле астаецца і пашыраецца па полю нават у тым выпадку, калі ім ня даць магчымасьці цьвісьці і вытварыць насеньне.

Да карнявога пустазельля, з каторым земляробу найцяжэй бароцца, належаць: асот (мае глыбака апушчаныя паўзучыя карэньні), падбел, пырнік і малачай (мае глыбака апушчаны калаваты карэнь). З гэтых галаўнейшых прадстаўнікоў карнявога пустазельля найгоршы — пырнік. Ён размнажаецца ня гэтак з насеньня, як з свайго карнявішча, на каторым шмат ёсьць г. зв. „сьпячых вочак“, з якіх у меру патрэбы вырастаюць надземныя часьці расьціны.

### Барацьба з карнявым пустазельлем

Каб зьвясьці карнявое пустазельле, трэба дабрацца да ягоных падземных частак. У некаторых выпадках, калі пустазельле мае ня доўгі калаваты карэнь, найлепей выкапаць яго цалком. Але гэткім спосабам немагчыма зьвясьці тыя расьціны, што маюць глыбака разгалінёныя карэньні ці карнявішчы (асот, пырнік), асабліва, калі гэтыя карэньні сядзяць глыбака ў зямлі. У гэтым выпадку ёсьць адзіны спосаб — змусіць іх „памерці з голаду“. Дзеля таго, што найгалаўнейшым кормам кожнай расьціны ёсьць вугальная кісьля, каторую яны бяруць з паветра, дык расьціны ня могуць доўга існаваць, калі ім ня даць магчымасьці разьвіць лісьцё. Таму самым верным спосабам для зьністажэньня пустазельля трэба лічыць выразаньне іхніх усходаў (калі яны дасягнуць паверхні зямлі) якою-небудзь адпаведнаю прыладаю. Гэткім чынам, калі ў працягу даўжэйшага часу (цэлага лета) пустазельлю ня даць вырасьці пад зямлёю, то іх падземныя часьці паступова слабеюць і, нарэшце, гібнуць. Гэтым спосабам вельмі добра бароцца з пустазельлем на папары пры помачы плуга.

Папар мусіць ляжаць заўсёды „на чорна", гэта знача, што на ім ніколі ня сьмее зелянець і цьвісьці рознае пустазельле, яго трэба рана (перад сенакосам) мелка ўзараць (падлушчыць) і зараз-жа забаранаваць, а калі дождж не перашкодзіць — то і прываливаць цяжкім гладкім валам. Праз пару дзён пасьля гэтага абыйшоўшае зельле абавязкава выбараноўваецца востраю бараною, або спранжыноўкаю і зьністажаецца. Гэткае абыходжаньне зельля і выбараноўваньне яго можа паўтарацца. Выбараноўваньнем накрыж выбіраецца таксама пырнік.

## Барацьба з пырнікам і асотам

Барацьба з пырнікам заключаецца ў зьністажэньні ягоных падземных карнявішчаў разам з іхнімі „сьпячымі вочкамі". Дзеля гэтага, зараз-жа па жніве, ральлю трэба заараць на гэткую глыбіню, на якую сягае галоўная маса пырнікавага карнявішча. Аручы — старацца сьвібы тарцавань, г. зн. не прыкладаць іх гладка да дна баразны, а пакідаць іх тырчэць рабром, цэлымі сьвібамі. Калі сьвібы добра высахнуць ад сонца і ветру, тады ральлю баронуем вострою бараною і выцягваем наверх карнявішчы пырніку, каб яны ўжо аканчальна высахлі, пасьля чаго найлепей зграбсьці іх граблямі. Зразумела, што гэткі спосаб барацьбы магчымы толькі ў сухое лета, але калі лета мокрае, то ня толькі ня высушым сьвібы, але нават ня выцягнем наверх усіх карнявішчаў, а што выцягнецца, то дождж узноў „уваб'е" ў ральлю і гэтага хопіць, каб пырнік пачаў жыць нанова. Дык у мокрае лета адзіным, хоць і ня вельмі добрым спосабам, ёсьць глыбшае зааранье пырніку, — у наступным годзе разьвіцьцё яго аслабее.

Выграбленым з ральлі ў сухое лета пырнікам добра паправіць вельмі гразкія ці балоцістыя дарогі або вельмі пяшчаныя. Аднак-жа найлепей пырнік перабіць цапамі, вытрасьці з яго зямлю, перамыць у вадзе і „закрасіць" ім салому, празначаную на сечку.

Што датычыць асоту, дык яго можна зьністожыць гэткім спосабам:

Падпражыць у печы крыху каініту, сьцерці ці змалоць на пылок і пасыпаць ім раніцаю, па расе, маладыя расьцінкі асоту. Каініт спаліць ягонае лісьцё, а калі нават яшчэ аджыве гэткі асот, то барацьба з ім будзе лягчэйшаю, чымся спосабам выразаньня ягоных усходаў.

## Насеннае пустазельле

Пад гэтым назовам разумеецца ўсё тое пустазельле, што пашыраецца пры помачы насеньня (пладоў). Гэта пераважна аднагалетнія расьціны, што не пераживаюць зімы, напр. сьвірэпа, лебяда, куколь і інш., але паміж іх ёсьць двулетнія і нават многалетнія.

## Барацьба з насенным пустазельлем

Шмат якое насеньне пустазельля можа доўга захаваць сваю ўсходлівасьць, калі яно пакрыта зямлёю так, што да яго не даходзіць паветра. Дзеля гэтага няма такой глебы, у каторай ня было б усходлівага насеньня пустазельля. Пры вырабе глебы большая ці меншая колькасьць іх пападае бліжэй да паверхні глебы, г. зн. у тыя варункі, што спрыяюць прарастаньню. Дык ня дзіва, што на полі раптам паяўляецца такое пустазельле, якога ня было ўжо шмат гадоў. Земляроб заўсёды мусіць быць гатовым да барацьбы з пустазельлем і дзеля гэтага яму трэба старацца, каб усходы пустазельля былі зьністожаны перад тым, як яны пачнуць шкодзіць культурным расьцінам. Асабліва яму трэба старацца не дапушчаць да вытварэньня і пасьпяваньня насеньня пустазельля.

Вось чаму важна, каб земляроб яшчэ перад сяўбою змусіў узыйсьці насеньне пустазельля, што знаходзіцца ў верхнім пласьце глебы. І гэта зрабіць трэба нагэтулькі рана, каб яму хапіла часу на далейшы выраб поля і гэтым зьністожыць узыйшоўшае пустазельле перад тым, як настане пара сяўбы. Дык загадзя трэба пабаранаваць ральлю і прываливаць яе дзеля таго, каб зямля атрымала вогкасьць, патрэбную для ўсходу пустазельзя. Баранаваньнем перад сяўбою лёгка зьністожыць маладыя ўсходы пустазельля.

Але можна зьністожыць (ці затрымаць разьвіцьцё) нават тое пустазельле, што ўзыйшло разам з пасевам. Дзеля гэтага трэба спырсківаць поле такою цечаю, што атручвае кволыя ўсходы пустазельля. Гэткаю цечаю будзе, напрыклад, 15—20 процантовы раствор жалезнага купарасу (на 85—80 частак вады — 15—20 частак купарасу). Жалезны купарас асабліва ня шкодзіць збажыне, але гэткае пустазельле, як лебяда і сьвірэпа, ад яго чарнеюць і гібнуць; у кожным выпадку купарас нагэтулькі затрымлівае разьвіцьцё іх, што збажына потым іх лёгка перарастае.

## Барацьба з пустазельлем у засееным полі

У засееным полі з пустазельлем цяжэй змагацца. Бульба дзеля гэтага баранецца, а буракі й морхва матыкуюцца. Як адно, так і другое трэба рабіць перш, чымся поле ад абыйшоўшага зельля зазелянее: у гэтым часе зельле патрабуе найбольш корму, а знача бывае найболей шкодным. Яравое каласістае збожжа (авёс, ячмень), калі ў ім няма

ўсеенай сарадэлі або канюшыны, трэба вясной востра забаранаваць, пакуль рунь бывае йшчэ малая — пустазельле, якое мае іншы ўклад карэньня, выцягваецца бараною наверх і засыхае. Толькі памятаць, каб барана была вострая й на дадзены грунт не за цяжкая. Працу гэту трэба рабіць у сухі, сонечны дзень.

Калі-б так здарылася, што на баранаваньне быў прапушчаны адпаведні час, астаецца йшчэ адзіны спосаб масавага зьністажэньня пустазельля, пры помачы штучных гнаёў: каініту або азотняку. Гэтага спосабу трэба ўжываць, пакуль пустазельле йшчэ маладзенькае, калі напр. сьвірэпа ня мае болей за 4 лісткі. Каініт ужываны дзеля гэтага мусіць быць мелка молаты й расьсейваецца ён за расы. Таксама расьсейваецца й азотняк, які мусіць быць неалеяваны (пылісты). Як каініту, так азотняку ня можна расьсяваць у ярыну, у каторую ўсееены шыроколістыя матыльковыя расьціны, як віка, сарадэля, канюшына й інш. Колькасьць як каініту так і азотняку, даванага супроць пустазельля, залежа ад мноства самога пустазельля і даходзіць у каініту да 5—6 квінталяў а ў азотняку да 1—1,5 квінталяў на гэктар.

### Агульныя папераджаючыя сродкі проці пустазельля

Дзеля таго, каб трымаць поле чыстым ад пустазельля, трэба сачыць за тымі дарогамі, каторымі насеньне пустазельля можа папасьці на поле. Наўперад трэба зрэзаць або скасіць усякае пустазельле на межах, на краёх канаваў, равоў, на дарогах і інш. мясцох, каб ня даць ім магчымасьці пашыраць сваё насеньне. Каб абязшкодзіць насеньне пустазельля ў мякіне, саломе і іншых астачах ураджаю, ужыванага на корм жывёле, трэба варыць корм, калі гэтага насеньня ня можна пазбыцца іншым спосабам. У праціўным выпадку насеньне пустазельля можа папасьці ў усходлівым стане на поле разам з гноем.

Старанны выраб глебы, адпаведнае ўгнаеньне і ў час праведзеная сяўба так-жа зьяўляюцца сродкамі проці паяўленьня пустазельля, хоць ужо пасрэднымі. Але некаторыя сродкі дзеюць на пустазельле болей беспасрэдна. Да гэткіх належаць: капаньне канаваў (асушаньне) і вапнаваньне глебы. Некаторыя віды пустазельля, напр. хвошч, вельмі любяць мокрую глебу. Капаньне канаваў ці іх палепшаньне часта праганяе гэтае пустазельле. Гэтае самае бывае пры вапнаваньні глебы, бо ёсьць пустазельле, што ня любіць вапны (румянкі).

Некаторыя віды пустазельля можна зьністожыць адпаведнаю культураю: гэтак павойныя травы растуць у збажыне, прападаюць, калі на некалькі гадоў заняць поле пад расьціны акопныя.





*Земляробская эканоміка*

## Аб севазваротах у гаспадарцы

Севазваротам у гаспадарцы называем чаргаваньне расьцін земляробскай вытворчасьці на адным і тым-жа полі паводле пэўных, згары ўстаноўленых правілаў. Гэтак, на беларускіх землях да сягоньня найбольш пашыраным быў севазварот трохпалёвы, інача ведамы як трохпалёўка.

### Звычайная трохпалёўка

Першапачатнай формай земляробства, калі чалавек толькі што пакінуў на палавіну дзікі спосаб жыцьця паляўнічы, была гаспадарка качоўная. Чалавек утрымліваўся з гадоўлі рознай асвоенай жывёлы, з каторай перасуваўся (перакачоўваў) штораз на іншае месца, як толькі на месцы старым ня было ўжо корму для жывёлы.

З часам аднак вымаганьні чалавека расьлі: ён пачаў сеяць і гадаваць збожа. Чаргаваньне засеянага збожам поля з полем незасееным было ўсялякае і мянялася ў той меры, як зьмяншаўся запас зямлі.

Спачатку сеялася збожа на адным полі, пакуль яно радзіла, а тады пераходзілася на поле іншае. Пасьля — сеялі збожа на адным полі што другі год і тады ўзьнікаў двупалёвы севазварот або двупалёўка. Часам сеялі на адным і тым-жа полі: у 1-шым годзе — азімае збожа, у 3-цім — яравое, а ў 2-гім і 4-тым — пакідалі гэтае поле на пасьбішча, гэтак узьнікаў севазварот чатырохпалёвы. Як пры двух, так і пры чатырохпалёўцы палавіна поля ў кожным годзе ляжала пад папарам і ніякай карысьці не давала.

З часам, калі лік людзей стала пабольшываўся, а запас зямлі, наадварот, памяншаўся, нельга было пакідаць кажны год пуставаць палавіну зямлі: на гэтае пуставаньне адведзена была толькі трэцяя часьць зямлі, а рэшта, дзьве часьці, былі засеены: — адна — азімым збожам, а другая— яравым. Гэтак паўстала трохпалёўка, якая дачакалася й нашых дзён: папар, азіміна, ярына.

## Палепшаная трохпалёўка

Зямельны голад аднак цісснуў і цісьне далей і трохпалёўка памалу, але пастаянна мяняе свой першапачатны выгляд і сэнс. На вачох і памяці наймалодшага ўжо пакаленьня ў нас папар напалавіну касуецца і замяняецца канюшынай. З часам хоць дагэтуль ня ўсюды — касуецца ў нас і другая палавіна папару ды засаджваецца бульбай. Такім чынам з звычайнай трохпалёўкі паўстала трохпалёўка палепшаная: 1) палавіна папару — акопніны (бульба), палавіна — канюшына, 2) азіміна і 3) ярына. Калі-ж кажную із зьменаў палепшанай трохпалёўкі падзяліць папалам, дык атрымаем севазварот з наступным парадкам: 1. акопніны, 2. азіміны, 3. ярына, 4. канюшына, 5. азіміны й 6. ярына.

Выгады палепшанай трохпалёўкі, у параўнаньні з трохпалёўкай звычайнай, наступныя:

1. плошча аромага поля павялічываецца на адну траціну;
2. касуецца палявы прымус (прымус, напр., сеяць жыта ў адным полі), а ўсьлед за гэтым касуюцца супольныя пасьбішчы і сама супольная паша;
3. пашныя расьціны (канюшына, кармовы бурак), выгадаваныя на аромым полі, даюць магчымасьць унезалежніць гадоўлю жывёлы ад быцьця ці нябыцьця ў гаспадарцы сенажацяў ды пазваляюць завесьці кармленьне жывёлы ў хляве праз цэлы год; гэтым самым папраўляецца гадоўля жывёлы, а ў гаспадарцы прыбывае гною, а ўсьлед за гэтым павялічываецца і ўраджай на полі.

Нявыгада гэтай-жа палепшанай трохпалёўкі ў тым, што пры ёй у рабочы час набіраецца зашмат срочнай працы, сільней адчуваецца недахоп палявых дарог (пры церазпалосіцы) і пагражае небясьпека здароўю запёртай у хлеў праз цэлы год свойскай жывёлы.

Як-бы яно ня было, усё-ж завядзеньне палепшанай трохпалёўкі ў земляробстве азначае вялікі поступ, хоць патрабуе значнага ўкладу працоўных сілаў і капіталу. Спатыкаемся з ёю ў большасьці культурных краёў, дзе сеецца шмат каласістых збажавінаў, але ня шмат акопнінаў.

Палепшаная трохпалёўка ў большасьці выпадкаў ёсьць канешным, пераходным ступнём да севазвароту багацейшых краёў — шасьці й шматпалёвага.

## Шасьціпалёўка або ўласьцівы севазварот

Адначасна з зьмяншаньнем запасу зямлі, цана ейная падыймалася. Каб гаспадарка на гэткай зямлі аплачывалася, трэ' было з яе мець большыя ўраджаі. А на гэта трэба ў зямлю ўлажыць больш працы й капіталу (грошай, снасьці, гнаёў, насеньня). Гэткая гаспадарка з вялікім укладам працы й капіталу завецца гаспадаркай *інтэнсыўнай*. Тая-ж гаспадарка, у каторай прыход (ураджай і інш.) залежыць перадусім ад самой толькі ўраджайнасьці ці неўраджайнасьці поля, ад удаваньня ці неўдаваньня гадоўлі, называецца гаспадаркай *экстэнсыўнай*.

Зямельны голад, а тым самым і дарагоўля зямлі далі-ся ўзнакі перадусім такім прамысловым старонкам, як Англія, і ў Англіі, у графстве Норфольк, паўстаў першы севазварот, які стараўся выкарыстаць кажную пядзю зямлі як найбольш. Гэты севазварот дастаў назоў норфольскага і прадбачыў чатырохпалёўку з наступным парадкам: акопніны (па хляўным гнаі), ярына (з усевам канюшыны), канюшына, азіміна.

У гэтым севазвароце вялікую вартасьць мае канюшына, як сама па сабе, так і як расьціна, папераджаючая азіміну. Аднак хутка паказалася, што на большасьці грунтоў канюшына, прыходзячы часьцей як што чацьверты год, перастала радзіць. Прычына гэтага зьявішча й да сягоньня ня выясьнена, але людзі з гэтым неўраджаем канюшыны мусілі згадзіцца і севазварот расьцягнуць так, каб канюшына — і наагул кажная г. зв. матыльковая ці стручковая расьціна — вярталася на тое самае поле не раней, як адзін раз за шэсьць гадоў. Гэтак паўстаў севазварот шасьціпалёвы: 1) акопніна — бульба, бурак, 2) ярына — авёс, ячмень, 3) канюшына — сееная ў папярэднім годзе ў ярыну, 4) азіміна, 5) акопніна, 6) ярына. Або іншы шасьціпалёвы севазварот: 1) бульба, 2) авёс, 3) гарох, ці іншая стручковая расьціна, 4) азіміна, 5) канюшына 6) азіміна.

## Правілы севазвароту

З часам паўсталі севазвароты з большым лікам палёў, з 7, 8, 9, 10, 11 і 12-ма. Чаргаваньне расьцін у гэтых палёх ня ёсьць выпадковае, але кіруецца правіламі, якія былі знойдзены й пацьверджаны жыцьцём. Гэтыя правілы так важныя, што кажны земляроб іх мусіць ведаць, асабліва цяпер, бо знаньне іх пазваляе мець ня толькі большы ўраджай з поля, але й як танейшым коштам да яго дайсьці.

Галоўным такім правілам ёсьць тое, *каб папярэдняя расьціна прыгатаўляла грунт пад расьціну наступную*. Гэта магчыма, калі выкарыстаць своемасьці паасобных гаспадарскіх расьцінаў: a) закарэнівацца на большай ці меншай глыбіні глебы, b) выбіраць з глебы або ўзбагачываць яе на найважнейшую гнойную сучастку — азот, c) глушыць на полі ці разводзіць рознае пустазельле, d) пакідаць па сабе глебу ў будове зьбітай ці пухкай (зярністай). Урэшце трэба ведаць, што адны расьціны любяць сьвежае гнаеньне (сьвежую або першую гнойную сілу), іншыя — толькі церпяць гэта, а яшчэ іншыя — першай гнойнай сілы зусім ня здоль-

ныя вытрымаць. Як-жа ўсё гэта пагадзіць і выкарыстаць? Пачнём ад першага.

Адны расьціны маюць кароткія карэньні, а іншыя — даўгія. Да першых належаць перад усім збажавіны, а да другіх — канюшына і ўся рэшта расьцін матыльковых. Калі сеяць па сабе самыя толькі расьціны з мелкімі карэньнямі, або з самымі толькі карэньнямі глыбокімі, дык яны за год, за два на сваей глыбіні высмакчуць зямлю з гнойных сучастак і яна перастане радзіць. Каб да гэтага не дапусьціць, трэба старацца адзін год сеяць на даным полі расьціну з глыбокім карэньнем, а другі — з мелкім.

Усе расьціны патрабуюць азоту, якога поўна ў паветры, а мала ў зямлі. Але карыстацца азотам з паветра, а нават узбагачываць зямлю ў гэты азот здольны толькі расьціны матыльковыя і стручковыя (лубін, сарадэля, чырвоная й белая канюшына, люцэрна, віка, гарох, фасоля й інш.). Дзеля таго трэба гэтыя расьціны сеяць у перамежку з тымі расьцінамі, якія азоту з паветра прыймаць ня могуць (збожа, акопніны).

Расьціны збажовыя звычайна пакідаюць па сабе глебу запушчаную як што да будовы (зьбітая), так і што да расьціннасьці (пустазельле, пырнік). Будову глебы папраўляюць і ўсякае пустазельле глушаць расьціны шыракалістыя — матылькова-стручковыя й акопніны. А знача й тутака патрэбна чаргаваньне: год — адна расьціна, другі год — другая.

Паводле здольнасьці выкарыстоўваць сьвежа паложаны хлеўны гной, землеробская навука дзеліць гаспадарскія расьціны на тры часьці:

1) *расьціны, якія сьвежапаложанага хлеўнага гною патрабуюць і любяць яго:* бульба, капуста, бручка, кармавыя буракі;

2) *расьціны, якія сьвежапаложаны гной толькі церпяць* і найлепш-бы ўдаваліся ў другой зьмене на хлеўным гнаі: авёс, мак, травы, цукровыя буракі, бульба і

3) *расьціны, якія вельмі цяжка могуць карыстацца з сьвежапаложанага гною:* лён, ячмень, грэчка, пшаніца, жыта, канаплі.

Усё гэта прыймаючы пад увагу, пры ўкладаньні севазвароту — усёроўна на колькі палёў — трэба кіравацца наступнымі правіламі:

1) Пасьля расьцін, якія ўзбагачваюць глебу на азот (лубін, канюшына), мусяць прыходзіць расьціны, якія гэтага азоту ў глебе патрабуюць (збожа, акопніны).

2) Чаргаваньне расьцін на тым-жа полі мусіць быць такое, каб папярэднія расьціны пакідалі глебу ў стане прыгодным для расьціны новапрыходзячай.

3) Точна выкарыстоўваць расьцінамі гнойную сілу глебы.



4) Паміж расьцін, што закарэніваюцца мелка (збожа), трэба даваць расьціны, якія закарэніваюцца глыбака (лубін, канюшына).

5) Не даваць па сабе расьцін, якія гэтага цярпець ня могуць, напр., канюшына па канюшыне.

6) Не даваць па сабе расьцін, якія ці то памагаюць зарастаньню поля розным зельлем (збожа), або хварэюць на адну й тую самую хваробу.

7) Паасобныя расьціны даваць у севазвароце ў такім парадку, каб папярэдняя расьціна мела даволі часу высьпеліцца, а наступная — каб мела даволі часу на прыгатаваньне пад сябе глебы (дзеля гэтага кепска сеяць азіміны пасьля акопнінаў).

Карысьці правідловага севазвароту наступныя: 1) лепш выкарыстоўваюцца кармовыя сучасткі глебы й паветра; 2) даецца магчымасьць болей садзіць і сеяць розныя пашныя расьціны і гэтым самым пазваляецца ўнезалежніць гадоўлю жывёлы ад нястачы сенажацяў; 3) пазваляецца болей месца даваць пад акопніны, што вельмі карысным бывае там, дзе на акопніны ёсьць добры збыт (бровары, цукроўні, блізкасьць места); 4) больш роўнамернае праз цэлы год разлажэньне запатрабаваньня сілаў людзкіх, жывёліных і машыновых; 5) меншая рызыка неўраджаю.

Паміма гэтых бесьпярэчна добрых старон шасьціпалёвага й шырэйшага севазвароту, трэба ведаць, што ён патрабуе вельмі шмат працоўных сілаў і капіталу. Дзеля таго ў ваколіцах, дзе зямля танная, а няма пэўнага рынку збыту, там з завядзеньнем шасьціпалёўкі трэба быць асьцярожным.

**Інж. А. Клімовіч.**

---

## Парады для тых, што купляюць гаспадаркі

Беларус — землероб, а зямля — ягоны варштат, пры помачы каторага ён змагаецца з усімі злыднямі свайго жыцьця. І беларус так прывязаны да свайго варштату, так любіць яго, што ўсімі сіламі стараецца ўтрымаць яго пры сабе ды перадаць у палепшаным і пабольшаным стане свайму патомству. А калі хто па няшчасьцю ня мае варштату-зямлі, то ўвесь свой век мроіць, як-бы набыць яго, і хоць вельмі цяжка яму зьдзейсьніць свае думкі, але ўсё-ж такі магчыма. Магчыма, кажу, бо цяперака гандлююць зямлёю, як і іншым таварам — адны пазбываюцца яе, прадаюць, другія купляюць, іншыя застаўляюць і г. д. А што ў гандлі

ўважаецца за спрыт і „мудрасьць“ ашукаць бліжняга, дык хіба ня лішнім будзе падаць тутака колькі ўвагаў адносна куплі-продажы гаспадаркаў, каб хоць часткова забясьпечыць нашых чытачоў ад надужыццяў з боку розных спэкулянтаў.

**Ад каго купляць.** Цяперака, калі мясцамі праводзіцца зямельная рэформа, а мясцамі дабравольная парцэляцыя — найчасьцей прыходзіцца купляць зямлю ці ад дзяржаўных урадаў ці ад парцэляцыйных прадпрыемстваў. Здарыцца могуць іншыя выпадкі куплі і тады найлепш купляць старыя гаспадаркі, уласьнікі каторых дзеля якіх-небудзь сямейных прычынаў стараюцца пазбыцца зямлі. Купляючы — ўнікаць гандляроў і пасрэднікаў у гандлі зямлёю, а калі прыйшлося-б скарыстаць з пасярэдніцтва, то зьвяртацца трэба да паасобных фірмаў, ведамых з свае саліднасьці і пачцівасьці.

**Спраўдзіць гіпотэку.** Яшчэ перад уступнаю ўмоваю трэба спраўдзіць у гіпотэцы (а калі гаспадарка ня мае гіпотэкі, то ў валасным урадзе), хто ёсьць сапраўдным собсьнікам (уласьнікам) прадаванае зямлі. Бывалі выпадкі, што спрытны ашуканец-пасярэднік заключаў з набыўцом уступную ўмову, назначаў тэрмін на заключэньне ўмовы натарыяльнай, браў задатак... і да натаруса не яўляўся. Па спраўджаньні на месцы, аказывалася, што собсьнікам была зусім іншая асоба, каторая і ня думала аб прадажы зямлі.

Спраўдзіць, якія даўгі абцяжываюць гаспадарку, іхні абшар і межы гаспадаркі паводле плянаў.

**Абгледзіць гаспадарку** — найлепш пасьля сенакосу пры помачы суседа, добрага гаспадара, або пры помачы спэцыялістага з землябобскай установы. Абгледзіць дакладна і спраўдзіць абшар і межы—ці згаджаюцца яны з плянам.

Зьвярнуць увагу на якасьць ужыткаў — ці толькі зямля аромая, ці ёсьць лугі, пасьбішчы, торф, лес; ці ёсьць вада і якая; у якім стане сад, рыбная сажалка. Рознароднасьць ужыткаў падыймае вартасьць гаспадаркі.

Спраўдзіць пры помачы рыдлёўкі якасьць глебы і падглеббя (лёс, чарназём, гліна, пясок і інш.), а так-жа стан вырабу. Вельмі вялікая рознароднасьць якасьці глебы паніжае вартасьць гаспадаркі, аднак добра, калі побач з мацнейшаю зямлёю ёсьць кусок зямлі лягчэйшай.

Ці мясцовасьць гарыстая ці раўніна? Ці грунт не вымагае асушэньня і ці лёгка было-б гэта зрабіць? Ці ёсьць няўжыткі і які іх абшар?

Абгледзіць і абмяркаваць стан і гаспадарчую вартасьць усялякіх будынкаў. Ці няма хатняга грыба?

Ці здараюцца паводкі,градабіцьці і як часта?

Які стан дарог? Як далёка да большага места, да чыгуначнай станцыі, да шашы, да школы? Ці ёсьць у блізкасьці малачарня, цукроўня, бровар, млын ці якая іншая фабрыка?

**Умова** — Перад заключэньнем натарыяльнай умовы дакладна абгаварыць умовы прадажы, спосаб і ўмовы сплаты. Перад падпісаньнем умовы ўважна яе прачытаць, ці ўсё напісана так, як абгаварывалася, ці чаго ня зьменена, ці ясна і проста напісана, ці няма ў ёй чаго двузначнага, да чаго потым лёгка прычапіцца.

Умовы заключаць толькі натарыяльныя пры 2-х сьведках.

І яшчэ апошнія рады:

Ня купляць гаспадарак нескамасаваных.

Унікаць вэксалёў і даўгоў, абцяжываючых гаспадаркі!





*Хатняя гаспадарка*

# Саленьне й вэнджаньне мяса

## Саленьне ці марынаваньне мяса

*Агульныя правілы.* Мерна-цёплае надвор'е—гэта найлепшая пара для саленьня мяса. У гарачыню саліць небясьпечна, бо мяса можа папсавацца раней, чым яго пасьпеюць пасаліць, а сапсутае мяса дрэнна ўцягвае ў сябе соль. Калі надвор'е яснае й сьвежае, без марозу, то перад саленьнем мяса можна яго вывесіць праветрыцца на дзень-два, але калі надвор'е маразянае, то найлепей мяса пасаліць раней, чым з яго выйдзе свая цяпліня.

Для саленьня ці марынаваньня мяса ўжываецца соль, салетра, цукар, бабковы ліст, цынамон, ялаўцовыя ягады, кмен, перац і іншыя прыправы. На 100 вагавых частак солі бярэцца 2—4 такія-ж часткі салетры, болей-меней па гэтульскі-ж іншых прыправаў і 6 частак цукру. Заданьнем солі пры марынаваньні мяса, між іншым, ёсьць адцягіваць з мяса нармальную вогкасьць. Да гэтага патрэбна сухая соль і таму перад саленьнем яе на патэльні проці полымя падсушываюць датуль, пакуль не пачне трэскаць, а пры перасыпаньні — шусьцець. Салетра ўжываецца на тое, каб мяса набрала прыгожага чырвонага колеру й зрабілася тугім; аднак, калі палажыць зашмат салетры, то мяса траціць большую частку сваей пажыўнасьці. Цукар дадаецца, каб зьвялічылася трывалкасьць мяса, бо цукар кансэрвуе мяса так, як і соль, але ня сушыць яго і ня робіць яго тугім. Соліцца мяса ў мерна-халодным месцы, дзе правявае чыстае паветра і куды не дасягаюць сонечныя косы (праменьні). У маразяную пагоду гэтае месца зачыняць.

*Судзьдзё для саленьня мяса* ўжываецца дзеравянае й глінянае. Дзеравянае, як цэбры, бочкі, карыты — найбольш пашырана, бо яно й таннае й моцнае, але мае той недастатак, што з часам працякае і ў ім вытвараецца асаблівая кісьля, каторая саланіне надае непажаданы запах. У Англіі бароняцца ад гэткага запаху тым, што дзеравянае судзьдзё на саленьне саланіны ўнутры асмольваюць. Смала, зусім ня шкодная саланіне, не дазваляе цячы судзіне й не дапускае вытварацца кісьлі; але яна хутка адстае і амаль штогоду судзінку трэба нанова асмольваць. Глінянае судзьдзё, як вялікія гаршкі, слаі і інш., дзеля сваей чысьціні вельмі надаецца для ўсякага роду саланіны, але нявыгоднае тым, што яно мелкае й ламлівае. — Як глінянае, так і дзеравянае судзьдзё з саланінаю накрываюць дзеравянымі, добра прыладжанымі кружкамі (дэнкамі) для абароны саланіны ад мухаў, мышэй і ад уплыву паветра. Кружкі прыціскаюць каменьнямі.

*Як саліць мяса.* Мяса на саленьне ці марынаваньне трэба прыгатаўляць ужо зразу пры „разьбіраньні“ тушы. Тое мяса, што празначаецца на ўжыцьцё ў хуткім часе, можа быць пасолена ўсё адным разам; але тое, што празначаецца на захаваньне (шынкі, саланіна), раней, калі яно яшчэ цёплае, націраюць крыхой солі й так даюць яму паляжаць дзень-два, каб выцягнула з яго ўсю кроў. Выцягнуты такім чынам расол трэба зьліць а мяса абцерці.

Самае саленьне ці марынаваньне праводзіцца гэтак: чыстая, нічым непахнучая судзіна пасыпаецца з сярэдзіны пакрышанымі й патоўчанымі прыправамі — бабковым лістом, ялаўцовымі ягадамі й г. д. Прыгатаваны на саленьне кусок мяса моцна націраецца мяшанкаю салетры з цукрам, а пасьля падсушанай сольлю і ўкладаецца у судзіну цесна, кусок пры куску. Паасобныя кускі мяса перакладаюцца тымі-ж пахнючымі прыправамі. Пры касьцёх часамі робяць нажом шчыліны, у каторыя засыпаюць салетру й соль.

Паложанае ў судзіну мяса пакрываюць чыстым кружком і прыціскаюць каменьнямі. Пакуль гэтак паложанае мяса ня пусьціць сок (прыблізна праз 3 дні), яно трымаецца ў цёплым памяшчэньні й штодня пераварачываецца, каб марынавалася роўнамерна.

Кускі ялавічыны можна пераварачываць ніжняю стараною ўверх, але калі мяса пакрыта скураю, як сьвініна, то яго толькі трэба прыпаднімаць, каб расол сьцёк пад яго, а нераспушчаную яшчэ соль сабраць і разлажыць на паверхні. Калі сьвіныя часьці (лапаткі, шынкі) кладуцца адна на адну, то палажэньне іх штодня трэба мяняць, перакладываючы верхнія кускі ўніз, пры гэтым глядзець, каб тая палавіна мяса, што пакрыта скураю, была абернутай уніз.

Калі ўжо мяса пусьціла сок, дык яно, з судзінаю разам, выносіцца ў зімнейшае памяшчэньне, прычым магчымы недахоп соку дапаўняецца астуджаным роспускам (растворам) солі ў пераваранай вадзе. Гэты-ж сок, калі ён прасочыцца ўзноў аж на дно, дном узноў выпускаюць і ім-жа нанова тое самае мяса наліваюць.

Іншыя, замест саленьня мяса сухою сольлю, разварваюць яе ў вадзе й астыўшы расол выліваюць на мяса так, каб яно зусім ім пакрылася, і пакідаюць мяса ляжаць у ра-

соле. Гэткі спосаб выгодны тым, што мяса меней траціць на вазе і, калі яго доўга прыдзецца трымаць у расоле, яно не пераносіцца, як гэта бывае пры звычайным спосабе саленьня.

*Час, патрэбны на прасаленьне мяса,* залежыць ад вялічыні кускоў. Вялікую шынку або вялікі кусок ялавічыны можна трымаць у солі 10 дзён, ня болей; для тонкіх-жа кускоў ялавічыны і сьвініны даволі 4—5 дзён. Калі мяса ляжала ў солі вельмі доўга, то яго перад варэньнем трэба добра вымыць — пры чым яно ўтраціць трохі сваей дабраты. Гэта не датычыць таго мяса, каторае пасьля саленьня мусіць перахоўвацца сухім; такое мяса трэба трымаць у расоле датуль, пакуль яно зусім не пранікнецца сольлю, іначай цераз некаторы час яно папсуецца каля касьцей. У гэтым выпадку для сьвіных лапатак і апольцаў трэба пяць тыдняў прабыць у расоле; для шынак — ад 4 да 6 тыдняў, гледзячы па вялічыні іх. На кусок мяса каля 16 кілё вагі трэба ўзяць 400 грамаў солі і 50 грамаў пескавога цукру. Калі хочуць мець мяса чырвонага колеру, то дабаўляюць на 400 гр. солі 12—15 грамаў салетры й яшчэ 30 грамаў пескавога цукру.

## Іншыя спосабы саленьня мяса

1. Расейскі спосаб. На 16 кілё ялавічыны бяруць ад 2 да 4 кілё солі і 100 гр. салетры — усё гэтае таўкуць на дробненькі парашок, каторым і націраюць прыгатаваныя кускі мяса. Потым у чыстую судзіну насыпаюць на дно солі і на яе кладуць слаямі ялавічыну, перасыпаючы кажны слой патоўчанаю мяшанкаю перцу, гвоздзікаў, цынамону, імберу, ялаўцавых ягадаў і бабковага лісьця. Асабліва стараюцца ўціраць соль у пустыя месцы й прарэзы.

2. Ангельскі спосаб. Ад сьвініны, празначанай на саленьне, адрэзаць усе худыя часьці для ўжываньня сьвежымі, а клустыя часьці разрэзаць на невялікія кускі (ад 1 да 2 кілё кажны). Кадушачка для саленьня мусіць быць з пакрыўкаю, яе трэба добра вымыць, выскрабці й на суха выцерці. На дно кадушачкі насыпаць солі, потым класьці пластамі мяса, як можна цясьней, і кажны пласт перасыпаць сольлю з салетраю й перцам. Напоўненую кадушачку заліць расолам — 2 кілё солі, па 200 грамаў салетры й перцу на вядро варатку і закрыць пакрыўкаю. Цераз 2—3 тыдні мяса будзе гатова да ўжытку, але й можна перахоўвацца некалькі месяцаў.

3. Ямбурскі спосаб. На 16 кілё мяса бяруць: салетры 25 грамаў, пескавога цукру 40 грамаў, солі $1^1/_4$ кілё, ялаўцовых тоўчаных ягадаў 100 грамаў, бабковага лісьця 100 грамаў, ангельскага перцу 25 грамаў. Усё гэта, апрача перцу,



мяшаюць разам і атрыманаю мяшанкаю націраюць кажную часьць мяса асобна, кладуць пластамі ў бочку, перасыпаючы кажны пласт таго-ж мяшанкаю й перцам.

## Вэнджаньне мяса

*Мэта вэнджаньня.* Галоўная мэта вэнджаньня — кансэрваваньне мяса, захаваньне яго ад псуцьця шляхам зьністажэньня гнілатворчых бактэрыяў. Пры вэнджаньні маем два сродкі на кансэрваваньне мяса: першы — гэта саленьне ці марынаваньне перад вэнджаньнем, а другі — гэта прыгарэла-дрыўляная кісьля, каторая вытвараецца пры спальваньні дзерава і знаходзіцца ў дыме. Гэтая кісьля пранікае ў мяса й кансэрвуе яго.

*Матар'ялы для дыму.* Мяса вэндзіцца дымам, ад каторага яно набірае асаблівага смаку — залежыць ён ад таго дзерава, якое ўжываецца на вытварэньне дыму. Цьвёрдае дзерава дзеля гэтага лепшае ад мяккага, сырое — лепшае ад сухога, бо яно дае болей дыму. Хваёвае й яловае дзерава, у каторых шмат смалы, а так-жа ўсякае іншае дзерава, пакрытае плесеньню, да вэнджаньня не надаецца, бо яно прыдае мясу нехарошы выгляд. Найлепш да гэтага прыгодны: ялавец, бук, топаль і бяроза, але без кары. Дубовая кара так-жа добрая — яна надае мясу асаблівы прыемны смак. Ужываецца для вэнджаньня дуб і дубовае лісьцё, каторыя даюць шмат добрага дыму.

Мяса тым ляпей вэндзіцца, чым болей дыму дае дзерава. Дзеля гэтага дзерава паляць не вялікім агнём, а павольным тленьнем, а само дзерава даецца дробнымі кускамі, а ляпей — у форме пілавіньня. Калі палячы дзерава вытварыцца вялікі агонь — яго зьмяншаюць да тленьня, апырсківаючы вадою палажанае на вогнішча дзерава.

Хто ў вэнджаным мясе любіць першы смак, той можа вэндзіць яго з рознымі пернымі матар'яламі, як размарын, мята, бабковае лісьцё, аер, кава, сухія сьлівы, гвазьдзікі й інш. Усе гэтыя матар'ялы пры гарэньні даюць асаблівыя пахі, каторымі пранікаецца мяса. А хто хоча мець моцны дым, у каторым ня было-б пастаронніх дамешкаў, той можа вэндзіць мяса сажаю, пасыпаючы яе на распаленае вугальле.

*Агульныя ўвагі аб вэнджаньні.* Як доўга трэба вэндзіць мяса, залежыць ад гатунку мяса й ад таго, як доўга яно мае быць перахоўвана. Каўбасу, напр., вэндзяць 3—5 дзён, а шынку можна вэндзіць 1 дзень, а можна й цэлы тыдзень, і болей нават. Праз цэлы час вэнджаньня мяса мусіць быць сухім, але ня сьмее зьмерзнуць на марозе. Сухасьць мяса дасьцігаецца праз тое, што або да яго даводзяць сьвежае паветра, або яго выносяць на сьвежае паветра і прасушываюць.

З вэнджаньнем мяса трэба скончыць, як толькі на ім пачне выкрысталізоўвацца соль.

Добрага смаку дасягае мяса, калі яго перад вэнджаньнем нацерці салетрай з сольлю (1 ч. салетры на 32 ч. солі), абсыпаць вотрубамі, колькі іх можа ўтрымацца на мясе, укруціць у чыстую паперу й павесіць у дымніку — гэтак прыгатаванае мяса слыве з добрага смаку, але яно менш трывалкае.

## Вэнджаньне match мяса

Добры смак вэнджанага мяса залежыць ад таго, як яно прыгатавана да вэнджаньня. Незалежна ад саленьня ці марынаваньня розныя гатункі мяса перад вэнджаньнем абрабляюцца йшчэ іншымі спосабамі, з каторымі мы й пазнаёмімся.

Сьвініна з тыдзень трымаецца на паветры, ад чаго яна робіцца мяккаю, пасьля націраецца сольлю з салетраю й прыціскаецца якім-небудзь цяжарам. Пратрымаўшы пад ціскам з тыдзень, сьвініну апускаюць у ваду, настоеную разьмятымі ялаўцовымі агадамі. Цераз некалькі дзён выймаюць яе з вады й вешаюць у дымніку, дзе вэндзяць ялаўцовым дымам.

Сьвіное сала вэндзіцца так-жа, як і сьвініна. Каб з яго не выцякала клустасьць, дык перад вэнджаньнем тыдні два сала трымаюць у халоднай вадзе, каторую штодня зьмяняюць.

Ялавічыну перад вэнджаньнем апускаюць некалькі разоў у варатак (кіпяток), зараз выймаюць, націраюць сольлю з салетраю й абсыпаюць вотрубамі. Вэндзяць слабым куравам.

Бараніну (заднюю часьць), нацёршы сольлю з салетраю, пакідаюць на дні два пад ціскам і часта пераварачваюць. Калі мяса старое й жоскае, то яго перад гэтым б'юць калатушкамі. У дыме трымаць яго ня трэба гэтулькі, колькі ялавічыну.

Гусей вэндзяць цэлымі, палавінамі й разрэзанымі на кускі. У першым выпадку надразаюць у гусей сьпіну, націраюць іх сольлю з салетраю й на дні тры кладуць у судзінку. Калі большая частка солі распусьціцца, выймаюць з расолу, абсыпаюць і абляпляюць вотрубамі так, каб ні мяса ні туку ня было відаць і вешаюць у дымніку, дзе яны мусяць прабыць 8 дзён. Пасьля вэнджаньня яшчэ 8 дзён вешаюць на паветры, аднак у такім месцы, куды не дасягаюць сонечныя косы. Напасьледак вотрубы абціраюць і захоўваюць у сухім халаднаватым месцы. Гусі ад такога прыгатаваньня выходзяць звонку жоўтымі, а ўнутры—мяса чырвонае з белым тукам.



*Вэнджаньне мяса сажаю замест дыму.* Дзеля гэтага ўжываецца блішчустая сажа, каторая адбіваецца з каміноў над вогнішчам; трэба толькі адбіваць асьцярожна, каб не адбіць разам з ёю вапны, гліны, каменьняў, бо сажа будзе нячыстаю. Гэтаю сажаю вэндзяць мяса ў самы кароткі час.

Перад вэнджаньнем мяса трэба добра высаліць у расоле. Класьці ў расол мяса зараз-жа па „разьбіраньні“ жывёлы, не пазьней паўдня ад таго часу, калі жывёла была забіта ці зарэзана. Кладучы ў расол мяса, трэба парэзаць на ня вельмі вялікія кускі, каторыя мусяць быць зусім чыстымі.

У практыцы пры саленьні й вэнджаньні мяса паступаюць гэтак.

Цяляціны 5 кілё кладуць у расол, атрыманы з 25 грамаў салетры, 200 гр. солі, паўцытрыны, двух бабковых лісьцікаў і крышкі часныку — гэты апошні дадаецца да смаку, хто любіць яго. Соль распускаюць у рачной ці дажджавой вадзе. У гэткім расоле мяса трымаюць летам 8—10 дзён, а ўзімку 14—18. Для вэнджаньня прасоленай такім чынам цяляціны бяруць 400 грамаў дробненька пацёртай блішчустай сажы, наліваюць яе трыма чверцямі літра дажджавой вады і даюць так стаяць дзьве пары. Потым дабаўляюць кілё солі і 50 грамаў чыстага дрыўлянага воцту. У гэтую мяшанку кладзецца цяляціна на 5—7 гадзінаў, пасьля выймаецца, вешаецца ў правеўным месцы і цераз два дні запякаецца ў хлебным цесьце.

Ялавічына. На 6 кілё ялавічыны бярэцца 300 грамаў солі і 25 гр. салетры, а соліцца — два тыдні ўлетку, узімку-ж болей за тры тыдні. Сажы для вэнджаньня бярэцца 300 грамаў на кілё з чверцяю солі, каторая распускаецца ў літры вады. У гэтай мяшанцы ялавічына ляжыць ад 8 да 10 гадзінаў.

Сьвініна вымагае гэткага-ж расолу, часу й мяшанкі сажы, як і ялавічына.

Птушкі (качкі, гусі, індыкі, куры) вымагаюць гэтулькі-ж расолу, сажы й часу, колькі цяляціна.

Каб цяляціну зрабіць больш далікатнейшай, трэба націраць яе тоўчаным часныком і тоўчанымі ялаўцовымі ягадамі, абкладываць бабковым лісьцём і, памачыўшы ручнік у расоле, укруціць у яго цяляціну і пакінуць яе так на гадзінаў чатыры. Такім-жа чынам і ялавічыну перад саленьнем можна націраць ялаўцовымі ягадамі, потым змачыць моцным воцтам, дабавіць гвозьдзікаў і іншых пернасьцяў, паводле жаданьня. Як цяляціну ці ялавічыну, так і сьвініну можна зрабіць смачнейшаю.

Мяшанку з сажаю, куды палажана для вэнджаньня мяса, трэба часьцей мяшаць.

# Дагляд хатняе жывёлы

Ведама, што кажная хвароба мае свае прычыны, аб якіх трэба старацца па меры магчымасьці памятаць і іх высьцерагацца. Важна гэта асабліва нам Беларусам — людзям, каторыя займаюцца земляробствам і жывёлагадоўляй. Трэба, каб кажны гаспадар, ня гледзячы на вонкавыя варункі, вырабіў у сабе сталасьць і пэўнасьць, каторыя памогуць перамагчы ўсё на пагляд немагчымае ў ягоным жыцьці.

Ніжэй падаю некаторыя прычыны хвароб і апісаньне самых хваробаў хатняе жывёлы, каторых трэба высьцерагацца.

**Наровістасьць** — гэта рэзультат няўмелых і грубых адносінаў да жывёліны пры першым навучаньні яго якойнебудзь працы, вялікае болі абдзёртай, абмулянай ці наагул ушкоджанай скуры і кепска дапасаванае вупражы.

**Панос** (сьціданьне) — гэта рэзультат перамены корму, вельмі скорага пераходу к зялёнаму корму і к выганам, а так-жа вадзяністага прэснага корму.

**Колькі** (мышкі) — гэта боль жывата найчасьцей у коняй, хвароба, якая вельмі часта спатыкаецца на вёсцы і наносіць шкоду гаспадару. Каб яе высьцерагчыся, трэба трымацца наступных правілаў:

I. Кантроля над штодзеннай порцыяй корму — гэта значыць не даваць вельмі многа корму, каторы выклікае колькі, як малады і сплясьнелы авёс, жыта, гнілая бульба, корм занячышчаны пяском, салома з падсьцілкі і г. д.

II. Пераход з аднаго гатунку корму на другі павінен быць паступовы (не раптоўны) і трываць праз 8—14 дзён. Новыя гатункі корму павінны прымешвацца з дня на дзень усё болей да корму, каторы быў падаваны раней. Напрыклад пераход ад старога сена і аўса да новага. К зялёнаму корму спачатку трэба прымешваць шмат сечкі.

III. За лішне жыркімі конямі павінен быць асаблівы дагляд; напрыклад, калі конь абкормліваецца саломай з падсьцілкі, дык галаву ягоную трэба высака прывязаць.

IV. Коні спацеўшыя і разагрэтыя ня можна паіць халоднай вадой. Але таксама ня трэба коняў лішне „даліка-



ціць“, зачыняючы заўсёды шчыльна дзьверы ў хлявох, або вельмі часта накрываючы іх усякімі гунькамі, дзяругамі і г.д.

V. Чыстата хлява, асабліва ясьляў, цэбраў, вёдраў, а таксама і сьценаў, бо на іх знаходзяцца плесьні і грыбкі, ад каторых пасьля прыходзяць колькі.

VI. Вада павінна быць чыстая і з гэтай прычыны калодзезь (студня) мусіць быць ачышчаны.

VII. Там, дзе спатыкаюцца глісты (чарвякі белыя), не даваць коням бруднае вады з лужын і ня пускаць на мокрыя і балоцістыя выганы.

**Макрэц у коняў** — запаленьне скуры на путавых суставах пярэдніх і задніх ног. Прычыны яго мэханічныя: пута, гразь, пыл; хімічныя: вапенны пыл і зялёнае мыла. А найбольш небясьпечнымі зьяўляюцца бактэрыі і паразіты скуры.

## Найчасьцейшыя хваробы хатняе жывёлы

**Вострае апушваньне (уздуцьцё) жывата ў кароў і авечак** *(Meteorismus acutus ruminis).* Гэтую хваробу пазнаць ня трудна. Карову, або авечку так апушвае, што жывот напоўнены газамі расшыраецца і выпаўняе сьпярша пахвіну з левага боку, а пасьля і з правага. Сьпярша карова стаіць спакойна. Калі аднак яе не ратаваць, дык газаў у жываце зьбіраецца больш, яны націскаюць на лёгкія і карова пачынае непакоіцца. Выступіць душнасьць; вельмі частае дыханьне, рот адчынены, язык высунены, выступаюць поты, ногі і вушы становяцца халодныя. Пасьля наступае ўтрата прытомнасьці, жывёла валіцца на зямлю і наступае сьмерць з удушэньня.

**Прычыны:** Сачысты корм, каторага карова шмат зьядае. Папершае маладая трава, як лыга, люцэрна, чырвоная канюшына з расой, шмат, асабліва нясьвежага лісьця бурачанага ці капусьцянага, бульбоўнік, а ў цялят спатыкаецца нават, калі вып'е зашмат малака. Частай прычынай колькаў зьяўляюцца так-жа зрошаныя і зьмёрзлыя расьціны (вельмі лёгка фэрмэнтуюць), далей — вялая трава, каторая ляжыць у копах 1—2 дні, гнілыя або зьмерзлыя буракі і бульба, — найчасьцей у кароў галодных, якія тады зашмат ядуць, а слабы жывот ня можа іх пераварыць.

**Дагляд і лячэньне:** Трэба высьцерагацца ўсіх вышэй названых прычын. Вільготнага і падазронага корму даваць трэба толькі малую порцыю, падмешваючы сухі корм, як сечка. Пераход ад сухога корму к зялёнаму мусіць быць паступовы, праз 14 дзён. Корм, каторы быў пад інеем і дажджом, трэба перасушыць. Пасьля зялёнага корму адразу ня можна даваць вады.

Лячыць хворую карову трэба гэтак:

1) Як найчасьцей выцягваць апушаней жывёле язык з роту: гэтым спосабам выклікаем адрыжку, у часе каторай газы адыходзяць з жывата. 2) Перавяслам, намазаным дзёгцем, або каламазьзю закелзаць карову: гэтым спосабам выдзяляецца шмат сьліны, каторую карова глытае — і ў часе гэтага глытаньня адчыняецца ўваход з горла да жывата і газы выходзяць. 3) Карову паставіць так, каб перад ейны быў вышэй ад заду, і паліваць сьцюдзёнай вадой, адначасна рабіць раўнамерныя масажы (уціскі) ў левай пахвіне. Вада халодная пабуджае да руху жывот, а ўціскі (масажы) памагаюць пры выходжаньні газаў. 4) Калі ёсьць сонда (трубка), дык трэба яе добра змазаць алеем, або якім другім тлушчам і асьцярожна ўвясьці праз горла да жывата. Пры гэтым карова мусіць стаяць перадам вышэй чым задам. Газы выходзяць праз сонду. 5) Трокар ужываецца ў найгоршым выпадку. Убіваецца ён у левую пахвіну, кіруючы вастрыём на правы локаць: наперад, уніз і направа — пры гэтым газаў выпускаць адразу ня можна. Бываюць цяжкія выпадкі, што і трокар не паможа, тады карову трэба дарэзаць.

З лякарстваў найлепей даваць: а) ваду вапенную; б) разьведзены аманьяк (толькі 1—2 лыжкі на $^1/_2$ літра вады); в) сольны квас (1 лыжка на літр вады — праз гадзіну трэба даць некалькі літраў); г) рэзарцыну (15 грамаў на 1 літр вады); д) крэаліну, фармаліну і газу (нафту) даваць ня можна, бо ў выпадку зарэзу мяса не надаецца да спажываньня. Рэцэпт: Rp. Acid. Corbol. liquid. 15,0: Spirit vini 100,0 M.D.S. на бутэльку адвару рамона. На 1 раз карове.

**Малако з кроўю** — спатыкаецца пры няўмелым даеньню, і калі цяляты пры ссаньню моцна падбіваюць у вым'е, пры ранах і пры запаленьні вым'я. Кроў прымешваецца к малаку і ахварбоўвае палоскамі, або раўнамерна на чырвоны колер. Часта малако з кроўю здараецца ад прыліву крыві ў вым'я ў часе цяленьня і цягнецца 8—14 дзён. Смалісты корм і лясная паша таксама могуць быць прычынай крыві ў малацэ.

*Помач.* Трэба высьцерагацца ўсіх названых прычын. Асьцярожна і да суха выдойваць малако, пасьля чаго кроў зьнікае сама сабой. Карміць карову ў гэты час трэба вельмі мала. Калі толькі кроў з малака ўпарта ня зьнікае, то трэба халоднай вадой абмываць вым'я і даць парашок дубовай кары і лісьця мядзьведжага вінаграду (Fol. Uvae. Ursi) па 2—3 лыжкі з кормам 2—3 разы ўдзень.

**Запаленьне малочнай жалёзы** (запаленьне вым'я) *(Mastitis parancbymatosa).* Запаленьне вым'я здараецца вельмі часта. Тут стан запальны ахоплівае самую тканку жалёзы. Прычынай гэтай хваробы зьяўляюцца бактэрыі (коккі,



бакцылы) каторыя праз атвор соска (цыцка) ўціскаюцца ў малочную жалёзу. Найчасьцей гэтыя бактэрыі ўваходзяць у часе прастуды, застою малака ў вым'і і нячыстаце ў хлявох. Таксама могуць пранікнуць бактэрыі праз раны на вым'і. Захварэўшыя каровы адразу перастаюць даваць малако, каторае да таго становіцца падобным да гнойнай жыжкі, у каторай плаваюць малочныя зьбіткі. Пасьля вым'я апухае і становіцца балючым. Цяпліня ўзмагаецца. У кароў найчасьцей захворваюць адна, або абедзьве задні чверці вым'я. Карова адразу можа страціць апэтыт (ня прыймае корму) і няпэўную мае паходку. Час хваробы доўгі, але працэнт выздараўленьня даходзіць да 60-ці. Дрэнна ёсьць, калі ўжо вым'я сьцьвярдзее, або пачне гнаіць.

*Лячэньне:* Як бачым, хваробу гэтую выклікаюць бактэрыі. Дзеля гэтага перш-найперш трэба зрабіць дэзынфэкцыю хлявоў і глядзець за чыстатою. Мусіць быць вельмі добрая падсьцілка. Абмываць трэба цэлае вым'я карбалавым мылам. Як найлепш выдойваць хворыя чверці вым'я (4 разы ўдзень). Каб карове было лягчэй, трэба вым'я падвязаць дзяругай, падкладаючы на вым'я вату, або паклю змочаную ў карболавай вадзе. Даваць корму як найменш і лёгкастраўнага. Даць солі гляўбэрскай, каб ачысьціць трыбух і кішкі карове. Гліны не прыкладаць. Лепш расьціраць вым'я салам, парафінай, або гліцэрынай і абвязваць ватай і авечай аўчынай. З масьцяў трэба ўжываць камфаровую і іхтыёлавую. Найлепш гліцэрынавая масьць (100 частак гліцэрыны, 20 ч. крахмалу і 10 ч. вады), катораю трэба груба змазаць вым'я. Рэцэпт: Rp. Ol. Camphorat 20,0 Ammon. liquid. 10,0 Spir. saponot. 100,0 M.D.S. — націраць 2 разы ўдзень.

**Затрыманьне мачы** *(Retentio urinae).* Найчасьцей затрыманьне мачы выступае ў каня і быка. Пры гэтым бываюць балючыя натугі, пры якіх моч можа выходзіць толькі каплямі. Рэдка затрыманьне мачы выступае ў самак. У выпадку затрыманьня мачы мачавы пузыр становіцца чулым на ўціск і вельмі хутка напаўняецца мачой, так што ў працягу 24—26 гадзін можа разарвацца.

*Прычыны:* Параліж заду, сударгі мачавога пузыра і мэханічныя перашкоды, як запечаная кроў і каменьне ў мачаправодным канале. У каня, каб распазнаць гэтую хваробу, трэба руку моцна змазаную тлушчам увясьці праз простніцу і ўпэўніцца, ці ў мачаправодным канале ёсьць каменьне, ці хвароба самога мачавога пузыра (найлепш гэта зробіць толькі лекар вэтэр.). Трэба мець на ўвазе гэтую хваробу і не памяшаць яе з болямі жывата ў коняў, бо захоўваньне жывёліны аднолькавае.

*Лячэньне:* 1) Пры сударгах мачавога пузыра, паўсталага з прастуды, кажны селянін можа зрабіць масаж скуры,

у ваколіцы палавога органу, ськівідарам (тэрпэнтынай) — 1 частка ськіпідару на 10 частак вады.

2) Мэханічнае затрыманьне мачы (каменьні) і 3) параліж пузыра селянін лячыць не павінен, а найлепш як найхутчэй зьвярнуцца да доктара-вэтэрынара, бо гэтая хвароба вельмі часта кончыцца сьмерцяй хворага. Усякія хатнія способы лячэньня, як напр. пханьне ў мачаправодны канал саломіны, воласу з хваста, націраньне вачэй сінім каменем і г. д. нэ карысны, але нават шкодны, бо вядуць да горшых камплікацыяў хваробы, да калецтва мачаправоднага каналу і вочаў.

**Мазоль** (*Callositos*). Мазалі на скуры паўстаюць найчасьцей з уціску або церця, таму вельмі часта спатыкаюцца ад збруі (хамут, намэндрыкі). Мазалі могуць заняць вялікую паверхню скуры — а ў гэтым выпадку конь да працы не надаецца і ўлады адміністрацыйныя ўпаўнамочаны апячатаваць такую жывёлу.

*Лячэньне:* Адразу трэба пазбыцца прычыны, гэта значыць, каб ня было ўціску і церця. Дзеля гэтага трэба рабіць мяккія падушкі і падкладаць на балючае месца або побач яго, каб збруя не датыкалася да хворай паверхні скуры (падушкі найлепш рабіць з мяккога воласу або з авечай кажурыны. Калі ўжо сьцьвердзянее скура, то яе трэба расьціраць шэрай ртутнай масьцяй (Ungt. Hydr. cin.). Калі толькі пачне палепшвацца, то трэба мазаць гэткім лякарствам: Rp. Jod. angl. 1,0; Kalii jodct. 3,0—5,0 Adip. sill. 50,0 M. fiat Ungt. D.S. Націраць праз кажныя 2 дні.

**Вошы і валасаеды.** Найчасьцей спатыкаюцца ў кароў і то зімой, а галоўнае выступаюць у ўсіх гатункаў жывёлы. Ці ёсьць вошы, вельмі лёгка распазнаць па яечках (гніды), каторыя прыклейваюцца да валасоў. У коняў і сабак вошы і валасаеды найчасьцей выступаюць на шыі, уздоўж хрыбта і ў насадзе хваста; у кароў — у насадзе рогаў; у сьвіней — на ўнутранай паверхні сьцягна.

Вошы (Haematopinus) — маюць шэры колер і даўжэйшыя за валасаедаў (Trichodectes), каторыя маюць карычнявы колер. Вошы кормяцца кроўю, а валасаеды аджыўляюцца струпамі і валасамі — спатыкаюцца найчасьцей у худых і вынішчаных жывёлаў.

*Лячэньне:* Самае галоўнае гэта добры корм у часе лячэньня і дагляд скуры — насамперш жывёлу трэба астрыгчы і глядзець за чыстатой у хлявох. Жывёлу вельмі заражаную трэба аддзяліць ад здаровае. Можна мыць жывёлу (разумеецца, зімой рабіць гэтага ня можна) мыльнаю вадой, дадаючы крыху поташу. Пакуль яшчэ валасы мокрыя, трэба пасыпаць жывёліну попелам з дрэва і расьцерці шчоткамі. Праз 4—5 дні паўтарыць, каб зьнішчыць гніды, каторыя за гэты час зьявіліся. Для сабак, катоў і птушак можна купіць „Пэрсідзкі парашок“ (Flores Pyrethri pulv.) і пасыпаць ім мокры волас, паўтараючы праз 4—5 дні. Выварам тытунёвым 5 прац. можна мыць толькі сабак і сьвіней.

Карбаловы квас, крэалін і лізоль — вельмі добрыя сродкі, толькі трэба зрабіць 5—6 прац. раствор з гарэлкай. Мыць жывёліну (асабліва каня і карову) трэба 3 разы на працягу 5—6 дзён. Rp. Petrol. venol. 100,0 ol. Olivar. 50,0; Bols. perv. 10,0 M.D.S. Мазаць 1 раз удзень найбольш завашывелыя месцы. Гэта рэцэпт вельмі добры. Гніды нішчыць цёплы оцат. Добры прэпарат з поташу „Cuprex“ — нішчыць самыя вошы і гніды.

**Налівы суставаў.** Вельмі часта спатыкаюцца ў цяжка працуючых коняў, або ў коняў маладых зарана ўзятых да працы. Апрача гэтага, прычынай гэтае хваробы зьяўляюцца: вельмі добры корм і пры гэтым калі конь стаіць бяз руху (бяз працы). Налівы найчасьцей спатыкаюцца на суставах задніх ног. Гэтыя налівы пры дотыку элястычныя (пружныя), мяккія опухлі — гэта расшырэньне сустаўных торбачак, у каторых зьбіраецца цеча з суставаў (synovia). Гэтыя налівы паўстаюць паволі і дзеля гэтага болі няма і коні ня кульгаюць.

Лячэньня на гэтую хваробу няма. Можна толькі моцна ўціскаць перавязкаю і то праз доўгі час, але і гэта пэўнага вылячэньня не дае — могуць толькі паменшыцца. Каню, каторы цяжка працуе, трэба даць супакой, а маладых застаяных коняў трэба праводзіць. Калі-ж толькі гэтага рабіць ня будзем, то налівы могуць пабольшыцца, сьцьвердзянець і конь пачне кульгаць.

Гэтая хвароба нястрашная, толькі брыдзіць каня і пры прадажы абніжае ягоную вартасьць.

*М. О.*

---

## Способы на паніжэньне мясцовай тэмпэратуры ў жывёлы

Удары й запаленьні сухажыльляў у жывёлы, прынамсі спачатку, лечаць паніжэньнем мясцовай тэмпэратуры.

Дзеля гэтага карыстаюцца сьнегам, лёдам, халоднаю вадою, цыновою вадою і глінаю, зьмешанаю з воцтам. Сьнегам і лёдам набіваюць адумысловыя пузыры, або й звычайныя торбы, і прыкладаюць да хворага месца. Пры запаленьні капытоў і ніжняй часьці ног найляпей сшыць такі мяшэчак, у каторы свабодна станавілася-б нага. Халоднаю вадою часта паліваюць анучы, каторымі забінтоўваюць

хворае месца. Глінаю, зьмешанаю з воцтам, абмазываюць хворае месца. Як толькі гліна высахне, зараз-жа яе змываюць і абмазываюць паражанае месца нановапрыгатаванаю глінаю. Гліну з воцтам, аднак, ня можна ўжываць тады, калі на скуры хворага месца ёсьць раны ці дзёркі, каб усьцерагчыся заражэньня слупняком.

Ахаладжываньне пабольшываецца, калі да сьнегу або лёду дабавіць солі (1 частка сьнегу і 1 ч. солі, 3 ч. лёду й 1 ч. солі).

Але калі няма пералічаных вышэй сродкаў, то можна карыстацца г. зв. „халадзільнымі мяшанкамі" гэткага складу:

1) 5 ч. сальміяку (нашатыру — не нашатырнага сьпірытусу!), 5 ч. салетры, 8 ч. гляўбэрскай солі й 16 ч. вады— тэмпэратура паніжаецца да 15°Ц.; або:

2) 5 ч. сальміяку, 5 ч. салетры й 16 ч. вады — тэмпэратура паніжаецца да 12°Ц.; або:

3) 1 ч. сальміяку, 1 ч. салетры і 1 ч. вады; або:

4) 1 ч. хлёрыстага калію і 4 ч. вады.

---

# Аб вэтэрынарнай дэзынфэкцыі (абеззаражваньні)

(Паводле вэт. лек. Кастржэўскага і праф. Фогэля)

На дэзынфэкцыю складаюцца дзьве галоўныя чыннасьці:

1. *Ачышчэньне* заражаных будынкаў і прадметаў і

2. *Дэзынфэкцыя* — зьністажэньне ці пазбаўленьне мікробаў, шкодных для здароўя скаціны.

Ці то пры ачышчэньні ці пры ўласьцівай дэзынфэкцыі адначасна праводзіцца й *дэзодарацыя* — зьністажэньне няпрыемнага паху або заглушэньне яго другім.

## Ачышчэньне

З памешканьня, каторае маем дэзынфэкаваць, трэба выкінуць астачы корму, падсьцёл, гной, верхні пласт зямлі.

Ачышчэньне пачынаецца ад паліваньня гарачаю вадою з дамешкаю дэзынфэкцыйных сродкаў. Змочаныя прадметы, жалабы, драбіны, сьцены аскрабці з балота, нячыстасьцяў і заразьлівага адходу (гною) скаціны. Робіцца гэта пры помачы скрабачкі, шчотак, мятлы (дзяркача), мокрага пяску, пілавіньня й г. д., а потым прыступіць да канчальнага мыцьця мокрымі венікамі, анучамі. Мыць трэба гарачым лугам, або вадою з содаю ці з мылам. Падлогу зьліваць дэзынфэкцыйным сродкам на гэтулькі, каб ім глыбака прасякала зямля. Ачысьціўшы, яшчэ раз абмыць гарачым лугам ці вадою з хлёркам (хлёрыстай вапнай). Замест мыцьця можна ўсё зьліць вапенным малаком, а праз 12—24 гадзіны зьліцьцё гэта паўтарыць. Пасьля дэзынфэкцыі памешканьне праветрыць і высушыць.

Панадворак і пляцы блізка заражаных будынкаў старанна ачысьціць ад сьмяцьця й нячыстотаў, каторыя трэба спаліць або глыбака закапаць. Верхні пласт зямлі зьліць дэзынфэкцыйнымі сродкамі.

## Сродкі дэзынфэкцыйныя

*1. Агонь — апальваньне.*

2. *Суліма — у растворы 1 ч. на 1000 ч. вады,* або 2 ч. на 1000. Пры працы з ёю аддаліць усё мэталёвае. Водныя растворы яе хутка псуюцца; каб гэтага ня было, да роспуску дабаўляюць кухоннай солі ў 10 разоў болей, чым узята сулімы. На вядро вады бярэцца 12 грамаў сулімы й 120 гр. солі.

Цераз некалькі гадзінаў пасьля дэзынфэкцыі сулімаю усе месцы й рэчы, апырсканыя ёю, абліць 1 прац. растворам солі (100 грамаў на вядро вады), а гэта, каб абязшкодзіць выкрышталізаваныя часткі сулімы.

3. *Чыстая карболавая кіслата* — 4 ч. на 100 ч. вады (4 прац.). Судзінку з чыстаю карболаваю кіслатою ставяць у кацялок з халоднаю (але не гарачаю) вадою й памалу падаграваюць. Раствор доўга ўзбоўтваюць і мяшаюць. На вядро вады бяруць 500 гр. кіслаты. Раствор надаецца для ўсякай дэзынфэкцыі.

4. *Хлёрыстая вапна.* Для моцнага раствору (4 прац.) бяруць на вядро вады 600 грамаў, а для слабага (1 прац)— 100 грамаў хлёрыстай вапны. Вапну й раствор з яе не перахоўваць у жылых памяшчэньнях, бо з яе выдзяляецца хлёрны газ.

5. *Дымленьне серкаю.* На 10 куб. мэтраў памяшчэньня трэба 700 гр. серкі. Перад дэзынфэкцыяй расстаўляюць у памяшчэньні жарніцы з вугальлем і, калі вуглі добра разгарацца, у жарніцы сыплюць серку. Цераз пару (суткі) памяшчэньне праветрываюць. Дэзынфэкцыя магчыма толькі ў закрытых памяшчэньнях, ня маючых шчылінаў.

6. *Мыльна-карболавая мяшанка.* Асьцярожна распускаюць у 100 ч. (1 вядро) гарачай вады 5 ч. (600 грамаў) зялёнага мыла, не дапускаючы вытварэньня шмат пены, а потым памалу падліваюць 3 ч. (400 гр.) неачышчанай карболкі. Ужываць толькі гарачай. Калі астыне, падагрэць і добра разьмяшаць.

7. *Вапеннае малако.* Для моцнага (20 прац.) вапеннага малака бяруць 1 ч. ($2^1/_2$ кілё) сьвежапагашанай вапны і разь-

мешываюць яе ў 22 ч. (1 вядро) вады; для **слабага — 1 ч.** ($1^1/_4$ кілё) вапны на вядро вады.

### Сродкі дызынфэкцыйныя й дэзадорацыйныя

1. *Крэаліна* — **5 ч.** на 100 ч. вады (600 гр. на вядро). Браць ваду цёплую.

2. *Лізоль* — **3 ч.** на 100 ч. вады (400 гр. на вядро). Браць ваду цёплую.

3. *Фармаліна* — 2—4 ч. на 100 ч. вады.

### Сродкі, памагаючыя ў ачышчаньні

1. *Гарачая вада,* або кіпяток чысты, ці з дамешкаю звычайнага або зялёнага мыла.

2. *Гарачая вада з содаю* — 2 на 100.

3. *Звычайны луг з попелу.*

### Дэзынфэкцыя асобных прадметаў

1. *Стайні, аўчарні, куратнікі* і інш. памяшчэньні, калі можна пазатыкаць усе шпары й шчыліны і прарваць на час дэзынфэкцыі злучэньне з вонкавым паветрам, — добра дэзынфэкуюцца парамі серкі й фармаліны.

2. *Падлогі* дзеравяныя, земляныя, глінабітныя і інш. дэзынфэкуюць растворамі: сулімы, крэоліны, лізолю й мыльнакарболавым. Перад дэзынфэкцыяй ачысьціць ад гною.

3. *Сьцены:* дзеравяныя — тым-жа, чым і падлогі; глінабітныя або тынкаваныя — беляцца 20 прац. вапенным малакэм.

4. *Дзьверы, вокны й інш. дзеравяныя прадметы* — выціраюцца губкамі або анучамі, намочанымі растворам сулімы.

5. *Мэталёвыя й скураныя рэчы* абмываюцца мыльнакарболавым растворам.

6. *Скураная збруя,* калі яна мажацца дзёгцем, дэзынфэкуецца гэтым-жа самым.

7. *Вёдры й інш. судзьдзё* гатуецца ў вадзе.

8. *Адходы* (гной) мяшаюць з 20 прац. вапенным малаком (3—4 працэнты па абыйму), або з роўнай колькасьцяй 2 прац. хлёрыстай вапны.

9. *Гнойныя выдаленьні* з ранаў, з носу і з інш. месцаў абеззаражываюцца 5 проц. роспускам карболавай кіслаты.

10. Седалы й гнёзды для птушак беляцца вапнаю (глядзі 2).

11. Кажушыны й скураныя рэчы (кажухі, аўчыны і інш.) — дэзынфэкуюцца мыльна-карболавым роспускам або параю фармаліны.

---



*Гароднiцтва*

# Календар барацьбы са шкоднікамі і хваробамі ягаднікаў

(*паводле Л. Масквіцінава*).

## В я с н а

| Расьціна і ступень разьвіцьця яе. — Які сродак тасаваць. | Дзеля чаго тасуецца сродак.—Якая шкода прычыняецца шкоднікам ці хваробаю. |
|---|---|
| **Агрэст** | |
| 1. Пара да набрузаньня пучкоў (да другой палавіны красавіка). Выразаць канцавыя парасьці, пакрыўленыя ад паражэньня мучністаю расою, а так-жа выразаць парасьці старыя, каторыя ўжо адміраюць. | Зьністожыць гнёзды мучністай расы і каўшакі мошкі-шкляніцы. |
| 2. Тое-ж самае. Абпырскаць кусты вапенным малаком або жалезным купарасам (3 ч. купарасу на 100 ч. вады — купарас распусьціць у гарачай вадзе). | Зьністожыць перазімаваўшыя зародкі грыбка мучністай расы і другіх хваробаў. |
| 3. Пара ад набрузаньня пучкоў да цьвету (канец красавіка — пачатак мая). Абпырскаць кусты вапенным малаком або поўпрацантоваю кальцыніраванаю содаю з зялёным мылам (на 100 ч. вады — поўчасткі соды і трэцяя ч. мыла) або бардоскаю цечаю. | Забясьпечыць ад заражэньня мучністаю расою і адначасна зьністожыць гусьвіцы агрэставай мухі. Гусьвіцы агрэставай мухі аб'ядаюць лісьцё: першае пакаленьне—вясною, а другое—летам. Вельмі прыкры шкоднік. |

| | |
|---|---|
| 4. Пасьля цьвету (канец мая — чэрвень). Зараз-жа, як агрэст адцьвіце, апырскаць другі раз адным з пададзеных пад № 2 сродкаў. | Проціў мучністай расы і гусьвіцаў агрэставай мухі. |
| 5. Тое-ж самае. Цераз 10—12 дзён пасьля другога апырсканьня — апырскаць трэці раз адным з пададзеных вышэй сродкаў. | Проціў тым-жа—хваробе і шкодніку. |

| **Парэчка** | |
|---|---|
| 6. Пара да набрузаньня пучкоў (да другой палавіны красавіка). Выразаць старыя і пакрыўленыя мшыцаю порасьці і зьністожыць іх. | Зьністожыць яечкі мшыцы і гусьвіцаў парэчкавай молі. Мшыца вясною і летам сьсе сокі лісьця і маладых порасьцяў. Гусьвіцы парэчкавай молі вельмі рана вясною ўядаюцца ў пучкі і зьністажаюць іх, перапаўзаючы з аднаго пучка на другі. Сама моль (матылькі) кладзе яечкі ў ягады, каторыя не ў пару чырванеюць. |

| **Маліна** | |
|---|---|
| 7. Пара да набрузаньня пучкоў (да палавіны красавіка). Выразаць і спаліць старыя адрадзіўшыя дубцы. | Зьністожыць гусьвіцаў маліннай молі, што зімавалі пад карою. Рана вясною гусьвіцы выядаюць сярэдзіну яшчэ нераспушчаных пучкоў, каторыя потым засыхаюць або слаба разьвіваюцца. |
| 8. Тое-ж самае. Апырскаць дубцы і пучкі 5—8 працантовым вапенным малаком. | Проціў пашкоджаньня пучкоў гусьвіцамі маліннай молі. |
| 9. Пара паяўленьня маладых дубцоў (май). Выразаць маладыя дубцы, паражаныя гусьвіцамі маліннай мухі, і спаліць іх. | Зьніштожыць гусьвіцы маліннай мухі, каторая кладзе яечкі на маладзенькіх порасьцях маліны. Вышаўшыя з яечак гусьвіцы ўядаюцца ў сьцібло і кормяцца ягоным асяродкам. Сьцібло зьгібаецца і засыхае. |



| **Трускаўкі** | |
|---|---|
| 10. Пара ад выхаду расьціны з-пад сьнегу да паяўленьня кветкавай ножкі (стрэлкі)—красавік. Абрэзаць, сабраць і спаліць сухое лісьцё. | Зьністожыць гнёзды заражэньня лісьця белаю і бураю плямістасьцю. |
| 11. Пара да пачатку цьвіценьня (май). Апырскаць 1 прац. бардоскаю цечаю ў мешаніне з парыскаю зеленьню (дзесятая частка 1-й часьці бардоскай). Цераз 10 дзён — апырскаць 2-гі раз тым-жа сродкам. | Бардоская цеча бароніць лісьцё трускавак ад заражэньня белаю і бураю плямістасьцю. Парыская зелень забівае блышакоў, лістагрызаў і даўганосікаў, каторыя кормяцца лісьцём. |
| 12. Тое-ж самае. Апыліць сьвежапагашанай вапнаю або супэрфасфатам. Па меры патрэбы (пры паяўленьні сьлімакоў) — апыленьне паўтараецца. | Зьністожыць сьлімакоў, каторыя паядаюць ягады і жывуць у сырых мясцох. У вогкія гады вельмі размнажаюцца. |

## Лета

| **Агрэст** | |
|---|---|
| 1. Пара збору ўраджаю ліпень. Сабраць і зьністожыць ягады, паражаныя мучністаю расою. | Зьністожыць заразу мучністай расы. На порасьцях, лісьцёх і і ягадах паяўляецца белы мучністы налёт, каторы потым прыймае цёмна-бурнаты адценак і становіцца войлачным. |

| **Парэчка** | |
|---|---|
| 2. Пара па цьвіценьні (канец мая — чэрвень). Апырскаць парыскай зеленьню ў мяшанцы з нягашанаю вапнаю (2 ч. зелені на 1000 ч. вады, вапны ўдвая болей). | Зьністожыць гусьвіцы ліставых пільшчыкаў і гусьвіцы агнёўкі. Гусьвіцы пільшчыкаў абядаюць лісьцё вясною і летам. Гусьвіца агнёўкі ўядаецца ў маладыя ягады, апутывае іх павучыньнем і выядае. Ягады прадчасна чырванеюць. |

| | |
|---|---|
| 3. Парою фармаваньня ягадаў (канец чэрвеня). Апырскаць 1 прац. бардоскаю цечаю — цераз тыдні два па цьвіценьні. | Зьністожыць хваробы: іржу і антракноз. Пры іржы лісьцё пакрываецца жаўтава-чырвонымі плямамі. Пры антракнозе лісьцё жаўцее і ападае. |
| 4. Тое-ж самае. Сабраць і зьністожыць ягады паражаныя гусьвіцай агнёўкі. | Зьністожыць гусьвіцы агнёўкі. |
| 5. Пара пасьля збору ўраджаю (канец ліпня—жнівень). Апырскаць парыскаю зеленьню ў мяшанцы з нягашанаю вапнаю ў складзе, як пад № 2. | Зьністожыць новае пакаленьне гусьвіцаў пільшчыка і бараніць расьціну ад іржы і антракнозу. |
| **Трускаўкі** | |
| 6. Пара збору ўраджаю (канец чэрвеня — ліпень). Зьбіраць і зьністажаць ягады, паражаныя шэраю гнільлю. | Зьністожыць шэрую гніль, ад каторай гніюць ягады. |

## В о с е н ь

| | |
|---|---|
| **Агрэст** | |
| 1. Пара па ападзеньні лісьця (кастрычнік). Выразаць старыя галінкі і галінкі, паражаныя мучністаю расою. Сабраць і зьністожыць апаўшае лісьцё. Перакапаць зямлю кругом кустоў. | Зьністожыць зародкі грыбкоў мучністай расы і шкодных мошак, каторыя сабраліся зімаваць на кустох, у зямлі і на паверхні яе. |
| **Парэчка** | |
| 2. Пара па ападзеньні лісьця (верасень-кастрычнік). Выразаць старыя порасьці, зграбаць і зьністажаць лісьцё, перакапаць зямлю. | Зьністожыць хваробы і шкоднікаў парэчак. |
| **Маліна** | |
| 3. Пара па пладанашэньні (верасень-кастрычнік). Выразаць адрадзіўшыя дубцы, не пакідаючы пянькоў. Зграбаць і зьністажаць лісьцё. Перакапаць зямлю пад кустамі і паміж кустоў. | Зьністожыць розных шкоднікаў і зародкі грыбных хваробаў, што зімуюць на старых дубцох і лісьці маліны. |
| **Трускаўкі** | |
| 4. Пара познай восені (верасень-кастрычнік). Сабраць і зьністожыць сухое і адмерзсшае лісьцё. Ачысьціць грады ад ліхазельля. | Зьністожыць месцы зімаваньня шкоднікаў і грыбкі розных хваробаў (белая і бурая плямістасьць). |

# Гадаваньне раньняй гародніны (у парнікох)

Гародніна — гэта галоўная аснова здаровага аджыўляньня чалавека, бо вельмі цэннаю складоваю сучасткаю гародніны ёсьць вітаміны, без якіх цела чалавека, ані нават жывёлы, ня можа абыйсьціся (гл. наш календар на 1937 г., бач. 68—69). У натуральных варунках сялянскіх гаспадарак нашага краю гародніна, годная да ўжытку, атрымліваецца даволі позна (м-ц жнівень). Але прылажыўшы крыху працы, можна мець і раньнюю гародніну. Робіцца гэта пры помачы парнікоў.

З гародніх расьцін шмат ёсьць такіх, што ня зусім прывыклі да нашага клімату і дзеля гэтага раней высейваем іхняе насеньне ў парнікі, а потым ужо вырашчаную расаду перасаджваем на грунт у гародзе. Вось-жа, каб мець раньнюю гародніну, трэба ўжо ў лютым высяваць насеньне ў цёплыя парнікі.

Што-ж такое парнік? Парнік — гэта скрыня бяз дна, зьбітая з чатырох дошчак таўшчыні $1^1/_2$—3 см. даўжыні 150 см. і 100—110 см. шырыні, закрытая зьверху вокнамі. (Пададзены разьмер парніковае скрыні ёсьць агульна прыняты гароднікамі). Скрыню й вокны найлепш рабіць з дзерава сасновага або яловага. Каб забясьпечыць дзерава ад гніцьця, трэба пакрыць яго звычайнаю смалою; добра, калі смала гарачая, тады яна лепш усмоктываецца дзеравам, асабліва ўважна трэба насыціць смалою рагі скрыні й вокнаў. Калі мы ўжо зрабілі сабе скрыню й вокны, тады выбіраем роўнае, сухое, зацішнае месца, з невялікім нахілам на паўдня й заслоненае ад поўначы і ўсходу. На выбраным мес-

цы капаем яму на 50 см. углыбкі, а шырокую й доўгую адпаведна да шырыні й даўжыні скрыні. Бакавыя сьценкі гэткай ямы карысна замацаваць дошкамі, каторыя аслоняць парнік ад кратоў. Ямы пад парнікі найлепш прыгатаўляць з восені, а на зіму накрываць іх гноем ці саломаю, каб не замерзла зямля.

Парнік награваецца сьвежым конскім гноем; найлепшы гэткі гной ад коняў, кормленых зярнятамі (аўсом) й сухім сенам. Для набіваньня парніка выкідаюць гной у кучу, каб сагрэўся. Ён тлее й разаграваецца да 60°Ц і болей, так што куча пачынае дыміцца. Цяпер і закладаем парнік. Гной з кучы ськідаем у прыгатаваную яму й раскладаем яго роўным пластом, растрасаючы сахаром, утоптываючы нагамі й выраўноўваючы па цэлай яме. Вельмі добра пад гной на спод даць пласт лісьця, найлепш дубовага. Набіваньне ўсякага асобнага парніка мусіць быць закончана ў працягу аднаго дня. На разраўнаваны ў яме гной кладзём парніковую скрыню й накрываем яе вокнамі і саламянымі матамі, каб гной зноў сагрэўся й нагрэў парніковую скрыню. Скрыня кладзецца гэтак, каб паўночны бок яе быў вышэйшы ад паўдзённага на 6—10 см., а таўшчыня ўсяго гною павінна дасягаць да 70 см., знача на 20 см. болей ад глыбіні ямы. Цераз 3—4 дні аглядаем парнік — калі гной сагрэўся так, што з яго выходзіць аманьякавая пара, то ў скрыні ўжо ёсьць даволі цяпліні. Тады зноў утоптываем гной і даём тонкі пласт лісьця ды зараз-жа насыпаем у скрыню зямлю. Зямля для парніка мусіць быць гародняя, пухкая.

Найлепшая зямля будзе кампастовая: — 2 часткі с тарога перагніўшага гною, 2 часткі дзернавой зямлі і 1 ч. рачнога пяску. Зямля пасыпаецца ў скрыні на таўшчыню 20 см. Пасьля таго, як насыпана зямля, парнік зноў накрываем вокнамі й матамі, каб добра сагрэлася зямля, а бакі скрыні абкладаем гноем, шырока на 40 см. Цераз 4 дні зямлю ў скрынях разгортываем граблямі і раўнуем. Зьверху зямлю прыбіваем дошчачкаю й робім радкі лінейкаю. Потым сеем насеньне гародніны і кажны сорт паасобку аддзяляем, значым, каб пасьля, як вырасьце расада, знаць, што дзе пасеена. Насеньне сеяць так, каб вырасшай расадзе было даволі сьвятла і паветра, найлепш радкамі, па 5 см. радок ад радка.

Пасеяўшы ў парніку расаду, уважаць, каб зямля ня высыхала, паліваць толькі цёплаю, нагрэтаю на сонцы вадою, а як грэе сонца — падыймаць на скрынях вокны. Калі на дварэ цяплей, то падыймаць іх трэба вышэй, падыймаючы крыху ўгару рамы, падкладаючы пад кажную з іх пасярэдзіне дзеравяныя падстаўкі. Найлепш падыймаць вокны з паўдзённага боку, а калі стуль вее вецер, дык з працілеглага боку, а не да ветру.



Калі стане так цёпла, што міне небясьпека ад замярзаньня, можна на дзень зусім здыймаць вокны, аднак тады, калі расьціны ўзмацаваліся й прывыклі да летняга паветра,— у праціўным выпадку лісточкі пачнуць вянуць і нават засыхаць. Калі гэта заўважыцца — дык парнік трэба ацяняць дошчачкамі ці якімі галінкамі ці хоць-бы й тымі самымі матамі, каторымі накрываецца парнік ад холаду. Ацяняць трэба толькі ў тыя дні, калі сьвеціць і грэе сонца, — у сакавіку ад 11 да 13 гадзіны, у красавіку — ад 10 да 15 гадзіны, а ў маі — ад 10 да 16-й. Перад самым высаджываньнем расады ў адкрыты грунт, на грады, калі ўжо міне небясьпека прымаразкаў, можна пакідаць парнік адкрытым і на ноч. За некалькі дзён гэткага гартаваньня расьціны набіраюць сілы.

Добрае паліваньне расады ў парніку — вельмі важная рэч. Паліваць трэба толькі да паўдня, а ня вечарам. Да паліваньня трэба мець адпаведнюю конаўку з сіткам і паліваць так, каб вада падала дробнымі капелькамі. Паліваючы ўважаць, каб зямлю ў парніку вада мачыла аднолькава, каб ня было макрэйшых і сушэйшых мясцоў. Аднак верхнюю часьць каля паўночнай сьцяны парніковае скрыні, дзе заўсёды сушэйшая зямля (бо яе сонца болей награвае), — паліваць трэба болей, а ніжнюю, што пад паўдзённаю сьценкаю ў цяньку і заўсёды вогкая — паліваць меней. Па паліваньні расады парнік зараз-жа не накрываць шчыльна, а пакінуць яго на некаторы час з паднятымі рамамі, каб і парнік і зямля праветрыліся ды каб сонца добра прыгрэла змочаную зямлю.

Расада ў парніку вельмі чуткая да ўсякага зацяненьня, асабліва-ж калі яе глушыць пустазельле. Дык як толькі можна будзе адрозьніць пустазельле ад пасеенай расады — трэба пачаць палоць. Палоць трэба ўвесь час, пакуль расьце расада ў парніку. Вельмі добра, калі насыпаўшы зямлю на набіты гноем парнік яшчэ перадсяўбою расады, пакінуць яе на некаторы час у супакоі — цераз дватры дні на ёй паявіцца шмат пустазельля, каторае лёгка зьнішчыць граблямі, прайшоўшы імі некалькі разоў па паверхні зямлі.

Прарываць расаду ў парніку так-жа трэба часта, бо йначай расьціны, што густа паўсходзілі, ня змогуць добра разьвівацца, а будуць глушыць адна адну — расада ад гэтага будзе высокая, тонкая і для адкрытага грунту ў гародзе заслабенькая.

А цяперака крыху аб найлепшых сартох раньняй гародніны:

### Раньняя капуста — звычайная:

1. Эрфурцкая раньняя, 2. Варшаўская раньняя, 3. Гаасская і 4. Бруншвіцкая.

### Капуста чырвоная:

1. Эрфурцкая, вельмі раньняя, 2. Бэрлінская, 3. „Насо" (Вікторыя).

### Салата:

1. Бэтнэр, інспэктавая, 2. Цэсарская, 3. Каменная галава, жоўтая, раньняя.

### Цыбуля:

1. Цыбуля найранейшая, 2. Каралева

### Морква:

1. Парыская, інспэктавая, найранейшая, 2. Нантэйская, палепшаная.

### Шпінак:

Годры — эксцэльсіор.

### Каляфіоры:

1. Эрфурцкія Гаагего I, 2. Эрфурцкія Гаагего II.

### Калярэпа раньняя:

1. Венская белая.

### Памідоры:

1. Люкульльюс, 2. Кондінрід прыма, 3. Дацкія экспартныя.

### Агуркі:

1. Галяндэрскія паўдоўгія, 2. Варшаўскія інспэктавыя.

### Радыска:

1. Нон плюс ультра, вельмі раньняя, 2. Экспрэс, чырвоная, круглая.

### Капуста-Брусэлька:

Гэркулес, вялікая, раньняя.

---

## Гадаваньне насеньня гародніны

Пры гадаваньні гародніны на насеньне трэба захоўваць наступныя перасьцярогі і правілы:

1. Гадаваць толькі адзін сорт якой-небудзь гародніны, г. зн. толькі адзін сорт агуркоў, буракоў і г. д., а гэта дзеля таго, каб усьцерагчыся крыжаваньня расьцінаў таго самага роду. Асабліва-ж трэба быць асьцярожным пры гадаваньні капусты і калі, напр., на насеньне гадуецца звычайная капуста, то ўжо побач з ёю ня можна гадаваць якой-небудзь іншай (савойскай, брусэльскай), бо ў праціўным разе абавязкава пакрыжуецца пылок цьвету і атрымаецца дрэннае насеньне.

2. На насеньнікі выбіраць калівы з найпаўнейшымі і рэзкімі азнакамі, якімі характарызуецца дадзены сорт гародніны.

3. Старацца, каб насеньне вытваралася на галоўных сьцёблах. У гэтым часта робяцца памылкі, бо людзі думаюць, што ўсякае сьпелае насеньне дае расьціну аднолькавай вартасьці. Каб атрымаць добрае насеньне, трэба зразаць усе бакавыя галінкі, як толькі вытварылася галоўнае сьцібло. Так-жа трэба пазбывацца ўсякіх адросткаў, якія паяўляюцца на галоўным сьцібле ў часе цьвету насеннай расьціны.

4. Насеньне мусіць дасягнуць поўнай сьпеласьці яшчэ на карэньні, на грунце. Аднак гэтага правіла цяжка прытрымацца, бо насеньне большасьці расьцінаў дасьпявае не ў адну пару: адна частка насеньня ўжо дасьпее і ападзе тады, калі другая частка толькі што завязалася або нават цьвіце. У гэткіх выпадках насеньне трэба зьбіраць часткамі: калі большасьць насеньня дасьпела, то іншы раз вырываюць расьціну з каранём і ставяць яе ў сухім, але зацененым месцы, дзе аканчальна дасьпявае тое насеньне, што не дасьпела на карані. З расьцінамі з роду капусты (крыжацьветых) пастулаюць гэтак: як толькі вытварыцца значная колькасьць стручкоў, зараз-жа зразаюць тыя часьці, што цьвітуць — тады пакінутыя завязі дасьпяваюць больш роўнамерна.

Што датычыць самага гадаваньня насеньня, то трэба браць пад увагу аднагалетнія і двулетнія расьціны.

А) Аднагалетнія расьціны даюць насеньне ў тым годзе, у каторым яны пасеены. На насеньне можна сеяць гэтыя расьціны асобна, ці празначаць на насеньнікі тыя расьціны, што растуць на градах. Усе аднагалетнія расьціны трэба сеяць як найраней дзеля таго, каб яны маглі вытварыць зусім сьпелае насеньне.

Б) Двулетнія расьціны ў першым годзе растуць і награмаджаюць запас сокаў, у другім годзе вытвараюць кветкі і насеньне. Насенныя расьціны выймаюцца з зямлі ўвосень, калі яны дасягнулі поўнага разьвіцьця, і калі ўсё зьбіраецца з гароду. Гэтай парою лепшыя адзінкі вырываюцца з каранём: іх аглядаюць, ці яны здаровыя; калі дадзеная гародніна — корань-плод (бурак, морква, бручка і інш.), то зьвяртаецца асаблівая ўвага на тое, ці добры яе карэнь, ці ня вельмі ён даўгі або кароткі, ці не раздвоены і г. д. Гэтак агледжаныя насеньнікі трэба захаваць на зіму ў прахалодным і забясьпечаным ад маразоў месцы. Ведама, што

пры гэтым трэба зрабіць большы запас насеньнікаў, чым колькі іх абмяркавана для атрыманьня насеньня, бо частка насеньнікаў можа ўзімку папсавацца.

Месца, у каторым перахоўвуюцца ўзімку насеньнікі (і наагул гароднiна), трэба бараніць ад марозу, але ў ім мусіць быць такая прахалода, каб насеньнікі не маглі пусьціць расткоў. Самае адпаведнае для насеньнікаў месца — пограб, а самая адпаведная для іх у пограбе тэмпэратура — 1 да 4° Ц. Калі ў пограбе ёсьць невялікія вокны, то тэмпэратуру ў ім можна рэгуляваць, адчыняючы гэтыя вокны і праветрываючы пограб у часе адлігі ці тады, калі стане ў ім вельмі цёпла.

Вясною, калі пацяплее так, што ня трэба будзе баяцца прымаразкаў, прыгатаўляюць градкі для высаджваньня насеньнікаў, найлепш у III яй дзелі гароду, прычым стараюцца выбраць месца, выстаўленае на сонца. Выняўшы з пограбу насеньнікі, пільна іх аглядаюць: папсутыя выкідаюць вон, а годныя садзяць гэтак, каб для вытвараных у будучыні сьцёблаў хапала месца. Дзеля таго, што сьцёблы з кветкамі разьвіваюцца даволі хутка і часта бываюць вельмі ломкімі, асабліва ў першую пару, то аднача́сна з саджаньнем насеньнікаў—трэба ўтыркнуць у зямлю побач зь імі калочкі, да каторых потым можна прывязаць сьцёблы.

Далейшы дагляд высаджаных насеньнікаў—гэта паліваньне і абрываньне як бакавых пасынкаў, так і бакавых кветак, каторыя вельмі доўга цьвітуць у адналетніх расьцінаў. Не забывацца паліваць насеньнікі ў часе пасухі, каторая шкодна дзее на завязь кветкі.

Як толькі скончыцца цьвіценьне і насеньне пачне дасьпяваць, то можна паступова пачаць зьбіраць яго. Лушчыць насеньне, асабліва дробнае, найлепш у сухую пагоду; потым трэба яго прасеяць ці правеяць, каб ачысьціць ад мякіны, лушпы і іншага сьмяцьця. Чым драбнейшае насеньне, тым цяжэй ачысьціць яго, дык трэба адразу старацца, каб у насеньне папала як найменей сьмяцьця.

Некаторае насеньне знаходзіцца ў мясістай павалочцы плоду (гарбуз, агурок); такое насеньне размочываецца ў вадзе, потым выціраецца з мякішу, вымываецца начыста і сушыцца ў цяністым, сухім, ня вельмі цёплым месцы.

Большыя колькасьці насеньня найлепш перахоўваць у вузкіх торбачках з моцнага, ня вельмі густога палатна. Меншыя колькасьці насеньня можна трымаць у папяровых картузіках. Тое насеньне, каторае пры дасьпяваньні ня вылушчываецца само сабою, можна перахоўваць у пладох, як мак у макаўках. Гэткае насеньне даўжэй захоўвае ў сабе сілу ўсходлівасьці.

---



# Культура ягадавых кустоў

## (Агрэст, парэчкі, маліны)

*Паводле праф. Я. Бжэзінскага і інш.*

### Агрэст

Агрэст удаецца ў кажным грунце, умеру вогкім, але не падмоклым. У сухой зямлі ягады бываюць дробныя, а кусты прадчасна ськідаюць лісьцё і слаба растуць. Найлепшыя ягады агрэст родзіць у мясцох лёгка ценяватых, у заходнім або паўночным палажэньні. Гадаваны ў адкрытым месцы, на поўным сонцы, слабей расьце. Любіць вогкасьць у паветры. Вогкае й халоднае лета спрыяе ягонаму росту й пладанашэньню.

Найлепшы спосаб размнажэньня агрэсту — гэта адкладаньне. Дзеля гэтага наўкол куста ўзрушваецца зямля, каб была пухкая, усе маладыя галінкі нагінаюцца ў выкапаныя мелкія канаўкі, прытыкаюцца скрыжаванымі калочкамі або адумысловымі кручкамі і прысыпаюцца зямлёю. На кажнай галінцы, у тым месцы, дзе яна мае быць прысыпана зямлёю, добра зрабіць нажом парэзку, або зьняць вузенькі паясочак кары, — гэта памагае выхаду карэньчыкаў. Канцы адложаных галінак выпрастаць і прывязаць да калочкаў, што спрыяе росту і ўкараненьню адкладак. Старыя галінкі з цёмнаю карою, або такія, каторыя не дадуцца нагнуць, выразаць зусім — калі іх пакінуць на пладанашэньне, то яны аслабяць укараненьне адкладак. Найляпей укараняюцца адкладкі, робленыя раньняю восеньню, зараз, як ападзе лісьцё, аднак можна рабіць і вясною. У працягу ўсяго лета кругом кустоў трэба ўзрушваць зямлю і ачышчаць ад пустазельля. Увосень, у кастрычніку, адразаюцца укаранелыя ўжо адкладкі й адразу садзяцца на сталае месца.

Часта размнажаецца агрэст і з падзелу старых кустоў. Спосаб гэты добры тады, калі будуць выбірацца толькі маладыя галінкі, з яснаю карою й каранiстыя. Галінкі старыя, з цёмнаю карою, даюць слабыя кусты, каторыя хутка старэюць.

Садзіць агрэст у ямкі 60—80 см. шырыні й 35 см. глыбіні, угнойваючы іх кампостам ці хлеўным гноем, каторы глыбака не закопываць. Пад кажны куст падсыпаць 400 гр. молатае вапны й 400 гр. попелу. Калі кусты пачнуць даваць ягады, вельмі раньняю вясною ўгнойваць кампостам, перапрэлым гноем, або ў працягу зімы разьліваць гнаёўку ці чалавечыя адходы. Калі агрэст садзіцца ў лінію, то куст ад куста мусіць быць на далячыні $1^1/_2$—2 мэтраў.

Цераз некалькі гадоў пасьля пасадкі трэба пачаць пра-

чышчаць кусты: выразаюцца старыя пачарнеўшыя галінкі (4-х, 5-цігодніі). Незалежна ад выразаньня старых галінак, выразаюцца галінкі й маладзейшыя, асабліва тыя, што густа пераплятаюцца ў кусьце. Прарэджваньнем кустоў, угнаеньнем і вырываньнем пустазельля вычэрпываецца ўвесь дагляд агрэсту.

Маладыя кусты агрэсту даюць найболей ягадаў і найбуйнейшых, па меры-ж старэньня кустоў, ягадаў на іх бывае меней і яны драбнейшыя. Найбольшыя ўраджаі агрэст дае да 10—15 гадоў.

З гандлёвых сартоў агрэсту, ягады каторых ідуць на выраб віна і канфітураў, найлепшыя: Чырвоны і Жоўты круглы.

## Парэчка (чырвоная й чорная)

Парэчка, як і агрэст, добра расьце ў кажным грунце ў меру вогкім. На сухіх і мокрых грунтох парэчка не ўдаецца. На сушу й надмерную цяпліню ўлетку парэчка болей адпорная, чым агрэст. Добра ўдаецца ў мясцох лёгка ценяватых, у заходнім або паўночным палажэньні. На цяплейшым і сонечным месцы дае горшыя ягады, але саладзейшыя.

Парэчка размнажаецца адным толькі спосабам — чаранкаваньнем. На чаранкі зразаюцца адналетнія галінкі, каторыя рэжуцца на асобныя кусочкі па 20—30 см. даўжыні і ўкосна садзяцца ў пухкай і даволі вогкай зямлі. Кажны чаранок мусіць мець ня меней 4—6 вочак (пучкоў), з каторых палавіна пакідаецца над паверхняю зямлі. Чаранкаваньне найлепш рабіць раньняю восеньню, зараз, як ападзе лісьцё; ня шкодзіць, калі часьць лісьця трымаецца — яно абрываецца загатаўляючы чаранкі.

Чаранкі яшчэ перад зімою вытвараюць г. зв. пятку, з каторай пачынаюць вытварацца карэньчыкі і калі восень цёплая й доўгая, то карэньчыкі выходзяць яшчэ перад зімою. Чаранкаваньне веснавое дае горшыя вынікі. Размнажаюць парэчкі і з падзелу старых кустоў, але гэты спосаб дае слабейшыя расьціны.

Аднагоднія расьціны, з чаранкоў, адразу можна садзіць на сталае месца на далячыню $1^1/_2$—2 мэтраў кусьцік ад кусьціка.

Парэчку трэба ўгнойваць што трэці год хлеўным гноем; вапну даваць што пяты год; калійныя (паташавыя) гнаі попел — штогоду. Калі лісьцё на парэчцы жаўцее, гэта азнака нястачы корму ў зямлі й жалеза — падліць тады кажны куст гнаёўкаю, дадаючы на кажныя 10 літраў 20 грамаў жалезнага купарасу, распушчанага ў гарачай вадзе.

Пазьнейшы дагляд парэчак гэткі самы, як і агрэсту: вырэзываюцца старыя і пачарнелыя галінкі, прарэджываюцца кусты, успульхняецца і ўтоптываецца зямля. Парэчкі добра родзяць у працягу 10—15 гадоў.

З гандлёвых сартоў парэчак найлепшыя: Чырвоныя галяндэрскія, Чырвоныя вэрсальскія, Белыя галяндэрскія, Чорныя нэапальскія.

## Маліна

На грунт маліна не пераборлівая, баіцца толькі грунту вельмі сухога й пустога. Маліна добра расьце і на халодных грунтох, што зусім не надаюцца пад культуру іншых расьцінаў. Маліна — тыповая расьціна на выкарыстоўваньне найгоршых няўжыткаў. У цёплым сонечным палажэньні маліна родзіць хоць меншыя ягады, але за тое саладзейшыя й араматычнейшыя, чым у палажэньні цяністым і халодным.

Маліна шырака распасьцірае свае карэньні й хутка вычэрпывае зямлю, дзеля чаго зямля пад малінамі вымагае сільнага ўдабрэньня, асабліва вострымі гнаямі, як чалавечы, птушыны і вапна.

Размнажаецца маліна з адросткаў. Увосень або вясною выкапываецца стары куст маліны, разрываецца на некалькі частак, з 2-ма найменей дубцамі ў кажнай і адразу садзіцца на сталае месца, на далячыні 50 см. кусьцік ад кусьціка па лініі. Садзячы, дубцы адразаюцца да палавіны або трэцяй часьці іх даўжыні. Для свайго ўжытку у гародах— маліну найлепш садзіць ля гародняй мяжы, дзе-небудзь пад плотам, у якім кутку, не адводзячы ёй асаблівага месца.

Дагляд кустоў маліны ў тым, што штогоду вясною выразаюцца старыя засохшыя дубцы і прарэджваюцца маладыя. Куст маліны звычайна выдае болей дзесятку дубцоў рознай сілы; усіх іх пакідаць ня можна, каб не аслабіць расьціны й ня выклікаць надмернай гусьціні. Дык з пасярод маладых дубцоў выбіраем 4—6 найсільнейшых, а рэшту выразаем. Ды й пакінутым дубцом адразаем болей-меней трацінy іхняе даўжыні.

Зямлю паміж малінаў трэба старанна ўгнойваць і часта вапнаваць, апрача таго узрушваць, каб яна была пухкаю, і ачышчаць ад пустазельля. Сьцерагчыся трэба глыбокага капаньня, каб не пашкодзіць карэньняў; усе адросткі, што паказваюцца паміж кустоў і ліній (калі маліна пасаджана некалькімі радамі) зьністажаць. Добра дагляданыя маліны могуць аставацца на адным месцы гадоў 10, пасьля чаго яны мусяць быць заменены сьвежымі й на іншым месцы.

З гандлёвых сартоў маліны найлепшыя: Гальяф, на сухія грунты — Мальборо, Фастольф.



*Жывёлагадоўля*

# Дагляд каня

Сільны, здаровы конь ёсьць вялікаю вартасьцю для гаспадара і першым ягоным памоцнікам у працы на ральлі. Дык трэба аб ім дбаць.

Каб утрымаць каня ў здароўі і здольнасьці да цяжкай працы, трэба даглядаць яго паводле наступных правілаў.

### Конь у працы

1. Каб конь добра і ахвотна цягнуў, а не наравіўся — *павінна быць як найлепш дапасаваная ўпраж.* Гэта вельмі важны варунак. Самая практычная упраж — хамут, бо тады конь цягне плячмі. У шорах і ў шлеі конь цягне грудзьмі, гэткая ўпраж душыць каня і лёгка парыць.

2. Конь заўсёды мусіць быць закелзаны, бо йначай вазьнік ня будзе панаваць над канём, што зьяўляецца найчасьцейшаю прычынаю розных нешчасьлівых прыпадкаў. Цуглі мусяць быць тоўстыя, а ня тонкія і вострыя, тым болей не драцяныя. Ня можна накладаць каню цугляў на храпу, бо пры наглым затрыманьні лёгка можа зламацца насавы храсток.

3. Калі гаспадар езьдзіць адным канём, то мусіць запрагаць яго ў аглоблі, а не да параконнага дышля — тады конь цягне воз збоку, на што ён траціць болей сілы, а дышаль яго б'е па бакох і па зубах.

4. *Конь мусіць быць добра падкуты* добрым кавалём і што 2 месяцы перакаваны.

5. Ня можна вымагаць ад каня надмернага высілку і змушаць яго цягнуць, калі конь выбіўся з сілы. У цяжкай працы — часта прыпыняцца і даваць каню некалькі мінутаў адпачынку.

6. Калі конь палохаецца пры спатканьні з мэханічным возам (самаходам, матацыклям), то ня біць яго ня тузаць, але старацца супакоіць яго голасам, прытрымаць за храпу, нарэшце накінуць яму на галаву гуньку, дзяружку або сваю капоту ці сярмягу.

7. Летам *бараніць каня ад мухаў.* Мухі — ворагі каня, яны не даюць яму супакою, дражняць, кусаюць і п'юць з яго кроў. У дарозе трэба затыкаць за ўпраж галінкі з лісьцём, а на пастою—накрыць каня дзяружкаю, гунькаю.

8. Каня *трэба паіць перад выездам* у дарогу, асабліва летам.

9. На пастою — ставіць каня не на ветры і не на сонцапёку, а ў цяньку. Узімку — накрываць гунькаю.

10. *Кормячы каня з торбы* пакідаць яе на галаве датуль, пакуль конь есьць. Як толькі перастане есьці — торбу зьняць.

11. Ня езьдзіць на хворым, кульгавым, адпараным ці акалечаным кані. Перад запраганьнем — аглядзець капыты і спраўдзіць падковы. Ня гнаць каня па выбоінах і калдобінах, а так-жа па бруку.

12. Не пакідаць каня без дагляду і апекі.

### Конь у адпачынку

1. Вярнуўшыся з працы, *каня трэба выцерці,* асабліва ногі, аглядзець яго, ці дзе ня прыпараны, ці не ашмуляны. Сагрэтага ня ставіць на скразьняку, накрыць гунькаю, паіць як астыне.

2. Старацца, каб у стайні было сьветла і як найбольш паветра. Стайню бяліць вапнаю два разы на год. Да вапны дадаваць сіняй фарбы, ад каторай мухі робяцца сонныя і менш дакучаюць каню. Гной часта выкідаць, сьцёлка мусіць быць сухая і роўна разасланая, прывязь доўгая, каб конь мог свабодна легчы.

3. Паіць заўсёды перад аброкам. Карміць удоваль, больш даваць пошару пры цяжкай працы, менш пры працы лягчэйшай.

4. Калі хлеў нізкі і цесны, то летам каня трымаць на дварэ ў цяньку. Нанач пакідаць у хляве дзьверы адчыненыя, заложаныя штабаю.

5. Калі конь пускаецца на пашу, то ў разе патрэбы путаць. *Ня можна путаць тонкім тнурком.* Калі пута ня вельмі тоўстае — то пад яго падкладаць войлак, або сукно.

6. Каня заўсёды трымаць чыста. Брудны конь падатнейшы на хваробы, заўсёды худзейшы і слабейшы ад чыстага каня.

7. Наагул, каню запэўніць як найбольш выгадаў, каб ён мог па працы адпачыць і набраць новых сілаў.

8. Калі конь захварэе, не лячыць неразумнымі шаптаньнямі, а радзіцца з дасьведчанымі суседзямі. У паважнейшых выпадках — не шкадаваць грошай на добрага вэтэрынара.

*З „Гадоўлі коняў І. Хадавецкага“* —

**У. П—скі.**

# Гадаваньне жарабяці

Для разьвіцьця жарабяці трэба, каб добра даглядалася й добра кармілася ягоная матка, а само жарабё каб карысталася з добрага *паветра, руху* й моцнага *аджыўляньня*, асабліва ў першым годзе.

Каб асягнуць добрыя вынікі ў гадоўлі жарабяці, трэба памятаць аб наступных радах:

1. *Жарабё мусіць быць пры матцы не даўжэй як да 6—7 месяцаў.* Ужо маючаму некалькі тыдняў жарабяці трэба даваць крыху *аўса*, хоць-бы з паўкілё на дзень. Авёс даваць ня цэлым і не пасечаным, а падушаным, каб жарабё, маючы малочныя зубы, лепш магло авёс пагрызьці й пераатравіць. У меру падрастаньня — дачу (порцыю) аўса пабольшываць аж да 2 кілё на дзень.

2. Апрача матчынага малака й падушанага аўса трэба даваць жарабяці як *найлепшае сена*. Да гэтага дадаткі — аўсяныя ашакі, зьмешаная з сечкаю канюшына, трохі зьбіранага каровячага малака, зялёны корм, моркву і дадаваць да аброку з паўжмені молатай крэйды. Не даваць бульбы, буракоў і вотрубаў.

3. Корм заўсёды й абавязкава даваць *на зямлі*. Авёс даваць у жалабку, прымацаваным *нізка* й часта беленым вапнаю, каторую жарабё ліжа, а гэта яму патрэбнае для разьвіцьця касьцей і забясьпечвае ад чарвякоў у кішкох. У жалабок палажыць крыху *солі да лізаньня*. Сена даваць за драбінкаю, так-жа прымацаванаю да сьцяны нізка, каля зямлі. Ходзіць аб тое, каб жарабё ў часе яды не задзірала ўверх галавы.

4. *Утрыманьне скуры жарабяці ў чысьціні* — вельмі важны варунак для ягонага здароў'я. Спачатку што некалькі дзён, а потым штодня добра расьціраць скуру пучком сена, а цераз паўгода штодня чысьціць шчоткаю ці скрабачкай.

5. Пільна ўважаць на *капыты*. Да году не чапаць споду капыта (стрэлкі й падэшвы), але вострым нажом абразаць усе задзіркі й фрэнзьлі рогу. Пасьля году капыты мусіць чысьціць добры каваль. Недагледжаныя капыты ў жарабяці вырастаюць дрэнна й крыва, у выніку чаго жарабё набывае няправільны ход. Добрыя капыты мусіць мець кажны конь, асабліва-ж конь, празначаны на продаж.

6. Не забывацца *аб сухой сьцёлцы ў стайні*. Ад гнілой і мокрай сьцёлкі ў жарабяці псуюцца вочы й капыты. Апрача таго, узімку, кладучыся на мокрай сьцёлцы, жарабё прастуджвае сабе кішкі, што выклікае дрэннае траўленьне й нават колькі.

7. Для здароўя й разьвіцьця жарабяці вельмі патрэбны *рух на сьвежым* паветры. Ужо па 10 днёх жарабё мусіць хадзіць з маткаю, ведама, калі пазваляе надвор'е. Ня можна жарабяці замыкаць у цёмнай і душнай стайні на час адсутнасьці маткі, бо яно будзе маркоціцца па ёй, а калі матка вернецца, то надмерна апіваецца малаком, што можа быць прычынаю хваробаў.

8. Абавязкава трэба *абгарадзіць кавалак поля*, куды й выпускаць жарабё па адлучэньні ад маткі — няхай тамака цэлымі днямі прабывае на паветры й сонцы, апрача слоты й вялікіх маразоў. Вельмі карысна злучаць разам некалькі жарабят (суседзкіх) — тады яны разам гуляюць і ня дзічэюць.

Маладога жарэбчыка, калі ён ня будзе гадавацца на жарабца, *кастраваць* (*пакладаць*) *вясною, па скончэньні году*.

Каб выгадаваць жарабё на лагоднага каня трэба:

1. *З жарабём абходзіцца добра й лагодна.* Часта да яго адзывацца, з рук даваць што-небудзь есьці, часта гладзіць, ляпаць, ніколі ня можна тузаць, штурхаць і тым балей — біць. Жарабё мусіць набраць даверу й прызвычаеньня да чалавека й бачыць у ім ня ворага, але прыяцеля.

2. Ужо двохтыднёваму жарабяці трэба налажыць лёгкую вобруцьку, добра дапасаваную і з бегам часу зьмяняць на большую. Гэтак жарабё вучыцца слухаць чалавека й паддавацца яму.

3. Часта падыймаць і астуківаць ногі якім паленцам. Гэтак жарабё прыгатаўляецца да будучага каваньня й ачышчаньня капытоў.

4. Каб выгадаваць сільнага каня, *ня можна рана запрагаць жарабяці*, што вельмі часта бывае ў неразумных гаспадароў.

Калі жарабё скончыць 2 гады жыцьця, толькі тады можна накладаць на яго упраж і каб малады конік асвоіўся з ёю — прывязываць збоку да запрэжанага старога каня. Потым запрагаць яго ў пары са старым канём і па скончэньні 3 гадоў браць яго да лёгкай працы, паступова пераходзячы да цяжэйшай. Хто сьпяшае з запраганьнем маладога каня да цяжкай працы — той робіць вялікую абмылку й часта псуе каня.

5. *Не забывацца аб дакумэнтах.* У канцы таго году, у каторым нарадзілася жарабё, трэба на адвароце пасьведчаньня пакрыцьця маткі упісаць дату нарадзінаў жарабяці, яго назоў, апісаньне масьці й асаблівыя да гэтага ўвагі. Гэткае пасьведчаньне бясплатна зацьвярджае воласьць.

*Паводле „Гадоўлі коняў І. Хадавецкага“—У. П—скі.*

## Вага бітай жывёлы

### У працэнтах вагі жыўца

| Часьці тушы | Карова | | Цялё сытае | Авечка | | | | Сьвіньня | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сярэдне ўкормленая | Сытая | | Худая | Сярэдне ўкормленая | Сытая | Вельмі сытая | Падкормленая | Сытая |
| | На 100 кілё вагі жыўца прыпадае | | | | | | | | |
| Мяса без касьцей | 36,0 | 35,0 | 43,0 | 33,2 | 33,5 | 29,0 | 27,0 | 46,4 | 40,0 |
| Касьцей . . | 7,4 | 7,1 | 9,3 | 7,1 | 6,6 | 5,5 | 5,2 | 8,0 | 5,8 |
| Туку ў мясе . | 2,0 | 14,7 | 5,5 | 2,0 | 3,3 | 14,7 | 20,5 | 16 5 | 32,4 |
| „ ныркавога | 2,0 | 3,5 | 2,2 | 1,0 | 1,9 | 3,6 | 4,4 | 1,9 | 3,9 |
| „ брушнога і з кішок | 2,3 | 4,1 | 2,4 | 3,0 | 4,1 | 6,8 | 8,0 | 1,7 | 2,5 |
| Рэшта тушы ў працэнтах вагі жыўца | | | | | | | | | |
| Кроў . . . | 4,7 | 3,9 | 4,8 | 3,9 | 3,9 | 3,2 | 3,2 | 7,3 | 3,6 |
| Скура, галава і ногі . . | 13,7 | 10,7 | 13,5 | 24,0 | 32,8 | 18,0 | 16,1 | — | — |
| Нутро . . . | 9,8 | 7,2 | 7,7 | 8,5 | 8,1 | 6,6 | 5,3 | 9,8 | 6,0 |
| Зьмесьціва жалудка і кішок | 18,0 | 12,0 | 7,0 | 16,0 | 15,0 | 12,0 | 10,0 | 7,0 | 5,0 |

### Агульнае параўнаньне вагі бітай жывёлы з вагою жыўца

100 кілё жывой вагі жывёлы дае чыстага мяса:

Вол . . — 48—60 кілё
Карова . — 45—50 „
Цялё . . — 58—65 „
Баран . — 43—51 „
Сьвіньня — 70—75 „

Залежна ад укормліваньня: чым больш укормлены, тым больш дае мяса, і наадварот.

З гэтага відаць, што найменшы працэнт мяса дае карова і баран, а найбольшы сьвіньня. Чым сыцейшая жывёла, тым большы працэнт мяса. Напрыклад з худога вала на 1 кілё мяса (жывой вагі) прыходзіцца: 308 грамаў мяса, 81 гр. туку (клустасьці) і 597 гр. вады, а з сытага вала — 356 гр. мяса, 239 гр. туку і толькі 390 грамаў вады.



# Да кажнага земляроба!

Плацячы пажарную складку за страхоўку ад пажару, кажны земляроб павінен ведаць, што:

PZUW—гэта найстарэйшая і найбольшая ў Польшчы Інстытуцыя страхаваньня, **заложаная ў 1803 г. і мае звыш 4 мільёны застрахаваных.**

PZUW—мае на мэце ахарону страхаваньнем земляробаў ад насьледкаў пажараў і дзеля гэтага ёсьць Інстытуцыяй, якая **служыць выключна грамадзкаму дабру, зусім не імкнучыся да зыску.**

PZUW—**ёсьць уласнасьцяй усіх застрахаваных,** каторыя супольна кіруюць Установай праз сваіх прадстаўнікоў у Радзе Установы.

PZUW—страхуе ня толькі будынкі ад пажару, зямельныя плады ад градабіцьця, але і земляробскія рухомасьці ад пажару, ад дня 1.VII.1938 г. **Земляробы штораз больш праконваюцца аб карысьцях страхаваньня ўсяе сваей маемасьці ў Powszechnym Zakładzie Ubezpieczeń Wzajemnych.**

PZUW—выплачвае ня толькі адшкадаваньне за пагарэлае, але **дае пазыкі** на адпорную ад агню будоўлю; дае падмогі на будову комінаў у курных хатах; устанаўляе ў вёсках і мястэчках зборнікі вады і вадаправоды; дае самаўрадам пазыкі на будову пажарніцкіх рэмізаў, на выраб адпорных ад агню матарыялаў, як: дахоўкі, пустакі і пад; адбудоўвае плянова аселішчы пасьля масавых пажараў; дае пажарніцкім стражам у цэлай Польшчы ручныя і маторныя прылады—усё гэта робіць дзеля забясьпечаньня земляроба ад пошасьці пажараў, якія нішчыць ня толькі будынкі, але няраз плады цэлага году працы гаспадара на ральлі і прыбытак сабраны праз доўгія гады.

Калі йшчэ возьмем пад увагу, што PZUW дае помач ня толькі пацярпеўшым ад пажараў, але і ад іншых стыхійных пошасьцяў (прыкл. у 1934 г. Установа вызначыла звыш 2 мільёны зл. на помач для пацярпеўшых ад разводзьдзя; у чэрвені 1938 г. — 350 тыс. зл. для застрахаваных, каторых гаспадаркі пацярпелі ад урагану і разводзьдзя), дык дойдзем да вываду, што **PZUW зварочвае застрахаваным усе біляньсавыя надвыжкі ў форме новых выплатаў.**

У меру магчымасьці Установа падтрымлівае розныя, агульныя мэты грамадзкага карыстаньня.



*Гігіена*

## Якія хваробы разносяць вошы

Найчасьцейшымі паразітамі ў брудных людзей ёсьць вошы. Паяўляюцца яны ў кажнага чалавека, які даўжэйшы час ня мыецца з мылам і не зьмяняе бялізны, у асобнасьці „нуда“ нападае на тых людзей, што маюць цяжкія клапоты. Аджыўляюцца вошы выключна жывой кроўю. Разрожніваем тры рады вошаў: галаўную, якая жыве ў валасох галавы, адзежную, што водзіцца ў людзкой адзежы, і саромную, якая пераважна гадуецца ў валасох пахвінаў. Найбольшай па вялічыні ёсьць вош адзежная — самка мае да 6 мм. даўжыні, а найменшая, бо толькі $1^1/_2$ мм. ёсьць саромная, сярэднюю вялічыню мае вош галаўная — каля — 2—3 мм.

Вошына на 18—20 дзень свайго жыцьця пачынае нясьці па 6—8 яечак у дзень. Яечкі гэтыя, званыя гнідамі, прымацовывае вош да нітак матарыялу, рубцоў, а на галаве і ў пахвінах да валасоў. З гнідаў па 7-мі днях выходзяць маладзенькія вошкі, якія энэргічна ссуць у чалавека кроў. З аднэй вошыны ў працягу 2-х месяцаў можа распладзіцца ад 10-ці да 20-ці мільёнаў вошаў. Трывалкасьць вошаў на зьмену тэмпэратуры і голад ёсьць дужа вялікая. Можа яна 10 дзён жыць без яды, а гіне толькі пры $6^0$ марозу і $85^0$ цяпліні. Гніды могуць жыць без яды да 6-ці тыдняў. Вошы выклікаюць: 1. *вашывасьць* і 2. *запаленьне скуры,* пераносяць з хворага чалавека на здаровага: 3. *тыфус плямісты.* 4. *тыфус паваротны* і 5. *чуму.* Разгледзім каротка ўсе гэтыя хваробы.

1. *Вашывасьць,* як паказывае назоў, гэта ёсьць хвароба спрычыненая выключна вялізарнай колькасьцяй вошаў на целе чалавека. Вошы, абсеўшы сшчыльнай масай галаву і большую ці меншую часьць скуры, заядаюць чалавека. Хворы ўсьцяж цярэбіцца, скрабецца, ноччу ня можа заснуць, нэрвуецца, худзее і ўканцы „нуда“ даводзіць яго да магілы. Вылечыць вашывасьць можна. Спачатку, калі паразіты яшчэ ня так закараніліся, то лячэньне можна правясьці ў хаце, але калі хвароба ўцягнецца, то часта і ўлячніцах нічога ня можна зрабіць. Вашывасьць ёсьць вельмі небясьпечная для акружаючых, бо дзе вашывыя людзі ходзяць, ляжаць або сядзяць, усюды натрасаюць сваіх жывучак, а на ветры — дык вецер падхватывае вошаў або гніды і пераносіць іх на здаровых людзей. Вашывасьць часта ёсьць у хатняй жывёлы, калі гаспадар яе дрэнна даглядае.

2. *Запаленьне скуры* і розныя *болькі і скулы,* хоць беспасярэдна не паўстаюць ад вошаў, аднак вошы ёсьць іх прычынай. Вошы ссуць у чалавека кроў і выклікаюць гэтым сьверб. Чалавек скрабецца і заганяе бруд і бактэры пад скуру, з чаго пасьля разьвіваюцца болькі, скулы і іншыя цяжкія хваробы скуры. Калі чалавек ня мыецца і ходзіць у брудзе і поце, то вылячыць гэтыя хваробы вельмі трудна, ніякае лякарства не памагае. Толькі агульная чысьціня цела і бялізны робіць адпорнай скуру на розныя бактэрыі. Чысты чалавек ніколі не хварэе на скулы і болькі.

3. *Тыфус плямісты* выклікаюць жывучкі, якія размнажаюцца толькі ў кішкох вошаў, і каб ня вошы — тыфусу плямістага ў нас зусім ня было-б. У хворага чалавека на тыфус жывучкі гэтыя знаходзяцца ў крыві. Вошына ссе кроў хворага і жывучкі-заразкі тыфусу пераходзяць з крывёй у кішкі вошы, дзе і размнажаюцца. Калі заражаная вош укусіць здаровага чалавека, то ён захварэе на тыфус менш больш на 14 дзень ад укушэньня. Тыфус плямісты ёсьць страшнай хваробай. Чалавек бяз памяці ляжыць некалькі тыдняў, а сьмяротнасьць людзей даходзіць да 30 прац. Людзі па 50-ці гадах рэдка пераносяць гэту хваробу. Хворых на тыфус трэба трымаць зусім асобна і дбаць аб чысьціню. Хатнім аднак вельмі трудна ўсьцерагчыся ад заражаных вашэй, бо яны ўсюды лазяць, шукаючы сабе жыру. Найлепш тады хворага адвясьці ў шпіталь або аддаць пад апеку лекара ці кваліфікаваных санітараў, тымбольш, што **ў нас заразныя хваробы лечаць дарма.**

4. *Тыфус паваротны* ёсьць вельмі цяжкой хваробай. Выклікаюць яго жывучкі, якія таксама вошы пераносяць. Тыфус паваротны ёсьць хваробай ня так страшнай, як тыфус плямісты, бо маем на яго вельмі добрыя лекі. Лечыцца гэта хвароба дарма.

5. *Чуму* вошы таксама могуць разносіць, але гэта хвароба цяпер у нас ёсьць нячуваная. Спатыкаецца яна толькі ў цяплейшых і вельмі някультурных краёх, як Кітай, Індыя. Калісь і ў нас зьбірала гэта хвароба шматтысячныя ахвяры.

Яшчэ далёка ня ўсе ад'емныя вынікі бруду і вошаў мы апісалі і таксама ня ўсе вылічылі карысьці, якія дае чысьціня для здароўя. Вывад у канцы аднак такі, што каб не захварэць на пералічаныя хваробы, трэба — каб на нашым целе ніколі не загнязьдзілася вошына, найбольшы вораг бедных і някультурных людзей. Цёплая вада, мыла, лазьня, чы-

стая бялізна—няхай будуць рэчамі штодзеннымі і агульна тасаванымі. Летам мейма прывычку часта купацца. Часта аднак сама чысьціня, хоць яна найлепшы прыяцель нашага здароўя, ня можа ратаваць вашывых ад назойлівых паразітаў, — тады трэба хворых шмараваць газай (нафтай), напалавіну зьмешанай з алівай; дзіцям найлепш шмараваць галовы алеям сабадылёвым.

**Др. Я. М.**

## Якія раны можна ёдынаваць

Калі ранка невялічкая, шмат ня крывавіць, то яе заўсёды трэба пашмараваць ёдам, а калі рана вялікая, дзе яе трэба зашываць, то ёдынаваць ня можна. Калі мы дадзём ёду на рану, то мы перапалім зьверху жывую тканку, а перапаленая тканка ўжо не зрасьцецца. У асобнасьці ня можна ёдынаваць раны ў жанчын пры пародзе і на твары, трэба ў гэтым выпадку зьвярнуцца да дохтара.

—o—

Калі прабітая нага або палец ў руцэ нарываюць, то трэба іх трымаць доўга ў гарачай вадзе і прыкладаць (выбраўшы з вады) Іхтіолёвую масьць. Як ужо зьбярэцца матэрыя, то можна прарэзаць выгатаваным скальпэлем, а той брытвай. Пры нарыве аднак пальцаў у руках лепш зьвярнуцца да дохтара.

—o—

Калі ўкусе пчаліна, то трэба выцягнуць жыгала і тое месца пашмараваць аманьякам.

—o—

Калі укусе вужака, то рану можна высмактаць губамі, абы толькі укушаны ня быў хворы на сыфіліс, а той, хто смокча, ня меў раны ў губе. Сам сабе можа заўсёды высмактаць, калі ня мае ран на губах. Пасьля рану трэба добра заёдынаваць, або прылажыць кампрэсік із сьпірту і перавязаць вышэй і ніжэй месца ўкушэньня.

## Крапіва добры лек

Крапіва і крапіва жыгучка, якая так любіць расьці каля платоў на вёсцы, аказалася вельмі добрым лекам проціў крываўленьня. І ўсім, хто хворы, плюе кроўю, мае крывавыя адходы, кроўю ванітуе, або жанчына вельмі крывавіць, усім ім трэба піць завараную крапіву. Прыгатаўляецца яна гэтак:



Бярэцца $^{1}/_{4}$ клг. сьвежага лісьця крапівы і заліваецца 2 літрамі вару (кіпятку); пасьля трэба варыць яшчэ $1^{1}/_{2}$ гадзіны, тады адцадзіць, засаладзіць да салодкасьці і піць па аднэй шклянцы ў дзень.

Крапіва мае так-жа ў сабе шмат жалеза і дзеля таго добра карміць худых дзяцей зупай з маладой крапівы.

**Др. Я. М.**



## Як усьцерагчыся ад паяўленьня хатняга грыба ў будынках?

Веда аб хатнім грыбу вельмі слаба распаўсюджана сярод насельніцтва. Небясьпека развальваньня грыбам дзераўляных частак будынкаў вельмі вялікая і з разбураючай работай грыба прыходзіцца часта спатыкацца.

Здавалася-б у цяперашнія часы, калі будуецца гэтулькі дамоў з цэглы і жалеза-бэтону, небясьпека паяўленьня гэтакіх шкоднікаў выключана; такі вывад быў-бы ад асновы няправільны, бо дзеравіна і ў цяперашнія часы шырока распаўсюджана, як будаўляны матарыял, і няма надзеі на выключэньне яе ў бліжэйшай будучыні. Дзеравіна прадстаўляе масу асаблівую, і з галаўнейшымі яе недахопамі **запальнасьці і паражаемасьцяй грыбом** можна і трэба змагацца.

Даволі неасьцярожнага праектаваньня і недагляду пры будове дому—каб стварыць для грыба адпаведныя варункі існаваньня. Ведама, што грыбы, апрача асяродзьдзя ежы, каторай, у гэтым выпадку, зьяўляецца дзеравіна, патрабуюць адпаведнай тэмпэратуры і вогкасьці. Тэмпэратура ў апальваных памешканьнях падтрымліваецца круглы год, у іншых-жа даволі для разбураючай работы грыба ў цёплую пару году. Вогкасьць або пранікае з зямлі дзякуючы благой ізаляцыі, або, у канцы, абсядае з прычыны благой вэнтыляцыі.

Грыбок дае знаць аб сваім паяўленьні (прыкл. пад падлогай) няпрыемным, тухлым запахам. Заўважваецца такжа сырасьць на сьценах плямамі. Запах выклікае ў прачуленых людзей болі галавы, кружэньне галавы і нават обмарак.

У меру разбурэньня дзеравіны, пачынаюць угінацца пад нагамі дошкі і крывіцца дзьверныя рамы і падваконьнікі. У далейшых стадыях свайго разьвіцьця грыб выходзіць наверх і пакрывае ватаабразным налётам дошкі падлогі, абшыўкі, рамы, абоі і г. д. У канцы канцоў на гэтай грыбніцы вырастаюць скурна-мясістыя плады (грыбы) жоўтага колеру з белай каймой (берагамі).

Неабходна энэргічна брацца за барацьбу з грыбом, як толькі будуць заўважаны першыя азнакі яго паяўленьня. Гэта нялёгкая і даволі дарагая работа. Асабліва трэба высьцерагацца дамарослых спэцыялістаў, якія бяруцца нішчыць грыб, ня маючы належнай падгатоўкі. Такая работа амаль заўсёды будзе безрэзультатнай, бо грыб паявіцца ўзноў і нанова прыдзецца палажыць значныя расходы на яго зьнішчэньне.

Дзеля гэтага трэба зьвяртацца толькі да ведамых спэцыялістаў, каторыя правядуць барацьбу з грыбом з гваранцыяй, так што да гэтай справы больш ня трэба будзе варочацца.

Паяўленьне грыба можна лёгка адхіліць, ужываючы пры будове (або перабудове, рамонтах) проціўгрыбныя сродкі. Гэтыя сродкі няшкодныя для здароўя жыхароў, але маюць у сабе такія сільныя проціўгрыбныя свомасьці, што робяць немагчымым прарастаньне грыба ў насычанай імі дзеравіне. Гэтымі-ж сродкамі карыстаюцца ў барацьбе з грыбом у жылых ужо дамох. Выбіраючы сродкі, трэба так-жа быць асьцярожным, не бяручы няведамых і нявыпрабаваных, а купляючы толькі сродкі ведамай проціўгрыбнай сілы. Сьпісак іх можна знайсьці ў выданай Мін. Унутраных Спраў: „Analiza Robót Budovlanych,“ часьць 1, бач. 469—472, (1938). Сярод іх трэба адзначыць сродкі, якія шырока распаўсюджаны дзякуючы іхняй выдатнай дзейнасьці:

**Фунголь**—нехварбуючая соль, распускаючая ўвадзе — для дзеравіны.
**Флюодін**—хварбуе дзеравіну на жоўты колер.
**Фунгомур**—для цэгляных сьценаў і тынку.
**Крэодіна А**—для абмазваньня бэляк і падпадлогі.

За парадай і помачай трэба зьвяртацца ў Мікалагічную Лабараторыю „ФУНГУС,“ Варшава, Наваградзкая 49.

**С. Н.**



## Ратаваньне змарожанага

Змарожанага чалавека трэба распрануць у халодным месцы і расьціраць усё цела сьнегам, або грубымі ручнікамі змочанымі ў сьцюдзёнай вадзе. Пасьля трэба перанесьці змарожанага чалавека ў халодную ізбу і далей расьціраць цела нейкаю сухою флянэляю. Пакуль хворы няпрытомны, дык трэба даць яму панюхаць этар ці нашатырны сьпірт, ці ўрэшце ангельскую соль. Калі хворы ня дыхае—трэба зрабіць яму штучнае дыханьне. Калі хворы зробіцца прытомным, трэба даць яму напіцца халоднай кавы ці віна. З пасобнымі змарожанымі часьцямі цела трэба паступаць так: расьціраць сьнегам у халоднай ізбе; калі-б аднак змарожаныя часьці аставаліся бяз чуцьця, сінімі і да таго паказаліся-б на іх пузыры—лепш тады ня жджучы зьвярнуцца да лекара, каб не дапусьціць да гангрэны. **Др. Ст. Грынкевіч.**



*Культура*

## Народная песьня — злучво народу

Аб народнай песьні і яе значэньні мастак польскага слова, паэт нашага краю Адам Міцкевіч кажа: „O pieśni gminna, ty arko przymierza między dawnemi i przyszłemi laty.“ І сапраўды, народная песьня пераходзіць у спадчыне ад пакаленьня да пакаленьня, як агульная культурная ўласнасьць народу, злучаючы духова мінулыя пакаленьні з сучаснымі, ды ўсьцяж апяваючы жыцьцёвую радасьць, сум, трагедыю і асабістыя перажываньні ў народзе, перадае гэта будучым пакаленьням. Народная песьня — гэта вытвар народнага духа, які ўсьцяж прыпамінае жывому пакаленьню аб мінуўшчыне яго народу, яго роднай культуры і пабуджае да сьведамага народнага жыцьця. Дзякуючы народнай песьні многія народы не забыліся самі аб сабе і не загінулі ў моры іншых культур — не забыліся сваей мінуўшчыны, не парвалі злучва духовага з сваімі продкамі, ператрывалі найцяжэйшыя часы ў сваей гістарычнай падарожы і пачалі барацьбу за лепшы і сьведамы народны быт. Прыкладамі — Літоўцы або Латышы, якія маюць тысячы народных песень, а калі ня мелі йшчэ ані газэтаў, ані кніжак, гадавалі і гартавалі дух свайго народу песьнямі і гэтак дайшлі да расьцьвету і вялікай культурнай творчасьці, а таксама Украінцы, Чэхі, Славакі і іншыя народы, што цяпер стаяць на высокім культурным роўні, свой расьцьвет апіраюць на духовай творчасьці мінулых пакаленьняў свайго народу — народнай паэзіі і песьні. Дзеля гэтага ўсе культурныя народы зьбіраюць (запісваюць) свае народныя песьні, друкуюць іх зьмест з нотамі. Фіны нядаўна ладзілі ўжо 100-годні юбілей сабраньня й надрукаваньня ў адной вялікай кнізе сваіх народных песень.

Даўней людзі вельмі любілі свае народныя песьні, умелі іх многа напамяць і пры ўсялякай нагодзе сьпявалі; любілі слухаць народны сьпеў вандроўных сьпевакоў, дудароў, гусьляроў, кабзароў, лірнікаў, трубадураў, — каторыя вандруючы ад сяла да сяла, ад места да места, сваім сьпевам зараблялі сабе на ўтрыманьне. Гэтыя разношчыкі народнай песьні дзеля большага ўражаньня свайму сьпеву акампаніавалі на музычных інструмэнтах: на Беларусі — дудой, гусьлямі, на Украіне — кобзай, у іншых краінах — лірай і іншымі інструмэнтамі. Ад гэтага і іх назоў — дудары, гусьляры, кабзары, трубадуры.

Назовы вандроўных сьпевакоў сьведчаць, што і беларуская народная песьня яшчэ ў сівой мінуўшчыне мела ў народзе пачэснае месца і красавалася пры акампаніамэнце дуды і гусьляў — гэтых старых беларускіх народных інструмэнтаў, — якія выступаюць пераважна толькі ў Беларусі, дзе і дасюль захаваліся. Пры гэтым трэба сьцьвердзіць, што Беларускі народ мае мноства рознародных народных песень, якія сьведчаць аб жыцьці народу ў далёкай сівой мінуўшчыне і ў іншыя часы. Гэтыя беларускія народныя песьні, злучаючы мінулыя пакаленьні Беларускага народу з пакаленьнем сучасным, прыпамінаюць апошняму аб даўно цьвітучай беларускай народнай культуры і яе паступовым разьвіцьці.

Вяртаючыся думкай у далёкую мінуўшчыну — да беларускіх дудароў — навязваем лучнасьць тагачаснасьці з сучаснасьцяй. Цяпер, таксама як і тады, красуецца жывая беларуская народная песьня. Тады пялі яе вандроўныя сьпевакі пры акампаніамэнце дуды, або гусьляў — народ слухаў, захопліваўся і пры ўсялякай нагодзе сам пяяў, а цяпер пяюць вялікай славы мастакі, як М. Забэйда-Суміцкі, і хоры — народ так-жа слухае, захопліваецца чарам яе красы і пры ўсялякай нагодзе сам пяе.

Дык шануйма і цанема свае народныя песьні, зьбірайма, запісвайма і друкуйма іх, каб яны не загінулі для будучых пакаленьняў; сьпявайма іх солё і хорам пры кожнай нагодзе — на хрэсьбінах, вясельлях, пры працы і на розных таварыскіх зборках. Дзеля мастацкага публічнага іх выкананьня арганізуйма хоры, ладзьма канцэрты і спэцыяльныя імпрэзы беларускай народнай песьні. Гэтак трэба аддаць пашану нашаму народнаму скарбу — беларускай народнай песьні.

**Я. Пазьняк**

---

## Самаўрад і яго значэньне

Самаўрад агулам, прафэсыянальны, краёва-гаспадарчы, а тымбольш тэрыторыяльны, асновай каторага зьяўляецца валасьць, які шырока абымае гаспадарчае жыцьцё а такжа і галіну народнай зашкольнай асьветы — гэта вялікая школа грамадзкага ўзгадаваньня.

Зразуменьне патрэбы і значэньня самаўраду ў грамадзкім і дзяржаўным жыцьці ёсьць справай вельмі важнай.

Палітычна самаўрад не зьяўляецца незалежнай арганізацыяй ад дзяржавы — самаўрад толькі *самастойна* у рамах самаўрадавага закону, выданага дзяржаўнай компэтэнтнай установай, кіруе сваей дзейнасьцяй. А дзеля гэтага зусім лішняя і непатрэбная сталая „апека“ дзяржаўнай адміністрацыі над самаўрадам.

Агулам, самаўрад — гэта вялікая праблема ў дзяржаве, асабліва ў Польскай Рэчыпаспалітай, дзе побач з Польскім народам засяляюць вялікія тэрыторыі на акраінах дзяржавы — беларусы, украінцы і літоўцы, а так-жа ня мала ёсьць іншых нетэрыторыяльных нацыянальных меншасьцяў.

У гэтай нязьмерна вялікай праблеме і для беларусаў ёсьць два мамэнты прынцыповага значэньня: *1) агульнае значэньне самаўраду ў жыцьці насельніцтва краю і 2) значэньне самаўраду ў галіне забясьпечаньня нацыянальных патрэбаў беларускага насельніцтва.*

Праўда, нацыянальныя патрэбы Беларусам *праўна* забясьпечаны дзяржаўнай канстытуцыяй і інш. спэцыяльнымі законамі (напр. „языковым законам“ з 1924 г.). Але гэных законаў, бяз шырокага і свабоднага тэрыторыяльнага самаўраду, беларусы належна выкарыстаць ня могуць.

Сярод беларусаў пашырана цьверджаньне, што самаўрад — гэта толькі „гаспадарчая ўстанова.“ Такое цьверджаньне ня згоднае з праўдай і шкоднае для сутнасьці самаўраду. Самаўрад, апроч гаспадарчых справаў, займаецца шырока справамі народнай асьветы,культуры,гігіены і інш.,— самаўрад падтрымлівае грамадзкую ініцыятыву ў арганізаваньні бібліатэкаў, тэатраў, народных унівэрсытэтаў, народных дамоў і г. д. І дамаганьні — прапазыкі беларускіх радных прызнаньня самаўрадамі(валаснымі, або паветавымі) субвэнцыі на беларускі тэатр, або на патрэбы беларускай народнай асьветы, — належаць да самаўрадавых спраў.

*На тэрыторыі заселенай беларусамі ў самаўрадзе павінны быць беларусы,* бо яны карыстаюцца найбольшым даверам сваіх землякоў; ды ня толькі павінны быў валаснымі раднымі, але й самаўрадавымі адміністратарамі. Беларусы маюць права і на пасады войтаў і іншых функцыянараў самаўрадавай адміністрацыі.

Словам, самаўрад — гэта *варштат сапраўднага супрацоўніцтва насельніцтва* дзеля агульнага дабра Краю.

**Я. П.**

---



# „Век жыві — век вучыся“

*(Да справы самаадукацыі)*

Беларуская народная пагаворка, апёртая на досьледах жыцьцёвай практыкі, кажа: „век жыві — век вучыся!“

Зразумела, гэтая пагаворка заахвочвае да самаадукацыі — да самаасьветы, зусім нічога ня кажучы, як трэба вучыцца і якім спосабам самаадукавацца.

Агульна ведама, што як у навучаньні школьным, таксама і ў самаадукацыі—неабходныя кніжкі. Але гэта йшчэ ня ўсё: у школе з кніжкі вучыць спэцыяліст-вучыцель, а спосабам самаадукацыі трэ вучыцца самому. Дзеля гэтага наўперад трэба ведаць, як пераймаць і прысвойваць веду із кніжкі і як прачытанае ў кніжцы ацаняць.

Ведамы і слаўны філёзаф Шопэнгауэр вучыць, каб прачытанае ў кніжцы або ў іншых друках ацанялі належна, але *не пераацанялі.* Аб гэтым ён кажа:—прачытаным з кніжкі ніколі ня можна заглушаць собскае думкі; чытаньне павінна толькі ўзбуджаць уласную думку, але ніколі не павінна яе замяняць; хто прачытаным з кніжкі заглушае собскую думку, той уцякае і хаваецца ў цянёты ад свабоднай прыроды.

І сапраўды, вельмі часта можна спаткаць чалавека, што прачытаўшы адну нейкую кніжку, уважае прачытанае з яе аб'яўленьнем усяе ўпоўні і апошняй праўды. Гэткае зьявішча спасьцерагаецца нават і сярод такіх людзей, якія ўважаюць сябе за інтэлігентаў.

Такія адносіны да прачытанага з кніжкі прычыняюць вельмі многа благацьця цэлым грамадзянствам і народам.

Гэткія-ж адносіны многіх беларусаў, што баяцца сваіх уласных думак, замяняючы іх прачытанымі з чужых, бывае і варожых да беларусаў, кніжак або брашурак,— адцягваюць ад свайго народу, роднай гісторыі і агулам ад сваей роднай, беларускай культуры. Гэныя беларусы прызнаюць выключна толькі тое, што вычыталі з кніжкі, або нават з зусім неадказнай брашуркі і з гэтай няволі чужой думкі баяцца выйсьці.

З гэтага бачым, што шопэнгауэраўская перасьцярога, асабліва ў самаадукацыі, важная і для нас, беларусаў.

Слухаючы слаўнага Шопэнгауэра трэба чым найбольш чытаць і чытаць кніжкі розных аўтараў, нават процілеглых ідэова кірункаў. А гэта таму, каб выраблялі крытыцызм, каб навучыцца думаць, ацаняць і разважаць самастойна. Пры гэтым трэба ўсьведаміць, што чытаньне кніжак не павінна стацца адзіным жаралом нашай веды.

Адзін біограф апісваючы жыцьцё слаўнага паэта й вялікага вучонага Гётэ, між іншым, аб ім кажа:

— Гётэ яшчэ ў моладасьці цікавіўся ня толькі прыгожасьцяй дзяўчат і смакам віна, але ўважна прыглядаўся, як разьвіваецца промысел, цікавіўся памяткамі мінуўшчыны і агулам усялякімі праявамі ў жыцьці; аб усім пытаўся ў дасьведчаных людзей і стараўся бываць у таварыстве асьвечаных і разумных прыяцеляў. Гётэ адзін раз (у 1818г.) сказаў сваім прыяцелям:—Даражэнькія, што-ж із мяне было-б, каб я не прабываў з разумнымі людзьмі і ад іх ня вучыўся добрага? Трэба вучыцца ня толькі з кніжак, але так-жа і спосабам жывой абмены думак — у вясёлых таварыскіх рачовых гутарках.

Гётэ вучыўся многа із кніжак, але адначасна высока цаніў *спасьцярогу* і безпасрэднія запыты ў разумных людзей. Такім чынам гэтага вялікага вучонага былі вучыцелямі ня толькі (праз кніжку) Шыльлер, Вольф, Фіхтэ, Фос і інш. слаўныя інтэлектуалісты, але й найпрасьцейшыя работнікі рамясла, промыслу і земляробы—сяляне.

Гэтыя прыклады геніяльнага пісьменьніка маюць значэньне заўсёды, а для нас, беларусаў, у выняткава трудныя часы, асабліва карысныя.

Ня менш зьяўляецца карыснай для разьвіцьця чалавечага розуму і безпасрэдняя гутарка з прыродай. Аб гэтым Гётэ кажа: — хмарка на небе, жывёліна на дарозе, форма горкі, прамень заламаны ў шкле, пераламаньне кія ўсуненага ў ваду — усё гэта цікавіць дух у ягоным імкненьні да веды. Ведамы прыклад із авечым чэрапам, які Гётэ знайшоў каля мора і прыглядаючыся да якога стаўся адным із першых тварцоў тэорыі эволюцыі. Ня менш ведамы прыклад з яблыкам, што падаючы з яблыні накіраваў думку Ньютона на разьвіцьцё навукі аб агульнай гравітацыі нябесных планэтаў.

З гэтага ўсяго для нас навука, што на рэчы і праявы ў прыродзе трэба глядзець адкрыта, а спасьцярогі перай-маць так-жа адкрытай душой. Трэба вучыцца ўсьця-ж і пры кожнай нагодзе выклікаць свае ўласныя спасьцярогі, а тады паўстануць уласныя нутраныя *перажываньні* — паўстане собскае *пракананьне*, якое само-сабою.—не праяўляецца.

Гэткім спосабам чалавек паступова прывыкае й асьмяляецца йсьці ў жыцьцё з адкрытымі вачыма і вучыцца відзець і адчуваць сапраўднасьць.

Трэба адзначыць, што чым большая спасьцярожнасьць, тым большае багацьце ўласных думак.

Сярод гэтак узгадаваных людзей, у асяродзьдзях сялянскіх, работніцкіх, рамесьніцкіх, спатыкаем адзінак з нязвычайна цэннымі думкамі, якія цэлым небам перавышаюць не аднаго вучонага, інтэлігента, спэцыялістага. У краінах, дзе гэтак узгадаванае насельніцтва, кіраўніцтва грамадзкім жыцьцём пераходзіць ад выключна патэнтаванай інтэлігенцыі



ў рукі супольнасьці — інтэлігентных сялян, работнікаў, рамесьнікаў і дыплёмаваных інтэлігентаў, спэцыялістаў.

Да такога стану умысловага разьвіцьця сяляне, работнікі, рамесьнікі і ўсе тыя, што ня мелі і ня маюць магчымасьці вучыцца ў школе, могуць дайсьці праз самаадукацыю, атрымліваючы веду ня толькі з кніжак, але і із уласных перажываньняў, спасьцярогаў і досьледаў.

Ведама, што ў навуцы канца няма! Няма канца вучэньня школьнага, няма й самаасьветнага. Дык нашая пагаворка „век жыві — век вучыся“ заўсёды мае значэньне.

п—к.

---

# Календар цяжарнасьці хатняй жывёлы

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Кабыла | ходзіць | жарэбнай | $48^1/_2$ | тыдняў: сярэдня | 340 днёў |
| Карова | „ | цельнай | $40^1/_3$ | „ „ | 285 „ |
| Сьвіня | „ | пароснай | 17 | „ „ | 120 „ |
| Авечкі, козы | | котнымі | 22 | „ „ | 154 „ |

| Цяжарнасьць пачалася | Карова целіцца | Кабыла жарэбіцца | Сьвіня паросіцца | Авечкі, козы коцяцца |
|---|---|---|---|---|
| 1—I. | 12—X. | 6—XII. | 30—IV. | 3—VI. |
| 5 „ | 16 „ | 10 „ | 4—V. | 7 ,, |
| 10 „ | 21 „ | 15 „ | 9 „ | 12 ,, |
| 15 „ | 26 „ | 20 „ | 14 „ | 17 ,, |
| 20 „ | 31 „ | 25 „ | 19 „ | 22 ,, |
| 25 „ | 5—XI. | 30 „ | 24 „ | 27 ,, |
| 30 „ | 10 „ | 4—I. | 29 „ | 2—VII. |
| 1—II. | 12 „ | 6 „ | 31 „ | 4 ,, |
| 5 „ | 16 „ | 10 „ | 4—VI. | 8 ,, |
| 10 „ | 21 „ | 15 „ | 9 „ | 13 ,, |
| 15 „ | 26 „ | 20 „ | 14 „ | 18 ,, |
| 20 „ | 1—XII. | 25 „ | 19 „ | 23 ,, |
| 25 „ | 6 „ | 30 „ | 24 „ | 28 ,, |
| 1—III. | 10 „ | 3—II. | 28 „ | 1—VIII. |
| 5 „ | 14 „ | 7 „ | 2—VII. | 5 ,, |
| 10 „ | 19 „ | 12 „ | 7 „ | 10 ,, |
| 15 „ | 24 „ | 17 „ | 12 „ | 15 ,, |
| 20 „ | 29 „ | 22 „ | 17 „ | 20 ,, |
| 25 „ | 3—I. | 27 „ | 22 „ | 25 ,, |
| 30 „ | 8 „ | 4—III. | 27 „ | 30 ,, |
| 1—IV. | 10 „ | 6 „ | 29 „ | 1—IX. |
| 5 „ | 14 „ | 10 „ | 2—VIII. | 5 ,, |
| 10 „ | 19 „ | 15 „ | 7 ,, | 10 ,, |
| 15 „ | 24 „ | 20 „ | 12 ,, | 15 ,, |
| 20 „ | 29 „ | 25 „ | 17 ,, | 20 ,, |
| 25 „ | 3—II. | 30 „ | 22 ,, | 25 ,, |
| 30 „ | 8 „ | 4—IV. | 27 ,, | 30 ,, |
| 1—V. | 9 „ | 5 „ | 28 ,, | 1—X. |
| 5 „ | 13 „ | 9 „ | 1—IX. | 5 ,, |
| 10 „ | 18 „ | 14 „ | 6 ,, | 10 ,, |
| 15 „ | 23 „ | 19 „ | 11 ,, | 15 ,, |
| 20 „ | 28 „ | 24 „ | 16 ,, | 20 ,, |
| 25 „ | 5—III. | 29 „ | 21 ,, | 25 ,, |
| 30 „ | 10 „ | 4—V. | 26 ,, | 30 ,, |
| 1—VI. | 12 „ | 6 ,, | 28 ,, | 1—XI. |
| 5 „ | 16 „ | 10 „ | 2—X. | 5 ,, |
| 10 „ | 21 „ | 15 „ | 7 ,, | 10 ,, |

| Цяжарнасьць пачалася | Карова целіцца | Кабыла жарэбіцца | Сьвіня паросіцца | Авечкі, козы коцяцца |
|---|---|---|---|---|
| 15—VI. | 26—III. | 20—V. | 12—X. | 15—XI. |
| 20 „ | 31 „ | 25 „ | 17 ,, | 20 ,, |
| 25 „ | 5—IV. | 30 „ | 22 ,, | 25 ,, |
| 30 „ | 10 „ | 4—VI. | 27 ,, | 30 ,, |
| 1—VII. | 11 „ | 5 ,, | 28 ,, | 1—XII. |
| 5 „ | 15 „ | 9 ,, | 1—XI. | 5 ,, |
| 10 „ | 20 „ | 14 ,, | 6 ,, | 10 ,, |
| 15 „ | 25 „ | 19 ,, | 11 ,, | 15 ,, |
| 20 „ | 30 „ | 24 ,, | 16 ,, | 20 ,, |
| 25 „ | 5—V. | 29 ,, | 21 ,, | 25 ,, |
| 30 „ | 10 „ | 4—VII. | 26 ,, | 30 ,, |
| 1—VIII. | 12 „ | 6 ,, | 28 ,, | 1—I. |
| 5 „ | 16 „ | 10 ,, | 2—XII. | 5 ,, |
| 10 „ | 21 „ | 15 ,, | 7 ,, | 10 ,, |
| 15 „ | 26 „ | 20 ,, | 12 ,, | 15 ,, |
| 20 „ | 31 „ | 25 ,, | 17 ,, | 20 ,, |
| 25 „ | 5—VI. | 30 ,, | 22 ,, | 25 ,, |
| 30 „ | 10 „ | 4—VIII. | 27 ,, | 30 ,, |
| 1—IX. | 12 „ | 6 ,, | 29 ,, | 1—II. |
| 5 „ | 16 „ | 10 ,, | 2—I. | 5 ,, |
| 10 „ | 21 „ | 15 ,, | 7 ,, | 10 ,, |
| 15 „ | 26 „ | 20 ,, | 12 ,, | 15 ,, |
| 20 „ | 1—VII. | 25 ,, | 17 ,, | 20 ,, |
| 25 „ | 6 „ | 30 ,, | 22 ,, | 25 ,, |
| 30 „ | 11 „ | 4—IX. | 27 ,, | 2—III. |
| 1—X. | 12 „ | 5 ,, | 28 ,, | 3 ,, |
| 5 „ | 16 „ | 9 ,, | 1—II. | 7 ,, |
| 10 „ | 21 „ | 14 ,, | 6 ,, | 12 ,, |
| 15 „ | 26 „ | 19 ,, | 11 ,, | 17 ,, |
| 20 „ | 31 „ | 24 ,, | 16 ,, | 22 ,, |
| 25 „ | 5—VIII. | 29 ,, | 21 ,, | 27 ,, |
| 30 „ | 10 „ | 4—X. | 26 ,, | 1—IV. |
| 1—XI. | 12 „ | 6 ,, | 28 ,, | 3 ,, |
| 5 „ | 16 „ | 10 ,, | 4—III. | 7 ,, |
| 10 „ | 21 „ | 15 ,, | 9 ,, | 12 ,, |
| 15 „ | 26 „ | 20 ,, | 14 ,, | 17 ,, |
| 20 „ | 31 „ | 25 ,, | 19 ,, | 22 ,, |
| 25 „ | 5—IX. | 30 ,, | 24 ,, | 27 ,, |
| 30 „ | 10 „ | 4—XI. | 29 ,, | 2—V. |
| 1—XII. | 11 „ | 5 ,, | 30 ,, | 3 ,, |
| 5 „ | 15 „ | 9 ,, | 3—IV. | 7 ,, |
| 10 „ | 20 „ | 14 ,, | 8 ,, | 12 ,, |
| 15 „ | 25 „ | 19 ,, | 13 ,, | 17 ,, |
| 20 „ | 30 „ | 24 ,, | 18 ,, | 22 ,, |
| 25 „ | 5—X. | 29 ,, | 23 ,, | 27 ,, |
| 30 „ | 10 „ | 4—I. | 28 ,, | 3 ,, |

# Інфармацыйны аддзел

## Меры і вагі

### Меры

**Меры даўжыні.** 1 кілёмэтр (км) раўняецца 1000 мэтрам. 1 мэтр (м) = 100 сантымэтрам (см) або 1000 мілімэтрам (мм).

**Меры паверхні** (плошчы). 1 гэктар (ha) — 100 араў або 10.000 квадратных мэтраў. 1 ар (а) — 100 кв. мэтр.

**Меры абыйма** (цечаў і сыпкасьцяў). 1 гэкталітр (hl) = 100 літрам. 1 літр (l) = 1000 куб. сантымэтр.

### Вагі

1 тонна (t) — 1000 кілёграмам або 10 цэнтнарам. 1 цэнтнар або квінталь (q) — 100 кілёграмам. 1 кілёграм (kg) або кілё — 1000 грамам або 100 дэкаграмам. 1 дэкаграм (dk) або дэка — 10 грамам. 1 грам (g) — 1000 міліграмам (mg), 1 карат (для дарагіх каменьняў) — 205 міліграмам.

### Іншыя меры

На нашых землях яшчэ ўжываюцца прадваенныя меры.

**Меры даўжыні.** 1 міля — 7 вёрстам, 1 вярста — 500 сажням, 1 сажань 3 аршынам, 1 аршын — 16 вяршком або 28 цалям, 1 сажань (польскі) — 3 локцям, 1 локаць — 22 цалям.

**Меры плошчы.** 1 валока — 20 дзесяцінам або 30 маргом, 1 дзесяціна — 2400 квадр. сажням, 1 морг — 1230 квадр. сажням.

**Меры абыйма** (для цечы й сыпкасьцяў). 1 асьміна — 4 чверцям — 32 гарнцам, 1 чверць — 8 гарнцам, 1 гарнец — 4 квартам, 1 кварта — шклянкам, 1 вядро — 40 бутэлькам або 100 чаркам.

**Меры вагі.** 1 пуд — 40 фунтам, 1 фунт — 32 лотам або 96 залатнікам.

### Параўнаньне мэтрычных і іншых мер

1 вярста — 1,066 кілёмэтраў., 1 кілёмэтр — 0,94 вярсты — 468 сажняў.
1 сажань — 2,133 мэтру, 1 мэтр — 0,47 сажні.
1 аршын — 0,711 мэтры, 1 мэтр — 1,4 аршына.
1 цаля — 2,54 сантымэтры, 1 сантымэтр — 0,39 цалі.
1 дзесяціна — 1,092 гэктара, 1 гэктар — 0,916 дзесяціны.
1 морг — 0,6 гэктара, 1 гэктар — 1,786 морга.
1 кв. сажань — 4,552 кв. мэтр., 1 кв. мэтр — 0,219 кв сажн.
1 кв. аршын — 0,505 кв. мэтр, 1 кв. мэтр — 1,977 кв. арш.
1 пуд — 16,38 кілёгр., 1 кілёгр. — 0,061 пуда.
1 фунт — 0,409 кілёграма, 1 кілёгр. — 2,44 фунта.
1 лот — 12,79 грама, 1 грам — 0,08 лота.
1 асьміна — 1,049 гэкталітра, 1 гэкталітр 0,95 асьміны.
1 чверць — 26,23 літра, 1 літр — 0,038 чверці.
1 гарнец — 3,279 літра, 1 літр — 0.298 гарнца.
1 кварта — 0,75 літра, 1 літр — 1,33 кварты.
1 вядро — 12,29 літра, 1 літр — 0,081 вядра.
1 бутэлька — 0,61 літра, 1 літр — 1,62 бутэлькі.

---

## Штамплёвая аплата

*(З уставы ад 7 чэрвеня 1935 г.)*

1. **Заява** (podanie) агульнага характару ў дзярж. установы — 5 зал., аб зьмяншэньні падатку, даніны і інш.: а) пры суме да 50 зал. — не падлягае аплаце, b) пры суме ад 50 да 100 зал. — 50 гр., с) пры суме болей за 100 зал. — 2 зал.
2. **Далучнікі** да заявы — за кожны па 50 гр.
3. **Пасьведчаньні** выдаваныя судом, натарусам — 5 зал.
4. **Даверанасьць** у гарадзкі суд, суд працы, прамысловы або купецкі суд — 1 зал.; у іншыя ўстановы і публічныя ўрады — 3 зал.; у справах карных: судовых, адміністрацыйных, скарбовых — вольныя ад аплаты.
5. **Умовы** продажы, арэнды, замены рухомасьці — ад сумы вартасьці — паўпрацэнта.
6. **Рахункі** да 20 зал. не аплачваюцца штэмплям; вышэй 20 зал. ад кожных поўных і няпоўных 50 зал. па 10 гр.
7. **Расьпіскі** на атрыманьне грошаў, цэнных папераў да 50 зал. вольныя ад аплаты; вышэй гэтай вартасьці — па 25 грашоў.
8. **Вэксалі** на суму да 50 зал. — 30 грашоў; ад 50 да 1000 за кожныя поўныя й няпоўныя 100 зал. — па 30 гр.
9. Мэтрычныя выпісы — 3 зал.

**Увага.** Заявы культурна-асьветных гурткоў у справе дазволу на ладжаньне спэктаклю, калі даход ад яго празначаецца на культурна-прасьветныя ці дабрадзейныя мэты, — вольныя ад штамплёвае аплаты.

---

# Паштовая тарыфа

## А. Нутраны абарот (у самой Польшчы)

### Пісьмы звычайныя:

| | | | |
|---|---|---|---|
| да 20 грамаў | мясцовыя 15 гр. | замясцовыя | 25 гр. |
| 20—250 „ | „ „ 30 „ | „ | 50 „ |
| 250—500 „ | „ „ 40 „ | „ | 75 „ |
| 500—1000 „ | „ „ 55 „ | „ | 100 „ |

Даўжыня, шырыня й вышыня (таўшчыня) пісьма узятыя разам ня могуць перавышаць 90 цэнтымэтраў.

### Паштовыя картачкі:

Адзіночныя мясцовыя 10 гр., замясцовыя — 15 гр.
З аплач. адказам „ 20 „ „ „ 30 „

Разьмер паштовай картачкі ня можа перавышаць 15×15,5 цм.

### Друкі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| да 20 грамаў | 5 гр. | 100—250 грамаў | —25 гр. |
| 20—50 „ „ | 10 „ | 250—500 „ „ | 50 „ |
| 50—100 „ „ | 15 „ | 500—1000 „ „ | 60 „ |

### Пробы тавараў:

| | |
|---|---|
| да 100 грамаў — 10 гр. | Разьмер пробы тавараў — як звычайнага пісьма. |
| 100—250 „ „ — 20 „ | |
| 250—500 „ „ — 30 „ | |

Перасылкі мяшаныя (друкі, пробы тавараў, гандлёвыя паперы):

| | |
|---|---|
| да 100 грамаў | — 15 гр. |
| 100—250 „ „ | „ 25 „ |
| 250—500 „ „ | „ 50 „ |

Пісьмы заказныя: аплачваюцца, як пісьмы звычайныя адпаведнай вагі й апрача таго дадатковая аплата за заказ — 30 гр.

Пісьмы цэнныя: аплачваюцца, як пісьмы заказныя адпаведнай вагі й апрача таго дадатковая аплата за кожныя 100 залатых азначанай вартасьці:

па 10 гр. — калі пісьмо пасылаецца закрытым
па 30 „ „ „ „ адкрытым

Азначаная вартасьць пісьма ня можа перавышаць 10.000 залатых.

### Пераводы грошаў:

| | |
|---|---|
| да 20 залатых | — 20 гр. |
| 20—50 „ | — 40 „ |
| 50—100 „ | — 60 „ |
| 100—500 „ | —100 „ |
| 500—1000 „ | —150 „ |

Пераводы грошаў па тэлеграфу: аплата, як вышэй + аплата за тэлеграму ад колькасьці слоў і яшчэ + 20 гр.

## Б. Замежны абарот (заграніцу).

**Пісьмы:** да 20 грамаў— 55 гр., за кожныя далейшыя 20 грамаў па 30 гр. У Чэхаславаччыну, Аўстрыю, Румынію й Вугрыю:да 20 грамаў—45 гр., за кожныя далейшыя 20 грамаў па 30 гр. Найвышэйшая дапушчальная вага — 2 клгр., разьмер — як пісьмо ў нутраным абароце.

**Паштовыя картачкі:** адзіночная — 30 гр., з аплачаным адказам — 60 гр. У пералічаныя вышэй гаспадарствы адпаведна — 25 і 50 грашоў.

**Друкі:** за кожныя 50 грамаў — 10 грашоў. Найвышэйшая дапушчальная вага — 2 клгр.

**Пробы тавараў:** да 100 грамаў — 20 гр., за кожныя далейшыя 50 гр. — 5 гр. Найвышэйшая дапушчальная вага — 500 грамаў.

**Перасылкі мяшаныя:** (друкі, пробкі тавараў, гандлёвыя паперы): да 100 грамаў — 20 гр., за кожныя далейшыя 50 гр. — 10 гр. Найбольшая дапушчальная вага — 2 кг.

**Пісьмы заказныя:** аплачваюцца як пісьмы звычайныя адпаведнай вагі й апрача таго дадатковая аплата за заказ — 45 грашоў.

**Пісьмы цэнныя:** аплачваюцца як пісьмы заказныя адпаведнай вагі й апрача таго дадатковая аплата за кожныя 300 залатых азначанай вартасьці — 50 грашоў. Азначаная вартасьць пісьма ня можа перавышаць 5,000 франкаў у золаце, або адпаведнай раўнавартасьці ў польскіх залатых.

**Пераводы грошаў.** У Канаду, Злуч. Штаты Пн Ам., Англію й краіны, куды пераводзяцца грошы за пасярэдніцтвам Англіі: да 100 зал. — 1 зал., за кожныя далейшыя 100 зал. або іх часьць — 1 зал.

У-ва ўсе іншыя краіны, з каторымі вядзецца перавод грошаў: да 100 зал. — 85 граш., за кожныя далейшыя 100 зал. або іх часьць — 50 грашоў.

## В. Тэлеграмы

**Нутраны абарот (у самой Польшчы):** за кожнае слова 15 грашоў + за тэлеграму 25 грашоў.

**Замежны абарот (заграніцу):** аплата залежыць ад краю й дарогі і азначана ў замежнай тэлеграфічнай тарыфе.

*Увага:* Усякія паштовыя перасылкі ў Данцыг аплачываюцца па нутраной тарыфе тады, калі адрас напісаны папольску: **Gdańsk 1.**

Адрасуючы-ж: **Danzig** — усякія паштовыя перасылкі аплачваюцца паводле замежнай тарыфы — вынятак толькі для пісьмаў, каторыя ў гэтым выпадку аплачываюцца паводле нутраной тарыфы.

## Ґ. Пачкі (пасылкі)

| Вага | | Пояс 1 да 100 км. | 2 101-300км. | 3 301-600км. |
|---|---|---|---|---|
| **Пачкі прыватныя** | | | | |
| да 1 | клгр. | 0,50 зал. | 0,50 зал. | 0,60 зал. |
| 1— 3 | „ | 0,70 „ | 0,80 „ | 1,20 „ |
| 3— 5 | „ | 0,90 „ | 1,30 „ | 1,80 „ |
| 5—10 | „ | 1,30 „ | 2,30 „ | 3,00 „ |
| 10—15 | „ | 1,70 „ | 3,00 „ | 4,50 „ |
| 15—20 | „ | 2,00 „ | 3,80 „ | 5,80 „ |
| **Пачкі з харчамі** | | | | |
| да 5 | клгр. | 0,50 зал. | 0,50 зал. | 1,00 зал. |
| 5— 6 | „ | „ „ „ | „ „ „ | 1,20 „ |
| 6— 7 | „ | „ „ „ | 0,70 „ | 1,30 „ |
| 7— 8 | „ | „ „ „ | 0,80 „ | 1,50 „ |
| 8— 9 | „ | 0,60 „ | 0,90 „ | 1,60 „ |
| 9—10 | „ | „ „ „ | 1,20 „ | 2,00 „ |
| 10—15 | „ | 0,80 „ | 1,60 „ | 3,00 „ |
| 15—20 | „ | 1,00 „ | 2,20 „ | 4,00 „ |
| **Пачкі з кнігамі й выданьнямі** | | | | |
| да 1 | клгр. | 0,25 зал. | 0,25 зал. | 0,30 зал. |
| 1— 3 | „ | 0,35 „ | 0,40 „ | 0,60 „ |
| 3— 5 | „ | 0,45 „ | 0,65 „ | 0,90 „ |
| 5—10 | „ | 0,65 „ | 1,15 „ | 1,50 „ |
| 10—15 | „ | 0,85 „ | 1,50 „ | 2,25 „ |
| 15—20 | „ | 1,00 „ | 1,90 „ | 2,90 „ |

Пачкі (пасылкі) **цэнныя: за кожныя 100 зал.** або іх часьць—10 гр. Азначаная вартасьць ня можа перавышаць—10.000 залатых.

# Беларускае арганізаванае жыцьцё

### Беларускія арганізацыі і інстытуцыі

## У Польшчы

1. Беларускае Народнае Аб'еднаньне (Б.Н.А.), палітычная арганізацыя, якая ўтварылася на месца Б.Х.Д. Вільня, Завальная 1—1.
2. Віленская Беларуская Гімназія, філія польскай дзяржаўнай гімназіі. Вільня, Даманіканская 3/5.
3. Беларускі Музэй. Вільня, Астрабрамская 9.
4. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны. Вільня, Завальная 1—2.
5. Беларускі Студэнцкі Саюз. Вільня, Завальная 1—2.
6. Беларускі Банк. Вільня, Каралеўская 3—8.
7. Беларуская Кнігарня „Пагоня." Вільня, Завальная 1—2.
8. Кнігарня Ст. Станкевіча. Вільня, Астрабрамская 2.
9. Беларускі Касьцельны Камітэт. Вільня, Завальная 1—1.
10. Беларускае Каталіцкае Выдавецтва. Вільня, Домініканская 4—4.
11. Рэд. „Шлях Моладзі." Вільня, Завальная 1—2.
12. Рэд. „Калосьсе," квартальнік літ.-навуковы. Вільня, Завальная 1—2.
13. Рэд. „Самапомач," коопэратыўна-гаспадарскі месячнік. Вільня, Завальная 1—2.
14. Рэд. „Беларуская Борць," пчалярскі часапіс. Вільня, Каралеўская 3.
15. Рэд. „Chryścijanskaja Dumka," беларускі тыднёвік. Вільня, Завальная 1—2.
16. „Беларускі Летапіс," Вільня. Каралеўская 3—8.

## У Літве

1. Беларускае культурна-асьветнае таварыства ў Літве. Пры т-ве існуюць: 1) Жаночы гурток, 2) Хор, 3) Беларускі тэатр. — Коўна.
2. Беларускі Цэнтр (паліт. арганізацыя). — Коўна.
3. Нацыянальная сувязь Беларусаў Літвы. — Коўна.
4. Беларускі народны унівэрсытэт. — Коўна.

## У Латвіі

Пасьля ліквідацыі беларускага арганізаванага жыцьця—асталася ў Латвіі адзіная беларуская арганізацыя, гэта: Таварыства Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі — Рыга.

## У Францыі

„Хаўрус“ — арганізацыя Беларусаў у Францыі.—Парыж.

## У Чэхаславаччыне

1. Беларуская Рада ў Празе. Modrany u Prahy č. 688.
2. Аб'еднаньне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацый — АБСА. Прага.
3. Беларускае Культурнае Т-ва ім. Фр. Скарыны. Praha—Dejvice. ul. Hanackeho pl. č. 548 (obchod).
4. Рэд. „Iskry Skaryny,“ там-жа.
5. Беларускі Заграні́чны Архіў. Praha IV, Toskansky palac.

## Важнейшыя культурныя ўстановы БССР

1. Акадэмія Навук (раней: Інстытут Беларускае Культуры і Беларуская Акадэмія Навук). — Менск.
2. Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. — Менск.
3. Сельска-Гаспадарчы Інстытут. — Горы-Горкі.
4. Дзяржаўны Музэй. — Менск.
5. Беларуская Дзяржаўная Бібліятэка. — Менск.
6. Беларускі Дзяржаўны Тэатр I, II, III. — Менск.



*ГРАМАДЗЯНЕ! Чытайце і выпісвайце беларускія кніжкі і газэты!*





*Гумар*

## Жабка

(*Байка*)

Жабка вырасла у ставе
І давай пяяць сабе:
—„Квак, квак, квак, квак...“
—„Чаго ўлезла, жаба, ў стаў,
Які чорт цябе угнаў?»
　— Пытаецца рак.
Жабка кажа: „Вот бяда —
Мая хата, гдзе вада.“
—„Вон ганіце вы яе,
Яна спаць мне не дае,“
　— Кажа лін.
Карась нос падняў, як клін,
Так яе стаў навучаць:
—„Маўчы, рыбы тут маўчаць.“
　Жабка аднак:
　Квак, квак, квак...
Праз дзень, праз ноч.
Рыбы злыя, гоняць проч.
Скуль ня ўзяўся там рыбак,
Жабка спрытна баўтанула,
Што прапаў яе і сьлед.
Рыб бяда там ня мінула,
Бо рыбак з іх меў абед.
— — — — — — — —
Хто й жывець ціха —
Ня вольны ад ліха.

Янка Быліна

## Сьвіньня і сабака

(*Байка*)

Сьвінка ў пана захварэла:
Ўночы спала, а ўдзень ела
Скора надта растлусьцела —

Чуць падняць магла ўжо зад.
Пан быў вельмі з сьвінкі рад:—
Будзе слаўна саланіна
І каўбасы, дымяніна.
А сьвіньня аднак спужалась—
Мо' й хвароба прыблукалась?
Дык падумаўшы раз так,
У сабакі запытала:
—,,Відзеў ты людзей нямала,
Што за хірскі гэта знак:
І апэтыт ёсьць і сон,
А на ногі, чыста мука,
Не магу ніяк падняцца.“
Цюцька абышоў, панюхаў,
Пакруціў хвастом, паслухаў
І давай з сьвіньні сьмяяцца:
—,,Вот так штука,—
Кажа ён, —
То-ж хварэеш так васані,
Дык якраз, як наша пані.
Каб ўзялася ты за дзела,
А ўдабавак меней ела,
Ты-бы пэўна не хварэла.“

Янка Быліна

## Зразумеў, але пасвойму

**Панок з места:** Ваша сядзіба мне вельмі падабаецца, пане гаспадар. Я ахвотна наняў-бы ў Вас на лета гэтае памешканьне, калі-б толькі вун гэны сьвінарнік не стаяў так блізка хаты.

**Гаспадар:** Але-ж гэта, паночку, сьвіням ня шкодзіць, тут кажнае лета жывуць хворыя пані, а ў мяне, дзякуй Богу, яшчэ ніводная сьвіньня ня здохла ад гэтага.

## Паміж закаханымі

**Ён:** Мая птушачка, як паверыш у маё шчырае каханьне, на руках буду цябе насіць.

**Яна:** Ой, не! Другі раз ужо ня дамся на гэты кручок, бо аднаму паверыла, дык пасьля сама мусіла на руках насіць.



## Ці старая курыца?

Пазнаць курыцу — старая яна, ці маладая, можна па зубох, бо хоць курыца зубоў ня мае, але мае іх чалавек, што есьць курыцу.

## Падчас абеду

**Жонка:** Бачыш, якая ты сьвіньня: сабе ўзяў вялікую рыбу, а мне пакінуў меншую.

**Муж:** А ты, як зрабіла-б?

**Жонка:** Я?!...Пэўне, што ўзяла-б меншую...

**Муж:** Ну, то чаго-ж ты хочаш, я-ж табе і пакінуў меншую.

## Загадкі

*

Бяз ног, бяз крыльляў, а бяжыць шыбка. Ніколі ня сьпіць, а з ложка не ўстае.

Вада ў рэчцы.

*

—Як пазбыцца чужых курэй у сваім гародзе?

— Падкінуць пад плотам у сваім гародзе колькі яец, каб суседзі ня бачылі, а пазьбіраць іх талы, каб суседзі бачылі.

## Народныя пагаворкі

Каб ажаніцца, даўбы вала, каб разжаніцца—даўбы два.

Пашлі дурня па рыбу, дык ён жаб налове.

„Божа памажы,“ а сам не ляжы.

Пад ляжачы камень і вада не бяжыць.

# Зьмест

*бач.*

Wydawnictwo Białoruskiej Księgarni „Pahonia“ — Wilno, ul. Zawalna 1.
Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1